№ 11-12 (82)
24 сакавіка
1997 г.

# НАША НІВА

беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску

## Сустрэча з "Нашай Нівай"

**26 сакавіка** (серада) **"Наша Ніва"** ладзіць сустрэчу з чытачамі ў Менску ў кінатэатры **"Зьмена"**. Будзе дэманстравацца дакумэнтальны фільм **"Віленскі зборнік"** — пра віленскі пэрыяд аднаўленьня газэты **(1991 — 1995)**. У вечарыне возьмуць удзел супрацоўнікі рэдакцыі. Зь песьнямі "віленскага пэрыяду" выступіць **Зьміцер Бартосік.**



**Пачатак вечарыны а 18 гадзіне. Праезд да кінатэатру "Зьмена" трамваямі №3,6,7,9, аўтобусам №19.**

25 Сакавіка

## ТОЛЬКІ АДЗІН ДЗЕНЬ

Сярод усіх астатніх дзён беларускага календара толькі гэты дзень належыць цалкам нам. Сьвяты двух хрысьціянскіх календароў ужо ад сваe амбівалентнасьці для нашае нацыі не стаюць чыньнікам еднасьці. Дні, калі на нашых землях адна адміністрацыя зьмянялася іншай, прыкладам, польская – савецкай, ці нагода яны для сьвяткаваньня?

Толькі адзін дзень, які змусіў да Творчасьці наступныя пакаленьні беларусаў, толькі адзін дзень, у які па-над усім паўстаў здаровы альтруістычны беларускі Прагматызм, толькі адзін дзень, у які беларусы дэкляравалі на ўвесь сьвет сваю гатовасьць узяць Адказнасьць — 25 сакавіка.

*Камэнтар на старонцы 2.*




Здымак Міхала Баразны

## Адрэналінавыя думкі

Калі кажуць пра небясьпеку фашызму ў Беларусі, па-мойму, гэта мала каго кранае. Такія папярэджаньні звычайна не спрацоўваюць. Яшчэ Юліюс Фучык казаў: "Людзі, будзьце пільныя", а што з гэтага выйшла, усе ведаюць. Фашызм успрымаецца як лаянкавае слова зацятых ненавісьнікаў улады. І толькі.

*Эсэ на старонцы 3.*

Шуфляда

## Спроба сваёй гульні

Сюжэт зь Беларускай Незалежніцкай Партыяй (БНП) і з навучальным цэнтрам, які стварыў Абвэр у Дальвіцы ва Ўсходняй Прусіі, зьяўляецца тым клясычным прыкладам зь беларускае гісторыі, распавядаючы пра які, трэба рабіць пэўныя тлумачэньні і ўступы...

*Чарговы артыкул Сяргея Ярша з серыі "Партызанскімі сьцежкамі" на старонцы 4.*

## "10 на 10"

Невядомы аўтограф Уладзімера Караткевіча — ягоная рэцэнзія на кніжку вершаў Адама Глёбуса "10 на 10", зборнік, які так і не пабачыў сьвету.

*На старонцы 5.*

## Беласток

*Беларускае паселішча ў Сібіры*

Для многіх, а для беларусаў тым больш, слова Сібір амаль заўсёды стаяла побач са словамі катарга, ссылка, дэпартацыя... Бо з усіх шляхоў, якія вядуць у Сібір, для іх шлях катаржнікаў, ссыльных, дэпартаваных быў самы пратораны на працягу некалькіх стагодзьдзяў пры ўсіх урадах і рэжымах. Але адначасова былі й тыя, хто ехаў у гэты суворы край добраахвотна ў пошуках свайго асабістага шчасьця і лепшае долі.

*Артыкул Ігара Кузьняцова на старонцы 6.*

## БАРАЗНА Ў ГОРАДЗЕ

З 25 лютага да 12 сакавіка ў залі Музэя Беларускай Акадэміі Мастацтваў праходзіла выстава фатапраў Міхала Баразны, вядомага дызайнэра паліграфіі, графіка і мастацтвазнаўцы. Выстава, на якой экспанавалася колькі дзясяткаў каляровых і чорна-белых фатаздымкаў і каляжаў, звалася "Адзін у горадзе" і была прысьвечана аднаму гораду — Менску... Менск — як унівэрсум, праз які пазнаеш і ўсе гарады Эўропы.

*Чытайце на старонцы 9.*



Здымак Міхала Баразны

Анонс

## Басконскі рух




У 1954 годзе падчас аблавы ў Пірэнэйскіх гарах гішпанская жандары забілі апошняга байца антыфашысцка партызанкі, якая трывала тут з 1938 году. Пад небам Гішпаніі трыюмфавала бяздушная лёгіка: рэжым Франка, які падтрымліваецца ЗША, — гэта аб'ектыўная рэальнасьць, змаганьне зь якім дарэмнае. Моладзі прапанавалася канчаткова ўсьвядоміць, што "усё, што існуе – разумнае, а ўсё разумнае – гэта тое, што існуе", і вывучаць умовы і перавагі крэдытнай сыстэмы, якую тады адкрывала Эўропа.

Але насуперак палітычным разьлікам, моладзь паўстала. У пачатку 60-ых уся краіна была ахопленая дзейнасьцю маладых антыфашыстаў. Дылетанты ў падпольнай справе, яны хутка выкрываліся спэцслужбамі, але стрымаць хвалю супраціву было ўжо немагчыма.

У 1961 годзе ў шэрагу гучных назоваў разнастайных "фронтаў", "партыяў" і "рухаў" зьявілася абрэвіятура "ЕТА" (Euskadi Ta Askatasuna, з баск. "Краіна Баскаў (Эўскадзі) і Свабода"). Гэтак называлася арганізацыя, што аб'ядноўвала маладых басконскіх патрыётаў.

*Сэрыя артыкулаў Лёліка Ушкіна з гісторыі маладзёжнага супраціву ў сучаснай Эўропе.*

Літаратура

## Куды ідзеш

"Вось так мінуў Нэрон, як мінае віхор, бура, вайна альбо пошасьць..."

Апошнія дні антычнага тырана апісаныя ў эпілёгу рамана "Куды ідзеш" польскага пісьменьніка Генрыка Сянкевіча. Сёньня гэты твор, які беларускаму чытачу непазьбежна падказвае шмат сучасных асацыяцыяў, друкуецца на старонках 10-11.

Сяржук Сокалаў

## ЗАСТАВАЦЦА САМІМ САБОЙ

Калі Вы маеце пару вольных хвілінаў і хочаце змарнаваць час, тады сядайце як заўгодна і чытайце далей. Усё, што вы прачытаеце — мана, лухта сабачая. Не лухта пачнецца толькі тады, калі вашыя дурныя глузды павераць у прачытанае, бо напісанаму мы верым ад першай, яшчэ нават ня мокрай, пялюшкі...

*Апавяданьне на старонцы 11.*



Індэкс пацярпелых

## АРЫШТАВАНЫ СТЫЛЬ-РЭДАКТАР "НН"

Затрыманьні ўдзельнікаў супраціву пад час акцыі 14 сакавіка, як і чакалася, мелі працяг. 15 сакавіка, на Дзень Канстытуцыі, калі на вуліцы Менску выйшла больш за 10 тысяч менчукоў, арышты мелі не стыхійны, а мэтанакіраваны характар. Так, сярод сямі затрыманых чацьвёра былі дэлегатамі ўстаноўчай канфэрэнцыі свабоднага прафсаюзу студэнтаў, якая якраз і праходзіла ў гэты дзень, зраніцы. Адсочвалі і хапалі людзей ў розных месцах Менску ўжо пасьля таго, як мітынг закончыўся. І зноў жа рабілі гэта людзі ў цывільным.

Калі ў панядзелак у судзе Цэнтральнага раёну Менску праходзіла слуханьне справаў, судзьдзі былі бязьлітасныя. Усе арыштаваныя 15 сакавіка атрымалі па 5-10 сутак арышту. Судзьдзі А.Брагін, П.Каршуновіч і В.Эсман кіраваліся апошнім дэкрэтам Лукашэнкі, не зважаючы на закон аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Справы разглядаліся хутка. Сьведкі з боку абвінавачаных не заслухоўваліся. Сярод засуджаных быў і стыль-рэдактар "Нашае Нівы" Паўлюк Канавальчык.

Пратэстуючы супраць незаконных прысудаў, спачатку П.Канавальчык і А.Шыдлоўскі, а пазьней і астатнія, аб'явілі галадоўку пратэсту.

**Алесь Мазур**

# Толькі адзін Дзень Сьвята

“Дзень незалежнасьці для нас — галоўнае дзяржаўнае сьвята!”. Так сказаў Альгірдас Бразаўскас, маючы на ўвазе, натуральна, Літву. “Наша незалежнасьць прадвызначыла ўсё тое, што мы маем сёньня, і тое, што будзем мець,” — працягнуў ён. Незалежнасьць прадвызначае адказнасьць, перадусім за сябе, а пасьля і за наступныя пакаленьні. Падставаю Сьвята стаецца... адказнасьць?

Кажуць, што ў Бэльгіі на год прыпадае чатыры сотні сьвятаў, флямандзкіх і валёнскіх, маленькіх і вялікіх, рэлігійных і дзяржаўных, вясковых і местачковых, прафэсійных і народных... Пераяжджаючы зь вёскі ў вёску, зь места ў места, можна штодзень пасьпець на фэсты. Але сярод гэтага гармідару ёсьць адно агульнае сьвята, калі бэльгійцы зьбіраюцца разам — на дзень 21 ліпеня, які гэтак і завецца: Нацыянальнае Сьвята. У гэты дзень у 1831 годзе бэльгійцы абвясьцілі сябе незалежнымі. Гэты факт у Эўропе каго насьмяшыў, каго зьдзівіў, бо да таго дня Бэльгія ніколі не існавала як апрычоная дзяржава. Была тэрыторыя, якую называлі часьцей Фляндрыяй, альбо Флямандыяй, і каму яна толькі не належала!... Палова жыхароў гаворыць па-француску, палова — па-галяндзку, і ляжыць краіна паміж Францыяй і Галяндыяй. Што было б прасьцей: узяць і падзяліць!? Не, жыхары краю вырашылі быць разам і ляпіць новую, нікому невядомую нацыю. Падставаю Сьвята можа быць і жаданьне... творчасьці?

У Швэйцарыі мала сьвятаў, прагматычныя нашчадкі дысыдэнтаў і дзікіх горцаў не ўхваляюць нічоганяробства. У 1291 годзе, 1 жніўня, ганарлівыя свабодныя людзі гор, якія гаварылі на тузіне моваў і дыялектаў, вырашылі злучыцца разам, каб на вякі застацца вольнымі, і ўтварылі Канфэдэрацыю. Што зрабілі так званыя швэйцарцы, утварыўшы новую краіну?.. Пасьля палудні разышліся на працу! Дзюрэнмат вуснамі аднаго з герояў “Правасудзьдзя” кпіць, што Швэйцарыі не па кішэні цэлы выходны дзень. Праўда, сёньня сьвяткаваць разыходзяцца пасьля палудні... Адно прагматычнае жаданьне — не губляць ніколі больш, чым здабыта і зароблена — падштурхнула швэйцарцаў выявіць Волю. Падставаю Сьвята можа быць рацыянальная... прагматыка?

Што рухала людзьмі, якія ў 1918 годзе абвясьцілі Беларусь незалежнаю, самастойнаю і непадзельнаю дзяржавай? Чаму, абвясьціўшы пра стварэньне краіны 9 сакавіка, толькі пасьля гэтага, 25 сакавіка, абвясьцілі яе свабоднай і незалежнай? Больш за два тыдні Беларуская Народная Рэспубліка чакала акту Волі... Людзі, якія выявілі пачуцьцё Адказнасьці, самі паставілі сабе таўро на чало. Для адных зь іх гэта быў зорны час, для другіх — пачатак шляху на крыж. Ці не пра тое яны думалі, мацуючы свае сэрцы, усьведамляючы тое, што аддаюць сябе пэрсанальна на пакуты? Наколькі гэтае памкненьне было эмацыйным?

У тыя часы Фэрдынанд Рушчыц пісаў у сваіх дзёньніках: “... Памкненьне да мора і ўтварэньне вялікае беларускае дзяржавы разам з Курляндыяй. Расеі выракаюцца ўсе — гэта вынік уплыву рэвалюцыі”. Супрацьстаяньне анархіі, жаданьне абараніць свой край, сваю веру, жыцьцё сваіх родных ад крывавае бальшавіцкае буфанады — ад збройных наездаў акупантаў усіх гатункаў, хіба гэта не Прагматызм? Ці была альтэрнатыва? Рацыяналізм падказваў рэалістычныя крокі да канфэдэрацыі з народамі Балтыі, перадусім зь Літвою, з жыдамі... Як гэта мусіла б выглядаць на практыцы, не было яшчэ вядома нікому, але людзі Волі былі гатовыя да Творчасьці. Краіна, якая яшчэ ўчора ня мела свайго імя, права, інстытуцыяў, амаль што ня мела сваіх школаў, літаратуры, прафэсійнае культуры, гатовая была ствараць і Слова, і Зямлю... Сярод усіх астатніх дзён беларускага календара толькі гэты дзень належыць цалкам нам. Сьвяты двух хрысьціянскіх календароў ужо ад свае амбівалентнасьці для нашае нацыі не стаюць чыньнікам еднасьці. Дні, калі на нашых землях адна адміністрацыя зьмянялася іншай, прыкладам, польская — савецкай, ці нагода яны для сьвяткаваньня?

Толькі адзін дзень, які змусіў да Творчасьці наступныя пакаленьні беларусаў, толькі адзін дзень, у які па-над усім паўстаў здаровы альтруістычны беларускі Прагматызм, толькі адзін дзень, у які беларусы дэкляравалі на ўвесь сьвет сваю гатовасьць узяць Адказнасьць — 25 сакавіка.

**Сяргей Харэўскі**

Мора заўжды зьяўляецца зьнянацку. Ты дакладна ведаеш, што яно недалёка, магчыма, за бліжэйшым пагоркам, але вока не адразу адрозьнівае сінюю паску вады ад прасторы неба. Тым больш, калі жывеш ля мора, не зьвяртаеш на яго асаблівае ўвагі... Але першая сустрэча з морам — гэта пачуцьцё, якое немагчыма вытлумачыць. Яно падобнае да Сьвята.

Чаканьне сьвята найбольш моцнае ў дзяцінстве. Ты нырцуеш у яго, як у марскую ваду, каб адчуць першыя моманты лёгкага руху...

Большасьць сёньняшніх беларусаў успрымаюць факт абвяшчэньня незалежнасьці краіны 25 сакавіка 1918 году ня больш блізкім па часе, чым перамогу продкаў у Грунвальдзкай ці Аршанскай бітвах. Але я маю багата знаёмцаў, для якіх Дзень Волі — ці ня больш дарагі, чым Каляды, Вялікдзень ці нават уласныя Народзіны. Магчыма, яны баяцца згубіць СВАЁ Сьвята. Сьвята як сымбаль — народжаны зусім нядаўна, не да канца звыклы Дзень Волі, які штогод сустракаеш, нібы ўпершыню.

Сьвяты — каардынаты рэчаіснасьці. Уласнае Нараджэньне — Нараджэньне Хрыста — Нараджэньне Нацыі: радасьць Жыцьця. Ці ёсьць для беларуса ў гэтым шэрагу штосьці лішняе? На мой погляд, пры ўсіх магчымых варыяцыях перамяшчэньня гэтых датаў у залежнасьці ад значнасьці кожная зь іх робіцца менш вартаснай, калі ўспрымаецца асобна.

Зрэшты, у краіне, дзе ўсе сьвяты, ад Народзінаў да Новага Году спраўляліся на адзін “акцябарскі” ўзор, вонкавая праява “радасьці Жыцьця” набыла адпаведны агульны прысмак. Таму ад пачатку мы нанова адкрывалі для сябе старажытныя Каляды, Купальле, Дзяды... Мы сабралі гэты досьвед і стварылі НАША сьвята — Дзень Волі.

Гэта ўнівэрсальнае сьвята. Яму пасуе й вузкае сямейнае кола, і сябрына, і бурлівы вір дэманстрацыі. Яму пасуе патас і пэрфоманс. Яно не губляецца ні ў цішыні, ні ў гомане... Штогод Дзень Волі меў розныя варыянты сьвяткаваньня, але агульны настрой ніколі не мяняўся. Але сёлета ён стаўся як ніколі злым і вясёлым адначасова. Бо мы спазналі ягоны кошт. Ужо амаль спазналі! Цяпер мы ведаем, на што ідзем, калі адкрыта сьвяткуем Дзень Уласнае Незалежнасьці.

**Севярын Квяткоўскі**



## ПОШТА

Паважаная Рэдакцыя, час-часом думаю, чым менавіта прыцягвае маю ўвагу “Наша Ніва”, а адштурхоўвае, скажам, “Літаратура і Мастацтва”. Нейкага адназначна канкрэтнага аргумэнту ў гэтых маіх разважаньнях няма: і там, і там ёсьць тэксты, напісаныя з талентам, і графаманскія. Але вось нешта такое, што называем духам, у абодвух часопісах цалкам рознае. Да “Нашай Нівы” душа горнецца, як да нечага свайго, вельмі беларускага, а вось “Літаратура і Мастацтва”, хоць таксама надта беларускі часопіс, але як бы “чужакаваты”, так сказаць. Усё савецкі?

Прачытаў я невялікае эсэ Сяргея Паўлоўскага “Каменная тога Майсея”, зьмешчанае ў “Нашай Ніве” зь 10 лютага, і, здаецца, нешта дарэшты ўсьвядоміў я самому сабе, тое якраз, што дагэтуль толькі разумеў, але духоўна не асыміляваў. Дапамог мне Паўлоўскі яшчэ і тым, вядома, што пабудаваў ён свае высновы на матывах майго выказваньня як быццам у стылі нашумелага ў свой час верша Пімена Панчанкі пра разьвітаньне зь беларушчынай... Дапамог не адзін Паўлоўскі, дарэчы будзе зазначыць тут; таксама Алесь Чобат знакаміта напісаным тэкстам “Паэт і час”, які гэтак жа нядаўна дайшоў да маіх рук разам з кніжачкай “Максім Багдановіч”, надрукаванай у Горадні.

Хачу, фактычна, ня болей як дапоўніць высновы Сяргея Паўлоўскага, дадаць ім нечага кшталтам фактаграфіі. Я, як дзіця свае эпохі, верыў у першапачатковую моц Слова. Бралася гэта ў маіх перакананьнях ня столькі зь веры ў Хрыста-Бога, колькі ад націску камунізму на маю падсьвядомасьць. Усякі фашызм, нямецкі ці савецкі, у прынцыпе адкідаючы матэрыяльную матывацыю ў чалавечай актыўнасьці ў пабудове Раю, а маральнасьць дэградуючы да ўзроўню інструмэнту, — натуральна высока цэніць Слова як матэрыял, зь якога лепіць т. зв. НОВАГА ЧАЛАВЕКА. На першы погляд, як быццам аналягічна з хрысьціянствам... Але зусім не! У хрысьціянстве і ў іншых істотных рэлігіях сьвету найважным ёсьць чалавек, душа. Адваротная сытуацыя ў камуністычнай ідэалёгіі, у якой вырашальны фактар — гэта грамадзтва, натоўп адзінак, бясконцая маса нулёў. Рэвалюцыянэры ніколі не задумваліся над недатыкальнасьцяй чалавечага жыцьця; ім важна было адно —колькі людзей зьніштожыць, каб дасягнуць мэтаў “построения нового мира”. Думалі катэгорыямі вялікіх лічбаў, татальнасьці. А маральнае ў іх усё тое, што гэтаму служыць!

Адсюль бярэцца празьмернае значэньне прапаганды за савецкім часам, пачуцьцё мэсыянства ў валодаючых пяром людзей, пісьменьнікаў, журналістаў. Яно тыповае элітам усюды там, зрэшты, дзе галота і беспрасьвецьце. Элемэнтарна вядома, што дэмакратыя магчымая толькі ў багатых нацыях, заможных. У іх газэта ці кніжка — гэта тавар, які купляеш сабе ў адпаведнасьці з тваімі інтэлектуальна-духоўнымі запатрабаваньнямі (спрошчана кажучы). У нас жа тыя самыя друкі паяўляюцца ў ролі перш за ўсё масавага арганізатара, натхняльніка; прапаведніцтва ды апостальства. Угавору замест аналізу.

Пішу вось ужо сорак гадоў. І нават сёньнячы зь ціхай перакананасьцяй, што цэльнае слова дзейнічае, мілітарным прыкладам кажучы, як стрэл рэвалюцыянэра ў грудзі... антыбеларускай контры! Хоць разумею, што беларуская кніжка даходзіць усяго да двух працэнтаў чытаючых беларусаў, і што няшмат лепш з газэтамі ды часопісамі на роднай мове (большасьці ўжо няроднай). Я з такім мэнталітэтам раблюся анахронікам у Беластоцкім краі, у якім можаш і голы бегаць па рынку мястэчка ў акце пратэсту, ніхто не арыштуе, а паліцыянт зь літасьці запрэ цябе ў хату, каб не застудзіўся; палкаю не наб’е, бо за гэта ён сам сеў бы ў турму. Бабулі заплююць галяка, але гэта ўжо іншая гісторыя, як сказаў бы Чэхаў.

Літаратура перастае быць т.зв. сумленьнем нацыі, пераходзячы ў нармальнасьць, у артыстычнасьць. У чыстую красу, паводле Багдановіча. Нават у польскай паэзіі са сьвечкай трэба пашукаць верш пра любоў да айчыннае мовы (англамоўным чытачам такая тэматыка наогул уяўляецца гатункам псыхічнае хваробы). Але ня ў нас. Кахаем і кахаем сваё Слова, а яго ўсё меней і меней. Нейкі ананізм, ад якога ня родзяцца спадкаемцы.

Я разумею ўсю неразумнасьць жалю да тых “40 гадоў свайго беларусаваньня”. Мала таго — усю сьмешнасьць! Ды: мазгі сваё, а сэрца сваё. У тым веліч і нізкасьць адначасна чалавека як такога. У кожнага анёл з чортам кватаруюць; сьлёзы драмы і рогат камэдыі. Банальнае пытаньне: ці магчыма было быць іншым? Адказ на яго ажно да зьняважлівасьці просты, рытарычны на рытарычнае.

У вас, у Рэспубліцы Беларусі, няхутка будзе сяк-так добра. І таму няхутка беларускіх паэтаў зьменяць ПРОСТА ПАЭТЫ, як зазначае Чобат пры нагодзе слова пра Багдановіча.

Іншым разам падумаецца мне вось што: у цяперашнім становішчы абвальнага ўпадку беларушчыны роспачная актыўнасьць на нацыянальнай ніве набывае рысы зручнага АЛІБІ для ўладаў, якія, будучы беларускімі толькі ў тэрытарыяльна-геаграфічным сэнсе, нічога і ня думаюць рабіць, каб перапыніць прычыны дэнацыяналізацыі, не дапусьціць да іх акамянеласьці ў аб’ектыўныя фактары, пасьля чаго і święty Boże nie pomoże.

**Шчыра Ваш Сакрат Яновіч**

*Крынкі, 26-02-1997.*

Паважаная рэдакцыя!

Прапаную вам зрабіць складаную, але вельмі добрую справу — арганізаваць збор сродкаў на выданьне кнігі “Сьцяна” Васіля Быкава.

Ведаю, што час цяжкі, жывецца кепска, але веру, што людзі падтрымаюць пісьменьніка і вашу акцыю. Разумею, што рынкавыя адносіны прыйшлі і ў мастацтва. Але не дапамагчы выдаць Быкава?! Чаго мы тады вартыя?

Абмяркуйце гэта з калегамі зь іншых недзяржаўных СМІ. Трэба, каб гэтая справа стала па-сапраўднаму народнай.

**З павагай Мікола Кулік,**

*Гомель.*

Дзень добры, паважаная газэта “Наша Ніва”.

Хачу паразважаць на адну тэму. Ужо, як вядома, беларуская нацыя сфармавалася. У кожнай сапраўднай нацыі ёсьць свая тэрыторыя (Беларусь), свая мова (беларуская), свая гісторыя, свой герб (Пагоня), свой сьцяг (бел-чырвона-белы), але ў беларускай нацыі (не жыхароў Беларусі, а нацыі) няма свайго гімну, сапраўднага нацыянальнага гімну, ці гімну нацыі. Таму на мітынгах і шэсьцях людзі ідуць калёнамі і крычаць хто што хоча, дарэчы і зусім недарэчы. Я думаю, што трэба склікаць зьезд вядомых у Беларусі пісьменьнікаў, гісторыкаў, мастакоў, фальклярыстаў і іншых прадстаўнікоў беларускай нацыі і на грунце нашай гісторыі неяк вырашыць з гімнам. Спачатку можна падняць дыскусію на базе газэты. Потым, калі зьезд прадстаўнікоў беларускай нацыі (як вядома, у нас нацыя адлучана ад дзяржавы) зацьвердзіць нацыянальны гімн. Яго трэба прадрукаваць у газэтах, улётках і яшчэ дзе толькі можна, каб данесьці да народу. Каб потым нацыя, якая рушыць у калёнах, сьпявала гімн. Гімн яднае нацыю. Літоўцы кажуць, што ня згінулі, таму што сьпявалі. Рэжым будзе баяцца 20-30-тысячную калёну, якая сьпявае гімн беларускай нацыі.

Асабіста я ўважаю за гімн песьню М.Багдановіча “Пагоня”.

З павагай, Ваш падпісчык

**Бандарчык Валодзя,**

*Менск*

# АДРЭНАЛІНАВЫЯ ДУМКІ

*Калі кажуць пра небясьпеку фашызму ў Беларусі, па-мойму, гэта мала каго кранае. Такія папярэджаньні звычайна не спрацоўваюць. Яшчэ Юліюс Фучык казаў: "Людзі, будзьце пільныя", а што з гэтага выйшла, усе ведаюць. Фашызм успрымаецца як лаянкавае слова зацятых ненавісьнікаў улады. І толькі.*

Калі прэса акцэнтуе ўвагу на словах Лукашэнкі пра тое, што "ня ўсё толькі дрэннае было ў палітыцы Гітлера", — гэта сьведчыць пра барацьбу ідэяў. Адзін прыхільнік рэжыму не паверыць, што кумір мог такое сказаць, другі, на ўсякі выпадак, здыме асабістае табу з асобы Гітлера. Трэцяму ня хопіць аб'ёму фразы: мала што магло зьляцець зь языка ў маладога прэзыдэнта!

Нарэшце, калі аналітыкі дакопваюцца да мэханізму дыктатуры, то тут ужо ёсьць пра што падумаць. Напрыклад, пра рэфэрэндумы — так званае спрашчэньне дэмакратыі. Колькі іх было ў Гітлера? Пяць? У Лукашэнкі пакуль толькі два...

***

На жаль, ня так проста даведацца, што адбываецца ў галовах тых, хто сёньня кіруе краінай. Гэта вам не за Шушкевічам і Кебічам, калі незалежныя журналісты лёгка прасочваліся ў апартамэнты і дапускаліся да аб'ектывак. Цяпер беларускае начальства на вуліцы Карла Маркса заняло глухую інфармацыйную абарону, зусім як у савецкі час.

Вось чаму не безь цікавасьці сустрэўся новы прэзыдэнцкі часопіс, прысьвечаны сьветапоглядным пытаньням. "На рубеже столетий" называецца. Галоўнае ўражаньне ад яго — паралель з фашызмам не абвяргаецца, а наадварот, становіцца больш адчувальнай. Я маю на ўвазе яшчэ ня практыку і не ідэалёгію, а самыя зародкі ГЭТАГА ў галовах улады і тое, як ГЭТА адгукаецца ў розумах публікі.

Магчыма, некалі яно будзе названае зусім не фашызмам або сталінізмам, а неяк інакш. Гэта ня так істотна. Важна, што гэта мысьленьне аднаго парадку. І я паспрабую акрэсьліць гэтую роднасную сувязь.

Аўтары новага часопіса стараюцца пазьбягаць канфліктных момантаў. Яны ўпарта вышукваюць у нашым паўнацыянальным паўцывілізаваным краі свой пазытыўны філязофскі ход. Прычым паўнацыянальнасьць і паўцывілізаванасьць успрымаюцца імі як нязьменная дадзенасьць. Зрэшты, такі погляд не стамляецца дэкляраваць і прэзыдэнт краіны. У новым часопісе яны хочуць стварыць бачнасьць сьветлаты, разумнасьці і дабрыні ўсяго, пра што яны пішуць. "Когда так темно, подумаем о Свете!" — словы, вынесеныя на вокладку.

Але не атрымліваецца. За ўсімі гэтымі прыдыханьнямі ўсё адно прачытваецца слова — вораг.

Выдае часопіс паліграфічнае прадпрыемства кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. А заснавала яго група арганізацыяў, сярод якіх вылучаецца нейкі чарговы Беларускі рух, на гэты раз — рух у абарону народу.

Памятаю, постсавецкія тэарэтыкі ёрнічалі: вось вы кажаце — незалежнасьць і свабода, а незалежнасьць і свабода — ад каго? Сапраўды, задумваўся іншы — ад каго? Між тым, усё было проста. Свабода і незалежнасьць — самадастатковыя каштоўнасьці. І запытаньне да іх было звычайным прыёмам дэмагогіі. А вось АБАРОНА — тут ужо нікуды ня дзенесься, заўсёды ў кантэксьце мусіць быць верагодны праціўнік. У кантэксьце Беларускага руху ў абарону народу мусіць быць ВОРАГ народу. Старыя, увогуле, рэчы...

***

Некалі я спрабаваў знайсьці адказ — адкуль у часы канцлягераў і войнаў у людзях бярэцца такая лютасьць і нянавісьць адзін да аднога? І дзе гэтая лютасьць хаваецца ў мірны час? І як разгадаць яе за будзённымі позіркамі тых, хто вакол нас?

Раптам падаюць усе перагародкі, якія адрозьніваюць гома сапіенса ад зьвера і на белы сьвет з самае глыбіні чалавека вылазіць драпежнік...

Праблема, хіба, ня ў тым, каб дадушыць у чалавеку таго глыбіннага зьвера. Ён, зьвер, нібы электрычнасьць, можа забіць, але безь яго мы, бадай, ператварыліся б у безжыцьцёвыя целы. Праблема, каб чалавек у любых абставінах кантраляваў сябе і не зьвярэў. А для гэтага існуюць пэўныя каноны — этычныя. На дзяржаўным узроўні іх мусіць ахоўваць ідэалёгія. Новы прэзыдэнцкі часопіс "На рубеже столетий" пра гэта ня піша. Ён гэта адлюстроўвае, даючы свае адказы на пытаньні быцьця.

***

Дзікунства паходзіць ад уседазволенасьці. Памятаеце, як Міця Карамазаў ажно спацеў ад уласнага шчасьліва-жахлівага адкрыцьця: "Дык гэта ж калі Бога няма, значыць, усё дазволена?"

А адкуль, у сваю чаргу, бярэцца тая ўседазволенасьць?

Некалі мой сябра, даўні перакладчык беларускай паэзіі Земавіт Фэдэцкі, які ў вайну дапамагаў маці беларускіх жыдоў, тлумачыў мне, адкуль на масавым узроўні выбухнула тая ўседазволенасьць. Любая самая разумная ідэя ператвараецца ў абсурд і дзікунства, калі яе спрасьціць. У спрашчэньні ўся справа. Гэтак адбывалася з сацыялізмам, які распрацавалі высакалобыя тэарэтыкі, а пасьля спрасьцілі недавучаныя ў хабзе настаўнікі. Тыя, каго Фэдэцкі назваў чвэрцьінтэлігенцыяй. І калі высакалобыя пакінулі зямны сьвет, ім на зьмену прыйшлі спрашчальнікі са сваімі працамі па мовазнаўстве і тэорыямі расавага антаганізму.

Агульным словам, новы часопіс "На рубеже столетий" — гэта і ёсьць спрашчэньне, разьлічанае менавіта на чвэрцьінтэлігенцыю. Так бы мовіць, сучасны варыянт.

На гэты раз яны пачынаюць з Настрадамуса, з цытат і артыкулаў пад рубрыкамі "Библия — о труде" і "Кое-что о здоровье нации", а галоўнае — з Алены Іванаўны Рэрых.

Гадоў пяць таму ў Беларусі цэлы рух утварыўся — аматараў Рэрыхаў. У побыце іх часта жартам называлі "рэрыхнутымі". Увогуле цікавы мог атрымацца сынтэз нацыянальнай ідэі і вучэньня Агні Егі. Праўда, нічога значнага з усяго гэтага ня выйшла. Ну ды няхай. Але адна рэч — клубная ідэя, і зусім іншая — ідэя, узятая на ўзбраеньне рэжымам чвэрцьінтэлігентаў. Тут ужо і цытатка з Алены Рэрых гучыць злавесна. Я прывяду яе ў арыгінале, па-расейску, бо беларуская мова дагэтуль, прынамсі, ня зьведала такіх словаў і такіх сэнсаў:

"Все одно как войдет Новый Мир — в кафтане, в сюртуке или в рубахе. Если мы установим космичность значения общины, то все подробности не более пылинки под подошвой. Можно простить любую нелепость, если она не против Нового Мира.

Прежде всего забудьте все народности и поймите, что сознание развивается совершенством центров невидимых. Кто же ждет Мессию для одного народа — это невежественно, ибо эволюция планеты имеет лишь планетарный размер. Именно явление всемирности должно быть усвоено. Кровь едина течет, и внешний мир не будет больше разделяем рамами первичных формаций".

Гэта яшчэ адзін дазвол на ўсё, дазвол на ўседазволенасьць. Вядома, за гэтыя словы Алену Рэрых ня варта было б садзіць у турму, як абышоўся рэжым з сучасным паэтам. Але ў вуснах рэжыму яе словы ўспрымаюцца як кіраўніцтва да дзеяньня.

Рэдакцыйны камэнтар да цытаты, набранай дырэктыўным шрыфтам, гучыць так (зноў на мове арыгіналу):

"Эти слова о будущем единении народов Земли были записаны Еленой Ивановной Рерих в начале века. Но лишь сегодня мы начинаем понимать их истинный смысл — только теперь они начинают сбываться. Все более прозрачными становятся границы между странами. Вот и недавно мир стал свидетелем исчезновения границ: между Россией и Беларусью. На наших глазах понятия "нация", "раса" изживают себя. Наконец-то люди начинают осознавать: все мы — члены единого организма, имя которому Человечество".

На каго могуць рэальна паўплываць гэтыя словы? Толькі на таго, хто ня ведае, што робіцца ў цывілізаваным сьвеце, дзе сёньня як ніколі імкнуцца зьберагчы ў жывым выглядзе этнічныя асаблівасьці розных народаў. Толькі на таго, хто ня ведае сапраўднай сытуацыі на беларуска-расейскай мяжы, дзе ўжо ўведзеныя выбарачны пашпартны і мытны кантроль, або хто даўно ня езьдзіў у Літву, Латвію ці Украіну, дзе межы з намі становяцца ўсё больш НЕпразрыстымі. Адным словам, усё гэта разьлічана на спажыўца афіцыёзных сродкаў масавай інфармацыі.

Цяпер пра сутнасьць дырэктывы.

Ідэя Новага Сьвету і дасканалага чалавека, — старая. Каб удасканаліць тое, што ёсьць, трэба яго ведаць. А гэта немалая праца. Прасьцей усё зьнесьці — "до основанья" — і збудаваць свой Новы Сьвет. На працягу ўсёй гісторыі гэтая ідэя нязьменна церпіць паразу, але кожнага разу нараджаецца ў розумах тэарэтыкаў чвэрцьінтэлігенцыі зноў. І так будзе вечна, пакуль будуць чвэрцьінтэлігенты. І нічога ў гэтым страшнага няма. Страшна, калі ім у рукі трапляе непадзельная ўлада.

Яны заўсёды хочуць маналітнага і аднароднага цэлага, а ня цэлага, складзенага з тысячаў розных частак.

Яны хочуць зразумець сьвет сходу, наскрозь і да канца. Усё, што перашкаджае гэтаму вэртыкальнаму разуменьню, павінна быць адкінута. Яны адмаўляюць прыватнасьці, таму аўтаматычна адмаўляюць і імкненьне да ўнівэрсуму, чаму служыць культура. Унівэрсуму як глябальнаму разуменьню сьвету яны супрацьпастаўляюць аднароднае цэлае, а гэта значыць, што для свайго татальнага разуменьня яны зноў бяруць нейкую добра знаёмую ім прыватнасьць: свой жыцьцёвы досьвед, сваю мэнтальнасьць, сваю расу. Увесь сьвет — гэта адзін вялікі саўгас, які існуе паводле тых самых законаў і кіруецца тым самым чынам. Дастаткова сабраць усіх прэзыдэнтаў і сказаць: мужыкі мы ці не мужыкі, можам мы ці ня можам.

Іх філязофія — гэта тое, што выжыла, ацалела ад Кароткага курсу КПСС. Таксама, як іх часопіс — гэта тое, што ацалела ад сумнай памяці "Политического собеседника". Праўда, нашым распрацоўшчыкам давялося адмовіцца як ад крыніцаў, так і ад першакрыніцаў. Леніна цяпер цытаваць нямодна. Модна — Біблію. Разам з гэтым адмаўленьнем яны страцілі ерархію, якая была створаная за стагодзьдзе. Цяпер у іх няма ані аўтарытэтаў, ані ерархіі. Яны прыступаюць да быційнай праблематыкі з пазыцыяў раённага журналіста, які, бывала, любіў пачынаць свой опус пра камбайнёра словамі: У чым жа ён, сэнс жыцьця? Давайце разьбярэмся...

Сёньня нашчадкі таго рабселькора разьбіраюцца з усім комплексам дзяржаўных праблемаў. Праўда, лепей у іх выходзіць разьбірацца са студэнцкімі дэманстрацыямі. Там, прынамсі, інструмэнт ясны — дубіна. Калі ж яны бяруць у рукі пазнаньне, то справы ня ладзяцца, і страшэнна хочацца ўбачыць сьвет простым, без прыбамбасаў. Спадчына камісараў — гэта ўсё, што ў іх ёсьць за душою. "Единообразие" — гэта іх унівэрсум.

Чвэрцьінтэлігента абсалютна не задавальняе, што ў філязофскім сьвеце не існуе адназначных канчатковых адказаў. Як гэта так? А чаму дагэтуль не зрабілі, не прадставілі?

Усё геніяльнае ў прастаце, усё дзікунскае — у спрашчэньні. Простае рашэньне дасягаецца доўгім роздумам, а спрошчанае — як сутарага. Не разблытаць, а разарваць. Не дамовіцца, а задушыць. Урэшце, любая палеміка страчвае сэнс, калі ў адказ на свой аргумэнт атрымліваеш ладную порцыю адрэналіну ў крою.

**Сяргей Паўлоўскі**

## Алег Дашкевіч

# ХАЛЯВА НЯ ПРОЙДЗЕ



І зноў нас дзеляць. Як заўжды. Сёньня Расея і NATO. Зноў бяз нашага ўдзелу. Геаграфія нашага падзелу шырокая — Гельсынкі, Масква, Брусэль, Вашынгтон... Наша доля — пасыўна назіраць за ўласным падзелам і... час ад часу енчыць. Адтуль выганяюць, сюды не пускаюць, там не паважаюць. Так ёсьць. Цывілізаваная супольнасьць выгнала нас адусюль, адкуль толькі можна. Расея паруліць у сябе не пускае, і пры самых малых спробах дацягнуцца да руля б'е па руках малодшага браткі, б'е адчувальна, так, што ручкі самі сабой апынаюцца за сьпінай, а ў вочках — глыбокае прабачэньне за няўдалы жарт.

Былыя паплечнікі па былым Саюзе адкрыта іранізуюць, ды іронія ўжо не іронія, а нешта на мяжы пагарды й сарказму. Іх ня дзеляць, не выганяюць. Яны ня цягнуць ручкі да халявы, а моцна трымаюць сваё. За імі вымушаныя лічыцца і паважаць, бо яны паважаюць сябе. А нас дзеляць... Гэта непрыемна, гэта крыўдна. Гэта выклікае зайздрасьць і злосьць. Але гэта плата за халяву. Адзіны паратунак — трызьніць мінулым, зьбіраючы ў сябе, пакуль што ў сябе, аскепкі таго самага мінулага. Але дастаткова адкрыць вочы і... зноў невыносная рэальнасьць.

Нас дзеляць. Звонку. Знутры нас ужо падзялілі. На тых, хто спадзяецца на халяву, і тых, хто спадзяецца на сябе.

— Я не дапушчу вайны, — штораз паўтарае Лукашэнка. І набліжаецца да яе ўсё бліжэй. Міліцыя заўзята праводзіць апэрацыі кшталту "Хапун". Міліцыя цяжка. Маёраў і сяржантаў пасылаюць на х... і зьверху, і зьнізу. Улады, патрабуючы выкананьня любых загадаў, дэманстрантаў, апэлююць да сумленьня. Калі набіраецца крызысная маса, напружанасьць выліваецца на слабейшага. Цяжка пярэчыць шэйманам і агальцам, лягчэй у пастарунку выбіць зубы жанчыне. Міліцыя баіцца. Ні ў воднага міліцыянта не дазнаесься яго прозьвішча. Але халявы ня будзе. Будзе горш. Калі прыйдзецца страляць. А страляць загадаюць. Грамадзтва падзеленае. Тое, што не падзеленае, дзеліцца вельмі хутка. Ланцуговая рэакцыя запушчана. Даўно. Дэманстранты не пакінулі ніводнага лукашэнкаўскага сьцяга на сваім шляху. Дэманстрантаў было шмат.

Беларусь павольна, але настойліва ссоўваецца да канфлікту. Грамадзтва, якое спадзяецца на халяву, скнчае сумна. За ўсё калі-небудзь трэба плаціць. Такая доля халяўшчыкаў. Калі сытуацыя сасьпее, і сярод тых, хто супраць гэтага рэжыму, зьявіцца Асоба. Якая ня будзе разьлічваць на халяву. Якая будзе здольная ня толькі скочыць, але й не прамахнуцца. Гэта будзе сьмерць рэжыму. Таму што гэты рэжым жыве на халяву. Але для нас гэта будзе ўжо няважна. Для нас будзе важна тое, кім будзе Асоба.

# ДЭСАНТ У НЯПЭЎНАСЬЦЬ

*Партызанскімі сьцежкамі — 5*

Б.Н.П. — гэта абрэвіятура, знаёмая мне яшчэ зь дзяцінства. Ці ня першай гістарычнай кнігай, якая трапіла ў мае рукі, была праца Васіля Раманоўскага "Саўдзельнікі ў злачынствах" (Менск, 1964). Гэта ў ёй я ўпершыню прачытаў пра Беларускую Незалежніцкую Партыю, убачыў Пагоню на пасьведчаньні сябра Рады БНР Янкі Філістовіча... І вось ужо шосты год я дасьледую гісторыю БНП, складаю жыцьцяпісы яе актыўных сяброў. У пошуках былых дэсантнікаў Незалежніцкае партыі аб'езьдзіў палову Беларусі, апытаў дзясяткі людзей. А аказалася, што ў маім родным Слоніме ўжо амаль сорак гадоў жыве сябра БНП, дэсантнік "Дальвіца" Андрэй Вайтовіч.

Стары беларускі нацыяналіст, які прайшоў бальшавіцкія канцлягеры й турмы, тайны нагляд КГБ, ён ня стаў кідацца да мяне з абдымкамі. Вайтовіч трымаўся насьцярожана й не выключаў чарговай правакацыі з боку дзяржбясьпекі. Выратавала гэтую безнадзейную сытуацыю фотакартка Вітушкі, якую я выпадкова захапіў з сабою й цяпер паказаў спадару Андрэю. Ён пазнаў славутага генэрала і ўспомніў, што апошні раз бачыў яго ў спэцыяльным беларускім дэсантным батальёне "Дальвіц". А пасьля таго, як я даў Вайтовічу пачытаць свае артыкулы пра БНП (дзе, дарэчы, успамінаецца й ён), давер да маёй асобы быў здабыты.

— У Беларускую Незалежніцкую Партыю мяне прымаў Барыс Рагуля ў клясе настаўніцкай сэмінарыі ў Наваградку, — успамінае Андрэй Вайтовіч. — Пасьля свайго ўроку нямецкай мовы на матуральным курсе Барыс адпусьціў дзяўчат, пакінуўшы ў клясе толькі хлопцаў — каля дваццаці чалавек. — Я з вамі трошкі пагавару, — сказаў ён і пачаў шчырую размову з намі. Рагуля гаварыў, што ня трэба спадзявацца на немцаў, бо яны нам таксама нічога добрага не жадаюць. Таму мы павінны арганізавацца, і ў нас будзе свая партыя — падпольная. Барыс Рагуля казаў, што нашая мэта — захаваць моладзь. Дзеля гэтага створана БНП, ствараецца Навагрудзкі беларускі эскадрон. Нельга было дапусьціць, каб беларуская моладзь ішла да савецкіх партызанаў або вывозілася на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Гэта была праграма-мінімум. Галоўнай мэтай БНП было змаганьне за незалежнасьць Беларусі. Усё сказанае Барысам мы ўспрынялі вельмі прыхільна. Усе ўсталі й паўтаралі за Барысам словы прысягі...

Фэномен зьяўленьня пад час нямецкае акупацыі гэткай партыі, як БНП, патрабуе яшчэ доўгага й карпатлівага вывучэньня. Практычна ўвесь малады беларускі нацыяналiстычны актыў за параўнаўча кароткі час успрыняў ідэалёгію незалежнікаў і іх імкненьне змагацца за незалежнасьць Бацькаўшчыны ўсімі даступнымі сродкамі. Улетку 1944 году сотні маладых патрыётаў вырашылі ўступіць у партызанскія аддзелы БНП і ў батальён "Дальвіц", каб змагацца з бальшавіцкімі акупантамі. Гэта быў іх сьведамы выбар, выбар стойкіх беларускіх нацыяналістаў, узгадаваных у школах і гімназіях, настаўніцкіх сэмінарыях і нацыянальных вайсковых аддзелах. Вельмі падобныя біяграфіі ў сяброў "партыі маладых": нарадзіліся ў сялянскіх сем'ях, нягледзячы на нястачу сродкаў, вучыліся ў польскіх і беларускіх гімназіях, некаторыя пасьпелі паслужыць у польскім войску, пад час нямецкай акупацыі прынялі актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным жыцьці.

Андрэй Вайтовіч шмат мне расказваў пра сваіх сяброў па партыі, але зусім мала пра сябе. Ён нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Залоскі, што каля Любчы (Наваградчына) ў шматдзетнай сялянскай сям'і. З маленства працаваў — дапамагаў бацьку. У школе паказваў сябе здольным вучнем, але каб працягваць навуку, патрэбныя былі грошы, якіх ня мелі ягоныя бацькі... Ратавала дапамога старэйшага брата, знаёмых. Паехаў вучыцца ў Вільню ў электра-мэханічную гімназію, паступіў. Зноў не было грошай, але дырэкцыя адзначыла яго здольнасьці й стараннасьць — атрымаў стыпэндыю. Вайна ня дала скончыць гімназію — паміж Вільняй і Любчай зьявілася мяжа... Пад час нямецкае акупацыі закончыў матуральныя курсы й вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Наваградку. Тут ён уступіў у Беларускую Незалежніцкую Партыю, спаткаў сваё першае каханьне...



— Тамара Чарамшагіна была маёй сымпатыяй, маім плятанічным каханьнем, — успамінае А.Вайтовіч. — Яна паходзіла зь Любчы й жыла там да 1942 году. Пазнаёміліся мы яшчэ пры "першых саветах", калі разам вучыліся ў Любчанскай сярэдняй школе. Калі ў вайну ў Наваградку арганізавалася сэмінарыя, прыехала вучыцца й Тамара. Спачатку яна жыла ў інтэрнаце, але калі я ўбачыў тыя непарадкі, уладкаваў яе і Веру Красоўскую на прыватную кватэру... Напрыканцы 1943-га я запісаўся ў эскадрон Б.Рагулі, а Тамара працягвала вучыцца.

Улетку 1944 году Барыс Рагуля прывёў свой батальён у Навагрудак. Ужо ўцяклі немцы й недалёка былі бальшавікі. Ён пастроіў сваіх хлопцаў на Замкавай гары й сказаў наступнае:

— Сябры! Я вас адсюль узяў, сюды й прывёў. Немцы ўжо адступілі, а заўтра адступім і мы. Я не прымушаю, каб вы ўсе адыходзілі на захад. Хто хоча з намі, калі ласка, хто ня хоча, заставайцеся...

Вайтовіч вырашыў ісьці з Барысам. Не захацела заставацца й Тамара Чарамшагіна.

— Ты добра падумала, што робіш? — пытаўся ён у Тамары.

— Падумала...

— А можа нам прыйдзецца ўсё жыцьцё там быць? Ты на гэта згодная?

— Я згодная.

І яны адступалі разам. Трапіўшы ў Варшаву, вырашылі паехаць у чэскую Прагу — хацелі вучыцца. Атрымалі ад Рагулі паперы, прыехалі туды, а там эвакуацыя. Пра працяг навукі не магло быць і гаворкі. Вярнуліся. А тут сябры ўжо ад'язджалі ў Дальвіц. Паехалі й яны...

— Дзяўчат у батальёне было мала, і яны праходзілі курсы радыстак. Зразумела, што да іх была павышаная ўвага хлопцаў, асабліва да Тамары. Я быў, мусі, самы непрыгожы. А было шмат добрых, "языкастых" хлопцаў... Мяне хутка адправілі на Беларусь, і мы разлучыліся назаўсёды...

Андрэй Вайтовіч дэсантаваўся ў верасьні 1944 году на Дзятлаўшчыне. Перад адпраўкаю Б.Рагуля загадаў яму забыцца пра нямецкія заданьні, а выконваць толькі даручэньні партыйнага кіраўніцтва. Ён павінен быў вербаваць сяброў БНП, зьбіраць зьвесткі пра сытуацыю на Бацькаўшчыне й падрыхтаваць лясную пляцоўку для прыёму самалёта.

Усё пачалося добра. Вайтовіч прыйшоў у родныя мясьціны, знайшоў сваіх былых сяброў, сабраў інфармацыю пра дзейнасьць бальшавіцкіх уладаў. Ня ведаў ён, што за ім ужо пільна сочаць агенты дзяржбясьпекі і што выдаў яго Павал Турайкевіч. Той самы Павал, зь якога ў настаўніцкай сэмінарыі ня браў ніякай платы за вучобу (Вайтовіч быў гаспадарнікам і зьбіраў у сэмінарыстаў харчы, якімі аплочвалася навучаньне), зь якім разам уступалі ў БНП, служылі ў эскадроне Рагулі...

Сьледчы ў мяне неяк запытаўся: — А как вы относитесь к Турейкевичу? Я гавару, што добра. На гэта ён сказаў тады яшчэ не зразумелыя мне словы: — Бывают случаи, когда люди могут ошибаться... Пасьля, калі я знаёміўся са сваёй справаю, убачыў, што першай паперкай быў ордэр на арышт, а другой — паказаньні Паўла ў той самы дзень, калі я зь ім сустрэўся...

Гэбісты патрабавалі ад Вайтовіча раскрыцьця ЦК БНП, складу якога ён ня мог ведаць. Катавалі... Шэсьць-

## Пошта

# Ня трэба

Добры дзень, паважаная рэдакцыя газэты "Наша Ніва"! Другі год зьяўляюся Вашым чытачом. Газэта падабаецца аналізам, інтэлігентнасьцю. Увесь час хочацца чытаць яе і разважаць разам з Вамі. Дзякуй Вам за гэта!

Я настаўнік гісторыі, займаюся краязнаўствам, і таму шматлікія гістарычныя артыкулы, што Вы друкуеце, выклікаюць у мяне цікавасьць. Асабліва, калі гэта датычыцца партызанкі 1941-44 г. Я сам ведаю шмат спрэчных гісторыяў гэтага часу, таму вось і вырашыў Вам напісаць.

Так ужо павялося ў гэтым сьвеце, што аніводзін чалавек, аніводная падзея ня могуць не прайсьці праз выпрабаваньне людзкім судом, асэнсаваньнем, магчыма, не заўсёды дакладным, не заўсёды справядлівым. Але ж гэта закон грамадзкага жыцьця, праз які не пераступіла ніводная эпоха, ніводная асоба. Уся справа ў часе.

Вось сёньня і нам наканавана праз дзясяткі гадоў, праз эйфарычныя сьпевы партыйных часоў вызначыцца з праблемай партызанскай дзейнасьці ў Беларусі пад час апошняй вайны. Ня многім хочацца абмяркоўваць і надта капаць гэтую тэму сёньня, калі яшчэ ёсьць шмат такіх пэнсіянэраў, што маюць да вайны ўскоснае дачыненьне і спэкулююць гэтай вайной з мэтай атрыманьня розных ільготаў. Гэтым жа сёньня займаецца і дзяржава.

Публікацыі С.Ярша калісьці ў "Пагоні", а сёньня ў "НН", ды І.Кузьняцова ўяўляюцца нейкім пачаткам адкрытага асэнсаваньня складанасьцяў таго часу. Але чаму ж іншыя гісторыкі, што спэцыялізуюцца на вывучэньні мінулай вайны, ня скажуць (няхай не на старонках дзяржаўных падручнікаў, а, прынамсі, ў газэтах) пра тое, што ў чалавечых стратах Беларусі ёсьць пэўная заслуга партызанаў і падпольшчыкаў, якія ці самі

# Спроба сваёй гульні

Сюжэт зь Беларускай Незалежніцкай Партыяй (БНП) і з навучальным цэнтрам, які стварыў Абвэр у Дальвіцы ва Ўсходняй Прусіі, зьяўляецца тым клясычным прыкладам зь беларускае гісторыі, распавядаючы пра які, трэба рабіць пэўныя тлумачэньні і ўступы.

Неафіцыёзная беларуская гістарыяграфія Другой сусьветнай вайны ніколі не падзяляла погляду на падзеі, як толькі на нямецка-савецкае супрацьстаяньне. Недзе за палатном гэтае татальнае карціны ды ў дробных яе шчылінах хаваліся спробы нацыянальнага жыцьця многіх паняволеных народаў Сярэдняе Эўропы й Каўказу. Інстынкт самазахаваньня прымушаў нацыянальных дзеячоў ва ўмовах плянэтарнае катастрофы здабываць хоць адзін шанец на йснаваньне нацыянальнае школы, гаспадарчага жыцьця, мінімальных гарантыяў бясьпекі.

БНП была створана ў 1942 годзе, але актыўную дзейнасьць пачала праводзіць толькі ў 1944 годзе. У кіраўніцтва партыі ўваходзілі такія заўважныя асобы тагачаснае Беларусі, як У.Родзька (старшыня ЦК БНП, бурмістар Віцебску), Ф.Аляхновіч (драматург, кіраўнік Віленскага камітэту БНП), Б.Рабуха (камандзір коннага эскадрону Навагрудзкай паліцыі). Працуючы ў створаным нямецкімі акупантамі цывільным апараце, сябры партыі імкнуліся арганізаваць нацыянальны рух для выступу ў пэрспэктыве як супраць немцаў, так і супраць бальшавікоў. Адначасова многія лідэры БНП мелі кантакты з Абвэрам. У прапагандысцкай жа дзейнасьці БНП займалася крытыкай нямецкай акупацыйнай палітыкі ў Беларусі. Такім чынам, трайная гульня: антыгітлераўская, антысавецкая, на сваю карысьць. А ў 1944 годзе ў пэрспэктыўных плянах БНП ўжо выразна вымалёўвалася арыентацыя на ЗША й Вялікабрытанію. Чакалася параза Нямеччыны, стаўка рабілася на будучы канфлікт паміж СССР і заходнімі саюзьнікамі. "БНП прапагандавала ўзмацненьне ўласных сілаў як вырашальнага фактару для будучыні Беларусі" (Юры Туронак).

У такіх умовах улетку 1944 году Абвэр арганізоўвае ў Дальвіцы ва Ўсходняй Прусіі навучальны цэнтар дзеля падрыхтоўкі добраахвотнікаў для дывэрсійнае працы ў Беларусі. Палітычным кіраўніком цэнтру стаў лідэр БНП У.Родзька. Дэсанты выпускнікоў школы афіцыйна выпраўляліся выконваць заданьні немцаў, але мелі сакрэтныя інструкцыі кіраўніцтва БНП па падрыхтоўцы інфраструктуры будучага супраціву.

Гэта была ўжо настолькі складаная гульня, што верагоднасьць правалаў стала вельмі вялікаю. Але калі ўвесь сьвет супраць цябе, што застаецца асуджаным — свая гульня, зманлівыя надзеі, дэсант у нявэўнасьць, кансьпірацыя да апошніх дзён.

**Алег Дзярновіч**

*Публікацыя ажыцьцёўленая ў рамках праекту "Адна зямля – Усходняя Эўропа". © Архіў Найноўшай Гісторыі.*

дзесят чатыры дні правёў спадар Андрэй у адзіночцы, сядзеў у карцэры, амаль шэсьць дзён трымаў галадоўку, якую гвалтоўна спынілі чакісты. Нарэшце яго прывялі да міністра дзяржбясьпекі Цанавы. Той пачаў здалёк: — Мы знаем, что ты не советский человек, но вот что тебя заставило вести борьбу с советской властью?..

Пасьля Цанава ня вытрымаў й запытаўся пра галоўнае: — Так ты всётаки скажешь ЦК своей партии?!.. — Гражданін начальнік, што знаў, я вам сказаў. — Нет, нет! Ты пойдёшь в камеру, подумаешь. Мы с тобой ещё встретимся.

Больш яны не сустрэліся. Неўзабаве Андрэя Вайтовіча адправілі па этапе.

Ён нічога ня ведаў пра Тамару. Пытаўся пра яе ў сяброў, якія дэсантаваліся пазьней, але ад іх ён нічога не даведаўся — маўчалі ўсе, хоць і мелі пэўную інфармацыю. Гэтак жа яны абміналі й імя Вітушкі. Толькі ад мяне спадар Андрэй даведаўся пра лёс Чарамшагінай. Сямнаццатага лістапада 1944 году яна дэсантавалася з групай Міхала Вітушкі на Віленшчыне. Многія дэсантнікі трапілі ў рукі НКГБ, але Вітушку й Чарамшагіну чэкісты злавіць ня здолелі, і яшчэ зарана пісаць пра іх лёс.

— На пачатку 80-х гадоў на пахаваньне Сяргея Мацюкевіча (дэсантнік "Дальвіца", нечакана памёр пад час апэрацыі ў Ленінградзе — **С.Ё.**) у Дзятлава прыяжджала колішняя сяброўка Тамары; — успамінае А.Вайтовіч, — якая сказала мне даслоўна наступнае: "Яна цікавілася, ці ёсьць у цябе дзеці..." Значыць, жывая была мая Тамара. Значыць, пазьбегла яна бальшавіцкай катаргі...

**Сяргей Ёрш**

*На здымку: Тамара Чарамшагіна і Андрэй Вайтовіч. Наваградак, 1942 год.*

# МАЎЧАЦЬ

забівалі, ці правакавалі немцаў на карніцкія акцыі? Атрымліваецца дзіўная рэч: усе добра ведаюць, гавораць пра гэта, а разгорнеш падручнік — там "славутыя лясныя змагары незалежна ад роду заняткаў вызваляюць сваю зямлю". Зразумела, што займацца гэтым, раскласьці ўсё па паліцах — справа небясьпечная. Сёньня. Але ж...

Кажуць, старым складана перагледзець свае ўяўленьні, і таму, маўляў, з праўдай трэба пачакаць.

Але ж сваім маўчаньнем мы ствараем новыя праблемы. У наш час, калі дзяржава грэбуе ўсімі беларускімі гістарычнымі каштоўнасьцямі, менавіта тэма партызаншчыны знаходзіць падтрымку, паступова замацоўваецца ў мармуры беларускіх сьвятынь. А зь іншага боку, пасьля чаркі-другой вэтэран-ардэнаносец пачынае расказваць табе пра злачынствы партызанаў, а 80-90-гадовыя бабулі амаль кожнай беларускай вёскі прыгадваюць такія факты, ад якіх нават гітлераўцы падаюцца анёламі.

Адна праблема, калі цябе пачынаюць вучыць "Родину любить" розныя чыноўнікі. Другая праблема — у нас саміх. Ці не атрымаецца так, як было ў часы перабудовы, калі добры дзядуля Ленін пераўтварыўся ў крывасмока, а мільёны людзей, згубіўшы старыя ідэалы, атрымалі маральны шок, ад якога большасьць не ачомалася да нашага часу. Няўжо нам прыйдзецца чакаць сваёй старасьці, каб мы перагледзелі свае ўяўленьні пра вайну і партызанку пад уплывам ужо дарослых і дасьведчаных унукаў? І ці не адбудзецца з намі так, як з тымі мільёнамі, што згубілі Леніна? Ды ўвогуле, як нам тады такіх унукаў выхаваць, калі ўвесь час будзем маўчаць, чакаць лепшай пары, казаць ускосна?

**Віталь Юрэвіч,**
*настаўнік гісторыі, Старыя Дарогі*

Цэнзура

# "10 на 10"

*Пятнаццаць гадоў мінула з таго часу, як я наважыўся паказаць свае паэтычныя замалёўкі Уладзімеру Караткевічу. Ён уважліва паставіўся да опусаў пачаткоўца, параіў скласьці зборнік і напісаў прадмову.*

*Рэдактар Уладзімер Паўлаў уключыў мой рукапіс у плян выдавецтва "Мастацкая літаратура", але ў 1985 годзе, калі зборнік быў ужо набраны, цэнзары на чале з Савеліем Паўлавым ня выпусьцілі кніжку ў сьвет.*

*Толькі ў 1988 годзе я змог выдаць першы легальны паэтычны зборнік "Парк", у які, дарэчы, не ўвайшло ніводнага верша з рукапісу 1982 году, адпаведна і прадмова Караткевіча засталася ненадрукаванаю.*

*Перабольшваць свае посьпехі ў самвыдавецтве я не зьбіраюся, толькі зазначу, што аддрукаваў адзінаццаць асобнікаў кніжкі з прэтэнцыёзным назовам "10 на 10" і раздарыў сябрам. У якасьці камэнтароў да тэксту Уладзімера Караткевіча прапаную некалькі вершаў са зборніка "10 на 10".*

## Рэцэнзія — яна ж невялікі ўступ.

"Пачуўшы гэта, каліф зьдзівіўся". Або "Вазір вельмі зьдзівіўся, і сказаў..." Або "Тут візір і каліф страшэнна зьдзівіліся". Такімі вось сказамі аж стракацяць старонкі казак "Тысячы і адной ночы". Яны зьдзіўляліся, а нас не зьдзіўляюць ні прыгоды Сындбада, ні джын (у сэнсе дух) у бутэльцы, ні Багдад, убачаны ў чароўным крышталі.

Для нас гэта такая самая рэальнасьць, як дываны-самалёты.

І, аднак, неўтаймоўная Шахеразада-паэзія не-не, ды й паднясе нам нешта нечаканае. Вось як у гэтым выпадку з кнігай (першай) Адама Глёбуса "10 на 10".

Бывалы "каліф", які ўжо, здаецца, усяго нагледзеўся, таксама крыху "зьдзівіўся". Толькі на адно імгненьне. Пакуль ня ўспомніў, што гэтыя вершы пісаў мастак (адсюль візуальнае мастацкае мысьленьне), і мастак-манумэнталіст (адсюль "разабраныя саборы"), які ў думках "разабраў на часткі" Мсьціслаўскі сабор, у калектыве рэстаўратараў якога ён зараз працуе.

Вершы ягоныя крыху сходныя з уласнымі жывапіснымі накідамі. А з гэтага вынікае, што і чытач павінен быць крыху мастаком і валодаць выняткова, часам нават большай, чым у паэта, сілай уяўленьня.

Баяцца, што такіх яшчэ няшмат — ня трэба. Людзі растуць. І ўжо малодшыя браты нашы ня зьдзівяцца нязвыкласьці формы паэзіі Адама Глёбуса. Наадварот, яны зьдзівяцца, што некаторыя з нас успрымалі гэтую форму, як нешта нязвыклае.

— Што яны мудрылі? Тут усё ясна і проста, як божы дзень. Ускладненая мэтафарычнасьць і асацыятыўнасьць? А што ж яны, думалі ўсё жыцьцё абыходзіцца капіталам празрыстых і простых параўнаньняў? Дарэмна. Прытым я ж гэты верш, гэтую "Арку" БАЧУ. Разбураны сабор, які рэстаўруецца, запусьценьне, заляцела пагрэцца маладая варона... Прычым гэтаму ўжо ёсьць і карані ў традыцыі. У японскіх "танка" і "хоку", напрыклад.

Я згодзен з гэтымі людзьмі ўжо зараз, хаця сам так пісаць ня буду, бо гэтая манера не падыходзіць мне. Але паміж словамі "чужды" і "закрэсьлі" — вялізная і непрымальная для чалавека сучаснага (а значыць цярпімага) дыстанцыя. "Чужды" — азначае "зразумей", "прымі", "пранікніся". "Не маё" часта можа быць "лепш" ці, прынамсі, "здорава!" Як той цыратавы яблык, які атрымаў шнар ад разрэзанага на ім яблыка сапраўднага, бо той, хто рэзаў, дужа хацеў яблык, бо зіма была.[1]

У А.Глёбуса назіральнасьць, якая зьдзіўляе (вось сушыцца мясарэзка на батарэі; гэта яна не разабраная, гэта сонца прамянём парэзала яе на кавалкі: адпомсьціла ёй за малапачцівую работу), у яго прагнае вока мастака.[2]

Для тых, хто яшчэ ня ўмее бачыць рэчы так, як ён, было б трэба, каб ён сам праілюстраваў свае "праявы" і "разрэзы" сьвету (можа, так яно і будзе зроблена, хочацца спадзявацца на такое). А ў далейшым такія "мыліцы" могуць і не спатрэбіцца, бо чытач навучыцца сам пранікаць у сьвет, сканструяваны паэтам. А пакуль яму трэба памагчы, пакуль яму патрэбная карта, як тая, прыкладзеная калісьці Стывэнсанам да "Вострава скарбаў" (а мы ж зараз разьбіраемся ў тапаграфіі вострава лепей, чым сам аўтар).

Хай нікога не падманвае ўяўная "другаснасьць" ягоных натурмортаў у духу Сэзана і Ван-Гога. Гэта ня кухня Сэзана, гэта ягоная кухня. Гэта не ў Сэзана, а ў яго паўзе па стале сподак-вожык, несучы на сьпіне чырвоны яблык. Сэзан, можа, і ня ведаў, што вожыкі вось так зьбіраюць яблыкі. Затое гэта цудоўна ведаюць людзі з-пад Койданава і Наваградку, да нашчадкаў якіх мае гонар належаць паэт. Так што гэта аніякая не француская кухня. Гэта новая страва, выдуманая беларусам. Хай небывалая, але хай беларусы ядуць яе на здароўе. Гэтую цудоўную "Раніцу", якая — успамін нашага дзяцінства, ужо чужы эпосе газавых пліт.[3] І п'юць разам зь вераб'ём веснавое неба з лужыны.[4]

Гэта тонкае ўяўленьне і пранікнёны зрок беларуса, якім ён ня быў яшчэ пазаўчора і якім ён, магчыма, ня будзе заўтра. Вось так, ня болей і ня меней. Гэта пошукі колеру, гуку, смаку, гэта спроба зафіксаваць навек нават такі малаважны рух, як рух ката, які, перараваліўшы вільчык, на імгненьне пакідае на фоне неба чорны хвост (ах, які ж ён малайчына, і як ён умее трымаць хвост пісталетам!)[5] І гэта спроба па-новаму асэнсаваць такія зьявы як жыцьцё і сьмерць ("Даты").[6]

І ня будзем перашкаджаць маладым у іхніх сумленных пошуках.

Галоўным чынам таму, што ніхто ня ведае, нават той, сямі пядзяў у лобе, які ён будзе заўтра, — магістральны шлях паэзіі.

Я, напрыклад, люблю свае вершы, але не магу паспрачацца, што мая паэзія — гэта тая сьцежка, што не вядзе ў тупік. І не магу сказаць, што на вялікім радаслоўным дрэве паэзіі мая галіна не зьяўляецца тупіковай. І ніхто ня можа.

І менавіта з гэтых прычын мы павінны абраць сваім дэвізам "цярпімасьць". Бо вось будуць спрачацца год празь пяцьдзясят нейкія студэнты, і нехта ў запале гордай маладосьці кіне:

— Хлопцы тады новае пачыналі, тое, чым мы жывём, а шлях гэтага напаўзабытага Караткевіча вёў у тупік! (Ён ня будзе яшчэ ведаць, што, магчыма, і лінія "хлопцаў" праз сто год будзе тупіковай, і гэта заканамерна, бо паэзія — рэч вечна жывая і ідзе дарогаю спроб і памылак).

І тады нехта крыху больш памяркоўны, магчыма, скажа:

— Гэта ты кінь. Адкуль ён мог бачыць дрэва ў такім малым яшчэ парастку? — І дадасьць. — Прынамсі, хаця нікому не перашкаджаў.

Давайце ўсе заслужым гэтыя словы.

**Уладзімер Караткевіч.**

## Камэнтар

*1.*
*СТОЛ*
*Зіма.*
*Стол засланы цыратай.*
*На цыраце намаляваны яблык.*
*На яблыку ляжыць жывы яблык.*
*Разрэзаў яблык напалам,*
*Так што нават цыратавы яблык*
*Атрымаў сапраўдны шнар.*
*Надта ўжо хацеў зьесьці яблык.*
*Зіма.*

*2.*
*РЭЧАВІК ЗЬ МЯСАРЭЗКАЙ*
*На батарэі сушыцца мясарэзка*
*Сонца промнем разрэзала яе*
*На кавалкі.*

*3.*
*РАНІЦА*
*Пад блакітным вакном*
*На рудой падлозе*
*Стаіць чырвоная лава.*
*На лаўцы маленечкі рудзенькі зэдлік.*
*На ім, за вялікім сталом*
*Сяджу я.*
*Гляджу ў печ, на агонь,*
*А потым павярнуся сьпінаю да печы*
*І пазіраю ў сінюю шыбу.*
*Шыба плача.*
*Адбітак агню ліжа сінія сьлёзы.*
*На чырвоным стале,*
*Засланым белай падрапанай цыратаю,*
*Ляжыць белы ручнік.*
*На ручніку — залатыя бліны.*

*4.*
*ЛУЖЫНА*
*Лужына з аднаго вераб'я зрабіла два —*
*Адзін п'е ваду,*
*Другі — неба.*

*5.*
*ДОМ І КОТ*
*Нерухомасьць архітэктуры*
*Парушыў мантаж*
*Дому з катом.*
*Па даху мякка ішоў кот.*
*Па даху ампірнага дому.*
*Было відаць:*
*Як бязгучна кот ставіў лапы.*
*Было відаць:*
*Поўную адсутнасьць гуку.*
*Карынфская капітэль*
*Зь лістамі акантаў,*
*Зь нерухомымі вірамі валют*
*Не зьвярнула на сябе ўвагу ката,*
*Як і бляшаны ўдаў вадасьцёчнае трубы.*
*Кот дайшоў да вільчыка,*
*Зьнік у шчыліну паміж дахам і небам,*
*На хвіліну пакінуўшы на небе*
*Чорны хвост.*

*6.*
*ДАТЫ*
*9.2.1981 году. Тэлеграма:*
*ПАМЁР КАЗІМЕР КРОПКА ПРЫЯЖДЖАЙЦЕ КРОПКА*
*10.2.1981 году. Тэлеграма:*
*У РЭГІНЫ НАРАДЗІЎСЯ СЫН КРОПКА*

*Да сваіх візуальных статычных вершаў пачатку 80-х я стаўлюся скептычна і лічу патрэбным гэта адзначыць. Але калі вершык пачаткоўца неабходны ў якасьці камэнтару да творчасьці клясыка, ён варты згадкі.*

**Публікацыя Адама Глёбуса.**

## Добраахвотная Сібір

Для многіх, а для беларусаў тым больш, слова Сібір амаль заўсёды стаяла побач са словамі катарга, ссылка, дэпартацыя... Бо з усіх шляхоў, якія вядуць у Сібір, для іх шлях катаржнікаў, ссыльных, дэпартаваных быў самы пратораны на працягу некалькіх стагодзьдзяў пры ўсіх урадах і рэжымах. Але адначасова былі й тыя, хто ехаў у гэты суворы край добраахвотна ў пошуках свайго асабістага шчасьця і лепшае долі.

Канец XIX ст. характарызаваўся ў Расеі імкненьнем эканамічнага разьвіцьця сібірскага рэгіёну, яго ўзмоцненай каланізацыяй. Будаўніцтва Вялікай транссібірскай чыгуначнай магістралі патрабавала вялізнай колькасьці працоўных рук. У Сібір накіраваліся патокі добраахвотных перасяленцаў.

Другой катэгорыяй добраахвотных перасяленцаў-беларусаў было сялянства. Пачынаючы з часу заканчэньня будаўніцтва сібірскай чыгункі, аж да 1914 году сяляне складалі асноўную частку перасяленцаў. Ехалі яны пераважна з малазямельных заходніх губэрняў Расейскай імпэрыі: Гарадзенскай, Віленскай, Віцебскай, Седліцкай, Курляндзкай.

Беларусы-перасяленцы заснавалі ў Томскім павеце чыста беларускія паселішчы Андрэеўка і Ламавіцкі, Петрапаўлаўка і Полазава. У 1899 годзе на тэрыторыі зноў створанай Новааляксандраўскай воласьці зьявіўся таксама беларускі пасёлак, які праз некалькі гадоў атрымаў назву Беласток.

Зразумела, што не ад добрага жыцьця рушылі некалі нашыя продкі ў далёкую Сібір. Безьзямельле, нізкая ўрадлівасьць не дазвалялі пракарміць вялікія сялянскія сем'і. Многія пакідалі родныя хаты й сыходзілі на заробкі ў суседнія гарады й мястэчкі. Гэтак адзін зь іх, Аляксандар Ёч, пасьля сьмерці бацькі Казімера ў 1884 годзе паехаў з сваёй роднай вёскі Юцеўцы (10 км ад Шчучына на Гарадзеншчыне) у губэрнскую Вільню і працаваў там некалькі гадоў пажарнікам.

Другі — Іван Ханевіч — са старэйшым братам Восіпам займаўся перавозам грузаў і пасажыраў ад станцыі Парэчча да Горадні. Падобнымі заробкамі займаліся ў тыя гады многія сяляне Гарадзеншчыны, Віленшчыны, Віцебшчыны, але й яны не давалі неабходных сродкаў для йснаваньня. Дзясяткі сем'яў пакідалі родныя месцы, ад'яжджалі ў Амэрыку, Канаду, а з канца XIX ст. і ва ўсходнія раёны Расеі. Царскі ўрад быў зацікаўлены ў перасяленьні сялянства ў Сібір, абяцаў ільготы і падтрымку ва ўладкаваньні на новым месцы. Так Аляксандар Ёч сярод іншых апынуўся ў 1896 годзе ў Томскай губэрні ў якасьці хадака-разьведчыка. У Перасяленчай управе атрымаў прапанову агледзець вызначаныя пад засяленьне надзелы тайгі ў Мікалаеўскай воласьці Томскага павету, што разьмяшчаліся за сто вёрстаў на паўночны захад ад губэрнскага цэнтру.

Што гэта былі за месцы ў той час, можна даведацца з дакладной запіскі чыноўніка ў сялянскіх справах Райскага томскаму губэрнатару 15 верасьня 1896 году: "... што датычыцца надзелаў у Мікалаеўскай воласьці, на якія вызначаюцца прыкладна 800 сем'яў, то яны знаходзяцца ў найгоршых умовах у параўнаньні зь іншымі перасяленцкімі надзеламі як ў адносінах да шляхоў зносін, так і ў адносінах набыцьця на іх хлеба і земляробчых прыладаў працы..."

Істотнай перашкодай на шляху перасяленцаў была рэчка Шагарка, даволі шматводная: яна аддзяляла іх ад усіх найбліжэйшых абжытых вёсак. Сувязь зь імі спынялася вясной пад час паводкі.

Ужо невядома, чым прывабіў Восіпа Ханевіча, ягоных аднавяскоўцаў Гераніма Мазюка і Восіпа Маркіша, братоў Аляксандра і Івана Ёчаў і яшчэ некалькі хадакоў менавіта гэты кавалак тайгі на беразе рэчкі, які ў дакумэнтах Перасяленцкай управы лічыўся як Рыбалоўскі перасяленцкі надзел. Магчыма, спадабалася тое, што, акрамя векавой тайгі, тут было некалькі еланяў — выпаленых месцаў: менш працы спатрэбіцца для карчаваньня пад пашу. А можа, тое, што тут ужо стаялі хаткі пчаляроў з суседняй Малчанаўскай воласьці: ёсьць дзе спыніцца на першы час...

Запісаўшы за сабой надзелы зямлі, вярнуліся яны на радзіму па сем'і. Адтуль да Томску вярталіся ў таварных вагонах разам з жывёлай і прыладамі працы (на сям'ю выдзялялі па адным вагоне-таварняку). Ад Томску да сяла Маўчанава плылі на параходзе па Обі, а там ужо — сваім ходам. Так на мапе Томскай губэрні зьявіўся ў 1899 годзе яшчэ адзін новы пасёлак у 13 сем'яў — Нова-Рыбалоўскі.

Цяжка абжываліся на новым месцы землякі-першапраходцы: палохала сібірская прырода зь яе неміласэрным гнюсам улетку і нечуванымі маразамі ўзімку, ад чаго не ратавалі самаробныя накамарнікі і насьпех выкапаныя паўзямлянкі. Нярэдкім быў падзеж жывёлы ад бяскорміцы і напад дзікіх зьвяроў (зусім побач з пасёлкам знайшліся дзьве мядзьведжыя барлогі). Паміралі ад дэзынтэрыі і ад прастуды. А яшчэ была пякельная праца на раскарчоўцы тайгі. Аднак гэта не была праца прыгоннага або раба: кожны працаваў на сваёй зямлі і ведаў, што дабрабыт ягонай сям'і цяпер і назаўсёды залежыць ад яго самога, а не ад "паноў" і дзяржаўных чыноўнікаў.



Ігар Кузьняцоў

# БЕЛАСТОК

Дапамога дзяржавы перасяленцам у Сібір была немалая. Бясплатны праезд, ільготы, дапамога ў будаўніцтве. І ўсё ж яе ня варта перабольшаваць. Праз нястачу грошай перасяленцы атрымалі дапамогу ў значна меншым памеры, чым гэта аб'яўлялася афіцыйна. Тымчасам кошты на харчы, інвэнтар, жывёлу рэзка ўзрасьлі. Карова стала каштаваць 40 рублёў, конь — 70, плуг — да 30 рублёў.

Перасяленцкія ўправы не спраўляліся са стыхійным патокам перасяленцаў і хадакоў. З 1894 да 1899 году ў Томскую губэрню прыехала зь Беларусі 43 тысячы чалавек, а ў наступныя пяць гадоў ужо больш за 48 тысяч чалавек. У 1907 годзе, пэрыяд найбольшага размаху зямельнай рэформы прэм'ера П.Сталыпіна, толькі за год у губэрню прыбыло 30 тысячаў перасяленцаў. Дзяржава не спраўлялася. Як дакладваў начальнік Томскага перасяленцкага падраёну Міхайлаў у 1907 годзе: "Масавы размах набыў самазахоп зямлі".

Не задавальнялі адносіны ўладаў, дый Сібір аказалася празмерна цяжкаю для жыцьця. Як вынік гэтага — ня меншы паток тых, хто вярнуўся ў Беларусь. Напрыклад, у 1901 годзе зь Сібіры вярнулася больш за 5 тыс. сем'яў.

Але многія нашы землякі ўсё ж вытрывалі, уладкаваліся, прыжыліся. Замест зямлянак з часам пабудавалі моцныя сібірскія пяцісьценкі, выкапалі калодзежы з высокімі "жураўамі", абгарадзілі пасёлак плотам... Збудаваны ў 1908 годзе касьцёл яшчэ больш прыцягваў у гэтыя мясьціны перасяленцаў-каталікоў. Калі вясной 1914 году ў вёску на жыхарства прыехалі адразу некалькі сем'яў з-пад Магілёва, дарэчы, з апошніх ужо добраахвотных перасяленцаў у гэтыя краі, то сяліцца ім у межах пасёлку ўжо не было дзе: прыйшлося сяліцца за вясковай пашай, на другім беразе немалога возера-сажалкі, празванага жартам Байкалам. Жыхароў гэтага выселку з 18 хатаў сталі ў вёсцы зваць "забайкальцамі". Зьмяніў сваю назву і сам пасёлак. На вясковым сходзе вырашана было назваць яго Беластокам, у памяць пра бацькаўшчыну і ўласную маладосьць...

Паводле зьвестак Усерасейскага сельскагаспадарчага перапісу, праведзенага ў пасёлку ў канцы 1916 году, тут налічвалася 95 сялянскіх самастойных гаспадарак і жылі 516 чалавек, пад пашай было 285 дзесяцінаў апрацаванай зямлі. Ва ўсіх гаспадарках налічвалася 267 коней і 374 каровы... Хлебаробы, па сутнасьці толькі ўстаўшы на ногі, марылі пра большае і, напэўна, дамагліся б свайго, каб ня лёс: першая імпэрыялістычная, рэвалюцыя, грамадзянская, новыя часы са сваімі новымі законамі...

Ксёндз Мікалай Міхасёнак паходзіў зь сялянскай сям'і на Віцебшчыне, сам займаўся хлебаробствам. Аднак, зямля не цягнула яго да сябе, хацелася вучыцца, служыць людзям і Богу. У 1911 годзе Мікалай ва ўзросьце 23 гадоў прыняў сан сьвятара. У пачатку 1913 году пасьля заканчэньня Санкт-Пецярбурскай духоўнай сэмінарыі прыехаў у Сібір. Магілёўская епархія накіравала яго на пасаду пробашча беластоцка-малічаўскай каталіцкай суполкі, жыць ён стаў у сяле Беласток.

Хрысьціў дзяцей, праводзіў у іншы сьвет памерлых, даваў шлюб маладым, прычашчаў і спавядаў... Прадстаўнікі савецкай улады ненавідзелі яго як чалавека "старога" сьвету і служку культу. У 1923 годзе, ня вытрымаўшы правакацыяў з боку валасных работнікаў і пазбавіўшыся касьцёльнага дому, рэквізаванага пад школу, ксёндз Міхасёнак пакінуў Беласток. Пра ягоны далейшы лёс распавядае архіўна-сьледчая "справа", заведзеная на яго ў 1927 годзе органамі ОГПУ Навасібірску.

У Навасібірск ксёндз Міхасёнак прыехаў у 1925 годзе з Томску на запрашэньне мясцовай рымака-таліцкай суполкі для службы у пустым гарадзкім касьцёле. Аднак 4 красавіка 1927 году ксяндза арыштавалі. Яго абвінавачвалі ў тым, што пад час службы ў касьцёлах Томску і Навасібірску ён нібыта дапускаў выказваньні антысавецкага характару. Другім пунктам абвінавачваньня было тое, што Міхасёнак быццам яшчэ ў 1924 годзе імкнуўся ўцячы ў Польшчу пад чужымі дакумэнтамі, але дакумэнтаў не дастаў. У гэтых кірунках і сталі "раскручваць" ксяндза Міхасёнка сьледчыя Навасібірскага ОГПУ Бялецкі, Багародзіцкі і іншыя, аднак ксёндз "раскручвацца" не жадаў, усе абвінавачваньні адкідаў.

Пасьля допыту некалькіх чалавек у якасьці сьведкаў 27 траўня 1927 году памочнік начальніка контрразьведкі аддзелу ОГПУ ў Сібірскім краі Бебракарла палічыў, што справа ясная: два "контрарэвалюцыйныя" артыкулы паводле прынятага ўсяго год назад крымінальнага кодэксу РСФСР: 58-14 (антысавецкая агітацыя з выкарыстаньнем рэлігійных забабонаў масаў) і 58-18 (дыскрэдытацыя савецкай улады шляхам распаўсюджаньня пра яе ілжывых чутак). Сібірскія чэкісты выслалі справу Міхасёнка ў Маскву. Асаблівая Нарада 25 лістапада 1927 году вынесла рашэньне — адправіць Міхасёнка Мікалая Іванавіча ў канцлягер на тры гады без прымяненьня да яго амністыі. Для адбыцьця пакараньня яго накіравалі ў сумна вядомы "СЛОН" — Салавецкія лягеры асаблівага прызначэньня. Пасьля адбыцьця тэрміну заключэньня пастановай таго ж "ОСО" ад 28 красавіка 1930 году ён быў накіраваны ў ссылку ў Паўночны край яшчэ на тры гады.

Што потым стала з ксяндзом — здагадацца няцяжка. Наставалі новыя часы...

## Як стваралі "Чырвоны штандар"

Скончылася сялянства ў Беластоку ў пачатку трыцатых гадоў. Пасьля калектывізацыі па-сталінску селяніна-хлебароба зьмянілі калгасьнік і саўгасьнік з зусім іншай псыхалёгіяй і іншым стаўленьнем да зямлі і працы.

У Беластоку калгас упершыню быў створаны толькі ў красавіку 1935 году. Пра тое, чаго каштавалі нашым землякам гэтыя пяць гадоў супраціву калектывізацыі, можна толькі здагадвацца. Чаго толькі не было ў арсэнале ўзьдзеяньня мясцовых органаў улады і актывістаў калгаснага руху: пазбаўленьне выбарчых правоў, цяжар падатковага прэсу, распродаж маёмасьці і раскулачваньне, асуджэньне... Бадай, не было толькі высылкі сем'яў раскулачаных зь сяла далей, у Васюганскія балоты. Але затое не адзін год сачылі вяскоўцы за тым, як высылалі іншых: пачынаючы з трыцатага году па Нарымскім тракце праз сяло даволі частка ішлі зімой на поўнач Нарымскай акругі абозы раскулачаных.

Акрамя супрацоўнікаў калгаса, былі ў сяле і прыхільнікі калектывізацыі — мясцовыя актывісты зь ліку "сельскіх пралетароў", сельсавецкіх работнікаў і вясковай інтэлігенцыі ў асобе настаўніка і загадчыка хаты-чытальні. У складзе сельсавецкіх актывістаў лічыліся таксама некалькі так званых сераднякоў.

Як сьведчаць архіўныя дакумэнты Беластоцкага сельсавету пачатку 30-ых, усё адбывалася прыкладна так: прыяжджаў райупаўнаважаны, зьбіраў сельскі сход і выступаў з прамовай, заклікаючы запісацца ў калгас. За ім слова бралі мясцовыя актывісты і выказвалі гатовасьць першымі ўступіць у калгас. Але як толькі начальнікі зьяжджалі, справа павісала ў паветры. Упершыню так адбылося пасьля наведаньня Беластоку райупаўнаважаным Скакляным 22 сакавіка 1930 году. У падтрымку яго на вясковым сходзе выступіў старшыня сельсавету зь мясцовых жыхароў Марцін Майсак, але ахвотных стаць тады калгасьнікамі не знайшлося.

Падобнае адбылося і пасьля сходу 24 ліпеня 1931 году, на якім выступіў упаўнаважаны Вішнеўскі. Пасьля прамоваў актывістаў Майсака і Нікалаенкі новы старшыня сельсавету Драздоў закончыў сход заклікам запісвацца ў калгас. Але шчасьлівым калгасьнікам ніхто стаць не пажадаў і на гэты раз. Не дабіліся ўлады калектывізацыі таксама і ў наступныя гады. Мянялі старшыняў сельсавету, мянялі склады сельсаветаў, але нічога не дапамагала. Актывісты растлумачылі гэта прошукамі клясавага ворага.

У якасьці клясавага ворага вызначалі мясцовых жыхароў Адама Мазюка, Людвіга Карпыша, Вікенція Сянько, Міхала Бельскага і іншых — за тое, што адзін зь іх меў ад бацькі ў спадчыну старую ваўначоску, другі яшчэ ў 1914 годзе пабудаваў у сябе ў двары вятрак, які згарэў яшчэ ў дваццаць трэцім годзе, трэці ў пэрыяд НЭПу меў у сяле бакалейную крамку... Іхныя гаспадаркі абвясьцілі кулацкімі і канфіскавалі, а гаспадароў пазбавілі выбарчых правоў. А.Мазюка і В.Сянько яшчэ й асудзілі ў 1932 годзе на два гады турмы. Далейшыя падзеі ў Беластоку, зьвязаныя з стварэньнем калгасу, праходзілі зь непасрэдным удзелам карных органаў. Сцэнар быў да прымітывізму просты: арыштаваць найбольшых супрацоўнікаў калектывізацыі і ўчыніць паказальны працэс для застрашэньня астатніх.

У студзені 1935 году работнікі Крывашэінскага райаддзелу НКВД з дапамогай сельсавецкіх работнікаў сабралі неабходны кампрамат на жыхароў сяла. У самым пачатку лютага 1935 году начальнік Нарымскага акраддзелу НКВД зацьвердзіў пастанову пра арышт і прыцягненьне да суду сямнаццаці жыхароў Беластоку і суседніх Нова-Андрэеўскіх хутароў за тое, што ўсе яны як бы праводзілі антысавецкую і антыкалгасную агітацыю, дабіліся развалу ініцыятыўнай групы, а таксама на глебе клясавай нянавісьці мелі дамову забіць старшыню сельсавету і некаторых іншых актывістаў сяла.

1-3 лютага 1935 году пяць чалавек зь сямнаццаці былі арыштаваныя і адпраўленыя ў раённы аддзел НКВД. З астатніх узялі падпіску аб нявыезьдзе за межы сяла да пастановы суда.

На думку амаль усіх актывістаў, галоўнымі супраціўнікамі былі раней раскулачаныя Бельскі, Карпыш і Адам Мазюк, які незадоўга да гэтага вярнуўся ў сяло зь месцаў зьняволеньня. Так, старшыня інтэгральнага таварыства Сьцяпан Патурамскі паказаў, што яшчэ вясной 1934 году Мазюк і Карпыш "наладзілі засаду з мэтай забойства яго за набыцьцё іхнай маёмасьці пры акулачваньні..."

У пратаколе сьведчаньняў Іпаліта Кісяля пададзена, што неяк зь ім гутарыў Пётра Люты і запэўніваў яго ў безжыцьцёвасьці калгасаў, а пачуўшы пра забойства сакратара ЦК ВКП(б) Кірава, заявіў: "Няма чаго гараваць, аднаго забілі, горш ад гэтага нам ня будзе..." На малодшага брата Пётры Лютага Івана былі атрыманыя паказаньні аб тым, што ён распаўсюджваў сярод мясцовага насельніцтва антыкалгасныя заклікі, прачытаўшы іх у лісьце, атрыманым мясцовай жыхаркай Франяй Ёч ад ксяндза.

Сьведчаньні актывістаў Адольфа Бяляўскага, Восіпа Назарука, Антона Пілатава, Антона Кісяля, Васіля Дашука, Пётры Чырвонага, Паўла Верашчагіна, сельсавецкіх работнікаў Міхала Коршунава, Івана Сергуна, Івана Таткіна нічым не адрозьніваліся ад вышэйзгаданых сьведчаньняў. Іх імкненьнямі да ліку "классово-чуждых сил" былі далучаныя таксама браты Міхні Вікенцій, Антон і Фэлікс, Ёч Эдуард, Папоў Трафім, Пілевіч Мацьвей, Мазюк Павал і Пронскі Браніслаў.

Акрамя самога Браніслава Пронскага, нам. старшыні сельсавету Іван Сяргун хацеў здаць у НКВД і ягоную жонку Ганну, дачку Ліду і сына Паўла толькі за тое, што пры спробе арышту Браніслава 17 лютага 1935 году сіламі сельсавецкіх работнікаў жонка і дзеці Пронскага аказалі супраціў членам сельсавету, кінуўшыся на іх з рыдлёўкай і драўлянай калодкай. Тут жа выказвалася просьба прыцягнуць да суворай адказнасьці і "перавыхаваць адміністрацыйна" сельвыканаўцу Лютага Станіслава, які даў магчымасьць Пронскаму Браніславу ўцячы ў лес і тым самым пазьбегнуць арышту.

Справу Ф.Міхні вылучылі ў асобную, "як яўна падобную на шпіянаж": прызнаўся ў тым, што ў 1931 годзе на дару̂чэньне свайго бацькі Бэнэдыкта і братоў езьдзіў у польскае консульства ў Маскву для атрыманьня дазволу на выезд у Польшчу.

Абвінаваўчае заключэньне, складзенае на восем чалавек акруговым пракурорам Старыкавым, было зацьверджана, і далі "дабро" на паказальнае судзілішча.

5 красавіка 1935 году выязная сэсія акруговага суду "імем РСФСР" прысудзіла Мазюка Адама, Карпыша Людвіга І Бельскага Міхала па артыкулах 58-10 і 19-58-8 КК РСФСР кожнага да 10 гадоў папраўча-працоўных лягераў, братоў Лютых Пятра і Івана па артыкуле 58-10 адпаведна да 8 і 3 гадоў ППЛ, Кандрацкага Станіслава, Качына Восіпа і Сургелу Напалеона да 6, 5 і 4 гадоў жыцьця ў ГУЛАГу... Толькі тром з васьмі ўдалося выйсьці на волю і потым памерці дома сваёй сьмерцю.

Бельскага вызвалілі датэрмінова праз восем гадоў "паводле стану здароўя", Мазюк вызваліўся ў 1946-м, адбыўшы дзясятку "ад і да", Кандрацкі замест шасьці гадоў адсядзеў дванаццаць і быў вызвалены толькі ў лютым 1947 году. Выйшаў зь лягеру "спэцперавыхаваньня" ў трыццаць сёмым і Люты Іван, які атрымаў самы маленькі тэрмін з усіх сваіх "аднаспраўнікаў", але ў канцы кастрычніка 1937 году зноў быў арыштаваны і 8 студзеня 1938 году расстраляны. Яго старэйшы брат Пётра памёр 19 красавіка 1942 году ў Севуралагу НКВД. Рашэньнем тройкі УНКВД Дальбуду ў Калымскіх лягерах 5 студзеня 1938 году расстралялі Карпыша Людвіга. Назаўсёды засталіся ў магаданскай зямлі Качан Восіп і Сургела Напалеон...

А што ж з калгасам? Яго на гэты раз арганізавалі актывісты адразу пасьля паказальнага працэсу. Назвалі яго "Чырвоны штандар".

Да сёньняшніх дзён існуе ў Беластоку калгас, праўда, пад іншай назвай і статусам "сельгаспрадпрыемства". Новыя подыхі фэрмэрызацыі пакуль не дакаціліся да тых краёў: упарта адмаўляюцца нашы землякі выходзіць з калгасу, гэта значыць з сельгаспрадпрыемства, і браць аднятую ў трыццатыя гады зямлю, ня хочуць зноў стаць, як іх дзяды, аднаасобнікамі. Пэўна, баючыся быць зноў потым раскулачаным...

## Беластоцкая трагедыя

**1937** год для беластоцкіх жыхароў пачынаўся звычайнай чарадой сялянскіх турбот, для большасьці — другі год пасьля калектывізацыі. Папаўзьлі пагалоскі пра рост арыштаў "па лініі НКВД" у Крывашэінскім раёне Заходнесібірскага краю. 13 жніўня 1937 году прайшлі першыя арышты і ў Беластоку. Арыштавалі дырэктара школы Пятра Чырвонага, старшы-

ню калгаснай управы Васіля Дашука, а таксама настаўніка Паўла Барысаўца, "завхоза" школы Мікалая Карэліна і двух калгасьнікаў: брыгадзіра Фэлікса Міхню і 73-гадовага Фэлікса Ёча. Сын Чырвонага, Уладзімер, якому тады было 12 гадоў, пра той час распавёў наступнае:

"Арыштавалі бацьку раніцай. Пачаліператрус і скончылі толькі папаўдні. Забралі дзьве стрэльбы, паляўнічы нож, шмат бацькавых кніг, перапіску бацькі са сваймі бацькамі і сястрой з Польшчы (Гарадзенскай губэрні). Сястра бацькі ў горадзе Наваградку выйшла замуж за пажарніка-афіцэра і даслала нам вясельную фатакартку на памяць. І гэтае фота забралі, напэўна, для доказу сувязі бацькі з польскімі афіцэрамі... Бацьку павялі, і больш мы яго ня бачылі й ня ведалі пра яго нічога..."

Пасьля гэтага сям'ю Чырвонага адразу ж выгналі з школьнага інтэрнату, і яны вымушаныя былі туліцца ў адной з пустых хатак. Магчыма, з-за адсутнасьці настаўнікаў яго жонку адразу з працы ня звольнілі, але іншыя настаўнікі перасталі зь ёй сябраваць і нават размаўляць. Адзін сяміклясьнік моцна зьбіў сына Валодзю, і той некалькі месяцаў хварэў, не наведваў школу. Увесну, адразу пасьля навучальнага году, яны назаўжды пакінулі Беласток.

Адносіны аднавяскоўцаў да сем'яў арыштаваных былі розныя. Напрыклад, мясцовы актывіст, наш зямляк Восіп Назарук, працуючы прадаўцом сяльпо, кожны раз пры сустрэчы з жонкамі арыштаваных не ўпускаў магчымасьці нагадваць ім пра мужоў-ворагаў народу. І на сходах, і проста ў размовах ён заяўляў, што "пасьля арышту ворагаў народу ў сяле стала лягчэй дыхаць". Але нездарма кажуць, што на няшчасьці іншых уласнага дабрабыту ня зладзіш. Не дапамаглі Іосіфу прынародныя клятвы ў любові да "бацькі народаў" і НКВД. 21 кастрычніка 1937 году прыйшлі і па яго людзі ў форме...

За дзень да арышту Назарука ў Беластоку арыштавалі Івана Лютага, Блажэя Грыка, Вікенція Смоліча і былога настаўніка працы Васіля Мазжэрына. І.Люты быў у ліку тых васьмі беластачанаў, якіх яшчэ ў красавіку 35-га судзілі паказальным судом. В.Смоліч, 71-гадовы калгасьнік, быў з былых раскулачаных спэцперасяленцаў, якіх у 1929 годзе саслалі з-пад Менску ў Нарымскі край. Да моманту арышту ён жыў у Беластоку разам з жонкай Ганнай.

Апошнія два месяцы 1937 году прайшлі для нашых землякоў больш-менш спакойна: больш зь сяла супрацоўнікі раённага НКВД нікога не ўзялі. Мабыць, выканалі плян. Увогуле ж на гэты год прыйшліся 62 працэнты ўсіх рэпрэсаваных у 30-я гады на тэрыторыі Заходнесібірскага краю. Прычым сярод рэпрэсаваных — да 80 працэнтаў нашых землякоў. Аднак гэты год стаўся толькі "прэлюдыяй" да трагедыі, якая разыгралася на пачатку наступнага 1938 году.

14 студзеня ў Беластоку аднавіліся арышты. "Забралі" Тадэвуша Шыманоўскага, Аляксандра Ёча, Станіслава Пронскага і Франца Мазюка.

У сям'і Антона Ёча было 9 дзяцей. Адной з дачок, Надзеі, арышт бацькі запомніўся ў такіх падрабязнасьцях: "Тату прыйшлі арыштоўваць настаўнік наш Юкляеўскі і яшчэ нехта. Мама хворая ў ложку ляжала і ўстаць не магла. Яна толькі нядаўна дачку, сястру нашую малодшую, нарадзіла. Сталі дапытваць бацьку, з кім ён ліставаўся, і ці ёсьць лісты. Ён адказаў, што ў яго сын Антон у Томску, дачка Соф'я ў фармвучэльні там вучыцца. Другая дачка Марыя ў Калпашаве ў пэдвучэльні вучыцца, астатнія дзеці яшчэ маленькія, а больш ні з кім ён не лістуецца. Затым бацьку сказалі ўзяць кубак з лыжкай ды пару чыстай бялізны і павялі".

Ня толькі жыхары Беластоку ў гэты дзень перажылі трагедыю гвалтоўнага расставаньня з сваімі сваякамі, але й некаторыя жыхары блізкіх вёсак беластоцкага сельсавету. У вёсцы Георгіеўка зь беларусаў жыў толькі Ігнат Мархель. Яго аднаго і арыштавалі. У Нова-Андрэеўцы арыштавалі старшыню калгасу Пятра Вутына.

У лютым 1938 году арышты аднавіліся зноў. Успамінаючы тыя дні, ацалелыя беластачане казалі пра тое, што пасьля гэтага не засталося ў Беластоку ніводнага дарослага мужчыны.

16 лютага днём супрацоўнікі НКВД прыехалі ў сяло "падчышчаць" засталых беларусаў і палякаў. Арыштавалі 14 чалавек і павезьлі ў Крывашэіна да асноўнага этапу арыштаваных. Вось так у некалькі "захопаў" былі арыштаваныя беластачане. Практычна ў кожнай хаце, у кожнай сям'і пабывалі энкавэдысты, зводзячы ў невядомасьць мужа, брата, сына, бацьку, якія аўтаматычна ператвараліся ў ворагаў народу, спэцкантынгент і іншых "контрыкаў".

Вывучаныя архіўна-сьледчыя матэрыялы на беластоцкіх "ворагаў народу" пацьвердзілі ўспаміны вяскоўцаў пра тое, што сваё "жніво" органы НКВД у вёсцы пачалі 13 жніўня 1937 году. Зьдзяйсьнялі гэтае заданьне супрацоўнікі нарымскага акраддзелу НКВД Малышаў, Весьнін і супрацоўнік Крывашэінскага райаддзелу НКВД Горкін. Дапамагалі ім панятыя старшыня сельсавету Таткін і ўпаўнаважаны райвыканкаму ў Беластоцкім сельсавеце А.Асінцаў.

Вывучэньне матэрыялаў на арыштаваных 13 жніўня 1937 году паказала, што іх усіх шасьцёх разьмеркавалі па трох самастойных крымінальных "справах", зь якіх індывідуальная была толькі на "завхоза" школы Мікалая Карэліна. Рашэньнем "тройкі" УНКВД Захсібкраю ад 22 верасьня 1937 году ён быў прысуджаны да найвышэйшай меры пакараньня і расстраляны 21 кастрычніка.

На арыштаваных 13 жніўня дырэктара школы П.Чырвонага, настаўніка П.Барысаўца, калгаснага вэтэрынара Ф.Міхня, былога члена калгасу "Чырвоны штандар" Ф.Ёча і яшчэ пяцёх ураджэнцаў Беларусі, якія жылі на тэрыторыі Нарымскай акругі, была заведзеная яшчэ адна крымінальная справа пад нумарам 7138. У самым яе пачатку як рэчавы доказ падшытая схема так званай шпіёнска-дывэрсійнай контрарэвалюцыйнай групы "Польскай арганізацыі вайсковай", якую ўзначаліў П.Чырвоны.

У якасьці рэчавага доказу прыналежнасьці да "антысавецкага" элемэнту Ф.Ёча паслужылі забраныя ў яго пад час вобыску чатыры экзэмпляры рэлігійнай літаратуры, манэта царскай чаканкі коштам адзін рубель...

Адносна вэтсанітара Ф.Міхні доказам паслужыла забраная пры ператрусе паляўнічая сапсаваная бярданка і складзеная ў дзень арышту характарыстыка, якая падпісаная старшынём сельсавету Таткіным. У гэтай характарыстыцы, у прыватнасьці, сказана, што "ў калгасе Міхня займаўся шкодніцтвам, распаўсюджваў хваробы коней і як вэтсанітар не забясьпечыў выкананьня пастановы райвыканкаму па барацьбе з чумою сьвіней..."

П.Чырвонага асабіста дапытваў начальнік Крывашэінскага райаддзелу НКВД Кіпервас, а Ф.Ёча, Ф.Міхню і П.Барысаўца — сяржант дзяржбясьпекі Баранаў. Пасьля трох-чатырох допытаў яны "прызналіся" ў тым, што зьяўляліся актыўнымі ўдзельнікамі кантрарэвалюцыйнай шпіёнска-дывэрсійнай "Польскай арганізацыі вайсковай" ("ПАВ"), вербавалі ў гэтую арганізацыю іншых, хавалі паляўнічыя стрэльбы...

Чырвоны прызнаўся ў тым, што быў завербаваны ў "ПАВ" ксяндзом Жукоўскім і зьяўляўся камандзірам паўстанцкага атраду. Подпіс Ф.Міхні стаіць пад прызнаньнем у тым, што ён быццам бы яшчэ з 1931 году зьяўляецца шпіёнам польскіх выведорганаў, а перад арыштам рыхтаваў атручваньне коней і кароў у калгасе "Чырвоны штандар". Ф.Ёч "даў" доказ, што быццам падрыхтаваў падпал сховішчаў Крывашэінскага "Заготзерна", падпаліў сьвінарнік у калгасе "Чырвоны штандар". Насамрэч тады сьвінарнікаў у калгасе яшчэ не было.

Абвінаваўчае заключэньне склаў і падпісаў сам начальнік Крывашэінскага райаддзелу НКВД Кіпервас, зацьвердзіў — начальнік Нарымскага акраддзелу НКВД Мартон. 18 кастрычніка 1937 году ўсе дзевяць чалавек пастановай Камісіі НКВД і пракурора СССР ад 18 кастрычніка паводле загаду нумар 128 былі асуджаны да "ВМН" і расстраляныя 5 лістапада 1937 году.

Наступны вiток рэпрэсіўнага махавіка для беластачанаў і іншых нарымскіх баларусаў і палякаў адбыўся 16 лютага 1938 году. Супрацоўнікі НКВД, якія прыехалі раніцай у Беласток, без асаблівых турботаў арыштавалі апошніх 15 дарослых мужчынаў. Пра далейшы лёс арыштаваных можна даведацца з архіўна-следчай справы пад нумарам 2642. У ёй сабраныя матэрыялы яшчэ на 122 "актыўных удзельнікаў ПАВ" з усёй вялікай Нарымскай акругі. У лік дадатковых "ворагаў народу" патрапілі Восіп Ляўко і Васіль Бембель, жыхары Вазьнясенкі, якіх даарыштавалі адпаведна 26 і 28 лютага. У другой палове траўня ў Калпашава прыйшла шыфратэлеграма аб тым, што 21 красавіка Спэцыяльная нарада ў асобе намесьніка наркама НКВД СССР усіх без выключэньня асудзіла да найвышэйшай меры пакараньня — расстрэлу. Прысуд выканалі 22 траўня 1938 году ў Калпашаве.

На гэтым "рэпрэсіўная кроніка НКВД" у адносінах да жыхароў сібірскага Беластоку скончылася з прычыны сканчэньня "зыходнага матэрыялу" — мужчынаў. Рэпрэсіі па лініі НКВД жанчын сяла не закранулі. Калі не лічыць, вядома, што жанчыны і дзеці мусілі яшчэ доўгія гады несьці на сабе цяжкае таўро жонак і дзяцей "ворагаў народу".

Усяго ў Беластоку з 30 жніўня 1937 году да 16 лютага 1938 году было арыштавана органамі НКВД 88 чалавек. Лічба ўражвае, калі ведаць, што ў сяле, паводле перапісу 1937 году, налічвалася ўсяго 127 мужчынаў ад васямнаццаці гадоў да зусім старых. 68 чалавек з усіх арыштаваных былі рэпрэсаваныя. І толькі двум зь іх пашчасьціла застацца ў жывых. Акрамя таго, да прыведзенай вышэй лічбы расстраляных і асуджаных вяскоўцаў трэба дадаць яшчэ 20 устаноўленых прозьвішчаў жыхароў Беластоку, якія зьехалі на новыя месцы жыхарства і былі "ўзятыя" органамі НКВД ужо там.

Карная сталінская машына не спынілася на трыццатых гадах і тым больш у дачыненьні да нашых землякоў. Уперадзе яшчэ будуць масавыя дэпартацыі ў сібірскія прасторы ў канцы трыццатых — пачатку саракавых гадоў з раёнаў Заходняй Беларусі.

Кожны з тых, хто загінуў у Сібіры ў 30-40-х гадах, жыў сваім жыцьцём, меў свае мары, свае ўяўленьні аб сэнсе чалавечага быцьця. І ўсе яны без разбору ў свой час былі аддадзеныя ў ахвяру чалавекажэрнай сыстэме.

*Томск-Менск*

Рабочы рух

# СТРАЙКАМ ПАТРАБАВАЎ НЕМАГЧЫМАГА

Ня кожны дзень можна бачыць сваіх знаёмых уключанымі літаральна "ў гісторыю". Вось артыкул з трэцяга тома Энцыклапэдыі Гісторыі Беларусі "Гомельская забастоўка 1990": "... быў утвораны гарадзкі забастовачны камітэт (А.Бухвостаў, В.Ялфімаў, С.Сімкін, Я.Мурашка, А.Гурачэўскі і інш.)".

Яўген Мурашка, адзін з заснавальнікаў Канфэдэрацыі Працы Беларусі, сёньня — прадстаўнік Беларускага Гельсынскага Камітэту ў Гомелі. У размове зь ім раптам высьветлілася, што артыкул у Энцыклапэдыі — недакладны. У часе згаданых падзеяў Я.Мурашка быў ініцыятарам тых страйкавых працэсаў на вытворчым аб'яднаньні "Гомсельмаш", пра якія ідзе гаворка ў энцыклапэдычным артыкуле В.Лебедзевай.

ЭГБ: "У Гомелі на прафсаюзнай канфэрэнцыі вытворчага аб'яднаньня "Гомсельмаш" (сьнежань 1989) былі прынятыя патрабаваньні да адміністрацыі мясцовых і рэспубліканскіх уладаў, ураду СССР і вырашана ў выпадку іх невыкананьня пачаць забастоўку".

Насамрэч ніякіх патрабаваньняў на гэтай канфэрэнцыі прынята не было. Яўген Мурашка сапраўды выступіў з патрабаваньнямі да ўладаў і перадаў іх у прэзыдыюм. Але ніхто іх не прымаў. Калі пазьней Я.Мурашка прыйшоў у прафкам і запытаўся пра лёс патрабаваньняў, дзеячы "школы камунізму" знайшлі пакет дакумэнтаў у самай ніжняй шуфлядзе стала, закіданы іншымі паперамі.

Натуральна, не было прынята і рашэньня аб страйку. За саму прапанову такога мэтаду барацьбы Я.Мурашку проста абсьвісталі. Усе падзеі пачаліся толькі ўвесну 1990-га.

14 сакавіка 1990 году на паседжаньні працоўнага калектыву заводу і былі выстаўленыя гэтыя патрабаваньні. У выпадку непрыняцьця мераў кавальна-прэсавы цэх, у якім працаваў на той час Я.Мурашка, павінен быў узьняць папераджальны страйк. Кіраўніцтва заводу паспрабавала было закрыць дыскусію, але дыскусія не закрылася, і папераджальны страйк было вырашана пачаць 26-га сакавіка з 13 да 15 гадзіны.

У азначаны дзень і час у кавальна-прэсавым цэху змоўклі ўсе станкі й машыны. Наступіла цішыня. Хто быў хоць раз каля прэса, той ведае, што такое цішыня.

На другой гадзіне страйку ў цэх прыйшоў генэральны дырэктар Дрозд, узяў патрабаваньні страйкоўцаў і загадаў Я.Мурашку ўвечары зайсьці да яго ў кабінэт. У той жа вечар Дрозд загадаў аддаць патрабаваньні на машынапіс.

ЭГБ: "Улады ўсіх узроўняў праігнаравалі патрабаваньні". Але ўжо была створана каардынацыйная рада прадпрыемства, якая зьбіралася ў "чырвоным кутку" мэханазборачнага цэху №2. Сюды прыходзілі Б.Гюнтэр — сёньня адзін з кіраўнікоў БНФ, А.Бухвостаў — вядомы дзеяч ФПБ і інш. 12-га красавіка ў сувязі зь невыкананьнем патрабаваньняў было прынятае папярэдняе рашэньне пра страйк, 20-га — канчатковае рашэньне. І "26.4.1990, у 4-ю гадавіну аварыі на ЧАЭС, работа прадпрыемства (30 тыс. чалавек) была спыненая, кіраўніцтва ім перайшло да забастовачнага камітэту" (ЭГБ).

Да страйкаму і прыйшоў партыйны сакратар Леанід Барабанаў ды паведаміў, што на прадпрыемства едуць кіраўнікі адначасова партыі і ўраду Сакалоў і Камай. Існавала пагроза, што здымуць даволі прадказальнае кіраўніцтва заводу, а на іх месцы прызначаць невядома каго. Страйкам, які на гэты момант кіраваў вытворчасьцю (а дакладней — невытворчасьцю), павінен быў бараніць сваіх прынцыповых супраціўнікаў. Увесь электратранспартны цэх тэрмінова быў пасаджаны на электракары і разасланы па цэхах з заклікам зьявіцца да 18 гадзіны ў прафкам. Так, экспромтам, стварыўся "праведзены на прадпрыемстве мітынг" (ЭГБ). Сакалоў і Камай на масавасьць не разьлічвалі і прыехалі з адной машынай аховы. На ганку прафкаму іх спыніў страйкам і запатрабаваў тлумачэньня: ці маюць яны намер разглядаць патрабаваньні працоўных.

З прадстаўнікамі партыі і ўраду страйкам дамовіўся: размова вядзецца ў канфэрэнц-залі, да людзей выводзім трансьляцыю. І пакуль выводзілі трансьляцыю, увесь прэзыдыюм занялі кіраўнікі. Страйкамаўцы селі ў залі, і разгляд патрабаваньняў пачаўся. Але страйкам чакаў ураду, а высьветлілася, што прыехала партыя. У гэтай сытуацыі працоўныя сышлі ў страйкам і напісалі заяву, што далейшую сустрэчу яны лічаць немэтазгоднай. Такім чынам "мітынг не прывёў да паразуменьня" (ЭГБ).

На наступны дзень, 29 красавіка, кіраўніцтва заводу і прадстаўнікоў страйкаму выклікалі на сустрэчу ў абкам. Але працоўныя "Гомсельмашу" прыйшлі і да абкаму: чакаць вынікаў "разборак" і сустрэцца нарэшце як сьлед з Камаем і Сакаловым. Апошнія зьехалі ад народу "чорным ходам", праз двары. Кіраўніцтва заводу выйшла праз цэнтральны ўваход —пераможцамі.

ЭГБ: "12.5.90 быў утвораны гарадзкі забастовачны камітэт (А.Бухвостаў (які, дарэчы, і езьдзіў у абкам на сустрэчу з Камаем і Сакаловым. — С.П.), В.Ялфімаў, С.Сімкін, Я.Мурашка, А.Гурачэўскі і інш.)".

С.Сімкін ня быў прадстаўніком працоўнага калектыву. Калектыў заводу "Сейсматэхніка" яго не вылучаў, ягоныя дакумэнты былі "ліпавыя", зробленыя ў дырэкцыі "Сейсматэхнікі". Як толькі гэта высьветлілася, Сімкіна вывелі са складу ўдзельнікаў страйкаму.

ЭГБ: "7-8.7.90 у час работы XXVIII зьезду КПСС забастовачны к-т з дапамогай гарсавету і гарадзкой рады Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" арганізавалі ў Маскву марш-пратэст "За выжываньне" з удзелам 350 прадстаўнікоў пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС Гомельскай, Магілёўскай і Бранскай абласьцей. Пасьля гэтага ў Гомель была накіраваная камісія на чале з намесьнікам старшыні СМ СССР В.Дагужыевым".

Пад час XXVIII зьезду КПСС у Маскве сабраліся звыш 1000 айчынных і замежных журналістаў. У разьліку менавіта на іх страйкам стварыў марш "За выжываньне". Праз гарсавет у Маскву былі пасланыя тэлеграмы з патрабаваньнем сустрэчы з кіраўніцтвам Саюзу, тэлефанавалі карэспандэнты. Гарадзкая арганізацыя БНФ, якая датуль была толькі ўдзельнікам, а не арганізатарам акцыі, на гэты раз уключылася шчыльна. Менавіта яны знайшлі аўтобусы і разам з прадстаўнікамі прадпрыемства паехалі ў Маскву.

Акцыя яўна ўдалася — карэспандэнтаў было шмат. Вось тады ў Гомель і была накіраваная камісія на чале з Дагужыевым.

Амаль паўтара тыдня гарадзкі страйкам змагаўся за кожны пункт, за кожны радок патрабаваньняў. Тады ж страйкам і папярэдзілі, што яны павінны кантраляваць выкананьне дасягнутых пагадненьняў, ціснуць на ўрад. Але ціснуць было ўжо няма каму. Бухвостаў пайшоў у "вярхі", Ялфімаў ствараў на гомельскім радыёзаводзе суполку Свабоднага Прафсаюзу, Мурашка стварыў Канфэдэрацыю Працы, Сімкіна выгналі. Астатнія разышліся, хто куды — страйкаваць значна цікавей, чым штосьці кантраляваць. Тады страйкам дзейнічаў паводле прынцыпу: "Будзьце рэалістамі — патрабуйце немагчымага". Калі патрабаваць магчымага, у выніку пагадненьняў усё роўна дадуць менш. Калі ж патрабаваць немагчымага — зробяць усё магчымае, максымальна магчымае. Страйкам патрабаваў немагчымага.

У чым сэнс энцыклапэдычных недакладнасьцяў? У тым, што безь непрынятых патрабаваньняў у сьнежні 1989 не было б ніякіх патрабаваньняў. Бяз страйку кавальна-прэсавага цэху не было б увогуле ніякага страйку.

Такія артыкулы, лічыць Яўген Мурашка, павінны пісацца за подпісам некалькіх сьведкаў падзеяў, тым больш, што адшукаць іх нескладана. Мурашка выклаў адну вэрсію, Бухвостаў выкладзе другую, Сімкін — трэцюю.

Пакуль яшчэ мы можам выправіць недакладнасьці.

**Сяргей Пульша**

Сто твораў мастацтва XX стагодзьдзя



Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск. Лесьвіца, 1923, літаграфія, 25х31

# МСЬЦІСЛАЎ ДАБУЖЫНСКІ. ВІЦЕБСК. ЛЕСЬВІЦА

Віцебск... Колькі містыфікацыяў спарадзіла гэтае места!.. Безьліч твораў мастацтва, у якіх яно жыве, міжволі змушаюць думаць сёньня, што толькі ў іх Віцебск і існаваў...

... У Пецярбургу сярэдзіны 1890-х гадоў у суполцы мастака і публіцыста, вядомага эстэта Аляксандра Бэнуа высьпела ідэя стварэньня новага мастацкага часопіса. Галоўным яго арганізатарам стаў Сяргей Дзягілеў, які вёў усю адміністрацыйную працу, пакуль Бэнуа і большасьць ягоных супольнікаў былі ў Францыі. Неўзабаве, у лістападзе 1898 году, выйшаў часопіс "Мир искусства", які і даў назву новаму мастацкаму аб'яднаньню. У 1899 годзе адбылася Першая міжнародная выстава "Мира искусства". Вельмі хутка да гэтага аб'яднаньня далучылася цэлая кагорта мастакоў, архітэктараў, скульптараў і публіцыстаў: Сяроў, Каровін, Малявін, Трубяцкой і нават, на пачатку, Рэпін. Асноўны склад заставаўся ранейшы: Дзягілеў, Бэнуа, Сомаў, Лансэрэ і ўраджэнец Горадні Леў Бакст (Разэнбэрг), пазьней настаўнік Шагала.

... Снабізм, эстэцтва і рэтраспэктывізм рэзка вылучылі суполку "Мир искусства" з агульнае плыні мастацкага працэсу ў Расеі. Рэтраспэкцыйныя летуценьні ў найбольшай ступені вызначылі зьнешнія прыкметы творчасьці "мирискусников". Эпоха Людовіка XIV, Расея XVIII ст. і нават антычная архаіка сталі невычэрпнаю крыніцай натхненьня для гэтага кола мастакоў. З другога боку, яны былі літаральна апантаныя рэлігійнымі пошукамі эўрапейскае і расейскае філязофіі...

... Творцы "Мира искусства" паслугоўваліся, аднак, тэхнічнымі прыёмамі, выпрацаванымі мастацтвам новага часу, вынаходзілі і свае адмысловыя тэхнікі. Вялізны пласт творчасьці гэтых мастакоў зьвязаны з сучаснымі ім пэрыёдыкамі, дызайнам інтэр'ераў і мэблі, тэатрам, партрэтамі сучасьнікаў і плякатам. З гэтым колам зьвязаны і рэнэсанс паўзабытага дрэварыту. Як ніхто да іх, "мирискусники" шырока ўжывалі зьмяшаныя тэхнікі: акварэлі і гуашы, гуашы і каляровыя алоўкі, пастэлі, графіта, вугаль.

... У сэнсе агульнае і прафэсійнае культуры кола "мирискусников" было надзвычай адукаваным. Пры тым яны ня мелі закончанае вышэйшае мастацкае адукацыі (што бесцырымонна закідалі ім Стасаў, Рэпін ды іншыя). Адукаванасьць творцаў зь "Мира искусств" непасрэдна зьвязаная і зь іншай іх адметнаю рысай — незвычыйнай творчай плоднасьцю і працавітасьцю. Як пісаў сам Бэнуа: "Я, як найміт, працаваў з 6 раніцы да 8 вечару".

... Перад гэтым мастацкім аб'яднаньнем неўзабаве паўсталі праблемы стылю. Пошук адметнага расейскага стылю, пазьбяганьне акадэмізацыі і крытычнага рэалізму, прахалоднае стаўленьне да тэмпэрамэнтнага постімпрэсіянізму, выбар нетрадыцыйных тэхнікаў — усё гэта лягічна зьбліжала "мирискусников" з сэцэсіянізмам. Аднак напачатку яны вельмі актыўна нападалі на "Сэцэсіён", усяляк дыстанцыюючыся ад ягонага ўплыву...

"... Мастацтва "Сэцэсіёну" стала самай жахлівай руцінай нашага часу, — пісаў Дзягілеў у 1901 годзе, — яно дало трафарэты, па якіх цяпер выробляюцца штогод тысячы карцінаў. Танныя эфэкты, агульнадаступнае дэкаданцтва — усё гэта ідзе адтуль, і з гэтым найвялікшым злом неабходна змагацца. Пакуль нашыя маладыя сілы будуць выхоўвацца на Бэнары і Ўістлеры, датуль яны будуць сілкавацца здаровою ежаю, але варта ім патрапіць ва ўдушлівыя майстэрні Мюнхену, у рукі modern style'a, як на векі згубяць сябе". У гэты ж час выпускнік майстэрняў Мюнхену, вучань клясыка сэцэсіі Бёкліна Грабар выказваецца яшчэ больш адкрыта: "... усё, што так характэрна для сэцэсіяністаў: вычварныя дрэвы, "стылізаваныя" аблокі, стылізаваныя да апошняй магчымасьці постаці, абавязкова зь вялікімі вачыма, якія "шмат гавораць", стылізаваныя фарбы, нязносныя і найпачварнейшыя"...

Зь іроніі лёсу да "Мира искусства" ў 1902 годзе далучыўся Мсьціслаў Дабужынскі, выпускнік мюнхенскай майстэрні славутага славенскага мастака Ажбэ, у якога вучыўся і Грабар.

Дабужынскаму было наканавана ўнесьці асаблівую ноту ў рэтраспэктыўны сьвет гэтага кола мастакоў. У 1902-03 гадах ён стварыў сэрыю малюнкаў для паштовак з краявідамі Пецярбургу. Але паралельна з гэтай данінай густам сваіх новых расейскіх сяброў мастак распачынае тэму індустрыйнага капіталістычнага гораду, першы ў расейскім мастацтве... Як пісаў пазьней ягоны прыяцель Сяргей Макоўскі, "такія матывы ён абіраў часта — манумэнтальнае жабрацтва дамоў-вульляў, убогую фантастыку дому-турмы, муры, аблупленыя струмянямі дажджу, правэнджаныя фабрычным дымам, куткі фабрычных ускраінаў, глухмянёвая нішчымніца з падсьлепаватымі згорбленымі хацінамі і стогадовым брудам глуханямое правінцыі, чаго нямала было ў мой час, ледзь ня ў цэнтры яго вялікасьці Пецярбургу..."

Пецярбург Дабужынскага — гэта ня велічны разьлёт клясычных калянадаў, ня вагнэраўская стыхія мора і Нявы, ня пекнасьць мудрагелістых прыдворных рытуалаў, а адно толькі Мур. Мур, які захінуў неба, Мур, у які ўпапрэцца позірк, Мур, якім скончыцца шлях. Мурам не патрэбныя людзі, яны не патрэбныя і мастаку дзеля таго, каб перадаць жуду зьмярцьвелых дамоў з ваконнымі дзірамі-вачніцамі альбо аблупленымі брандмаўэрамі. Чыста па-сэцэсійнаму Дабужынскі ўтрырує свае мэтафары, кантрасна супастаўляючы з "домам-турмою" нібыта раструшчаны ім драўляны дамок альбо кранальнае ў сваёй кволасьці жывое дрэўца. Ужо сучасьнікі параўноўвалі фантастычны рэалізм Дабужынскага з традыцыяй Дастаеўскага, які назваў Пецярбург "наўмысным горадам"...

Дабужынскі часта наяжджаў на радзіму продкаў — у Беларусь, у Літву. Сямейныя паданьні выводзілі радавод Дабужынскіх ад Гедымінавічаў і ад Полацкіх князёў. У Вільні жылі бацькі, родныя... Здаецца, няма ў старой Вільні кутка, вулачкі, якія б не адлюстраваў мастак. Часам адна і тая ж кропка краявіду выяўленая шматкроць: узімку, увосень, пад дажджом, уначы, на досьвітку. Але тут усё па-іншаму, тут няма будзённасьці, а толькі падлеткавае захапленьне, інфантыльны рамантызм... Трымтлівае чаканьне радасьці чароўнага сьвята. У дзяцінстве няма бруду, пылу, смуроду, ёсьць толькі заўтра... Зараз згасьне сьвятло, а на сцэне зьявяцца Ліздэйка з Гедымінам, Сьвяты Казімер, Каспар Бекеш, Барбара Радзівіл, героі, прывіды, цмокі...

Аднаго разу, у Віцебску, мастак піша акварэльны краявід зь ... людзьмі. Калі ў Пецярбургу Дабужынскага стварэньні чалавечых рук нібы выпадаюць з гэтых рук і жывуць сваім уласным патаемным жыцьцём, а людзі ператвараюцца ў стафаж альбо ў цені, то ў ягоным Віцебску дамы становяцца дамамі, а людзі толькі людзьмі... У гэтай зімовай акварэлі 1909 году віцебскія дамы, старажытныя, са змытым часамі дэкорам, шматкроць пабеленыя, нібыта вылепленыя са сьнегу, зусім ня страшныя, бедныя дробныя крамкі. Каля іх самотная жанчына ў даўгой сялянскай хустцы, другая, запоўніўшы сваёй постацьцю амаль увесь праём вузенькае вулкі, спускаецца ўніз... а ўнізе яшчэ дамок і яшчэ адзін... Дамы і людзі ў суладзьдзі, яны адпаведныя. Тут няма і знаку на бясьсільле чалавека перад невядомымі яму цёмнымі сіламі, якіх ён стварыў, а яны, непадуладныя, зрабілі зь яго бязвольную цацку, хоць менавіта гэтым Дабужынскі і застаўся ў гісторыі расейскага пэйзажу...

... У 10-я гады Дабужынскі зьдзейсьніў доўгатэрміновае падарожжа па індустрыйных краінах Захаду. Урбаністычныя матывы ўсё болей і болей нарастаюць, пераўвасабляючы докі Ратэрдаму, масты Лёндану, парты Гамбургу ў кашмарнае злучэньне колаў, канатаў, шасьцерняў, фэрмаў і кранаў, якое жыве апрычоным, дзіўным і вусьцішным жыцьцём. Чалавечы інсэктападобны стафаж бязглузда мітусіцца сярод вычварнай архітэктонікі. Так нарадзілася нізка "Сны"...

Але звароту назад не было... Вільня, вайна, Піцер, распад... Назад. Віцебск, 1918 год. Сюды яго запрасілі на пасаду дырэктара Народнай мастацкай школы. Ужо добра вядомы ў Эўропе, славуты майстар графікі і жывапісу, тэатральнага і дэкаратыўнага мастацтва вытрываў у Віцебску толькі год. Спрэчка з Казімірам Малевічам стала апошняй кропкай. Пасаду губэрнскага ўпаўнаважанага ў справах мастацтваў з 1918 году займаў Марк Шагал. Ён жа і заняў, па ад'езьдзе Дабужынскага, месца дырэктара Народнай мастацкай школы.

Але гэты цэлы год з жыцьця Дабужынскага быў насычаны напружанай працай. Нягледзячы на хаатычны вір пераўтварэньняў, мастак здолеў наладзіць нармальны навучальны працэс. Аднак нешта ірвалася незваротна... Багата малюнкаў, акварэляў, шкіцаў. Віцебскія краявіды, шчымліва настальгічныя, пакладзеныя лёгкім адточаным штрыхом, сакавіта акрэсьленыя акварэльнаю лісіроўкай, ня маюць нічога агульнага з апакаліптычнымі "Снамі"...

Адзін з найбольш выразных малюнкаў таго году — "Віцебск. Лесьвіца" (1919). Усё проста: ускраіна гораду, скасавураны плот, драўляная лесьвіца ўгару, старое дрэва. Але ці не адзіная гэта праца Дабужынскага, дзе Неба не сканчаецца, а адкрываецца ва ўсёй сваёй бясконцасьці, яго нішто ня засьціць... Бездакорная кампазыцыя, ужо іншая, экспрэсіўная і асымэтрычная, зусім не падобная на ўраўнаважаныя аплікацыйныя кампазыцыі сэцэсіі.

Наколькі істотным для Дабужынскага быў гэты твор, сьведчыць і тое, што ён у 1923 годзе (праз чатыры гады), жывучы ў Вільні, увасобіў яго ў літаграфіі. Кампазыцыя засталася ранейшай, але зьменены настрой... Драматызм узмоцнены: на краявід спусьцілася ноч. Ціха-ціха праплывае месяц у аксаміце начнога неба. Яшчэ больш цёмным, зблытаным і калючым стала дрэва... Яно стала цярном... А куды вядуць прыступкі? У гару? У Неба?...

Просты краявід гарадзкое ўскраіны, наўмысна пазбаўлены геаграфічнае канкрэтыкі (такі мог быць дзе заўгодна паміж Нёманам і Дзьвіною) — гэта папросту... Ерусалім, памяць пра Дарогу і пра Ўзьнясеньне...

Гэты загадкавы віцебскі краявід-малітва, адзін з найбольш значных у графічнай спадчыне Дабужынскага, стаў этапным у ягонай творчасьці. Стварыўшы ў Вільні сэрыю літаграфіяў, прысьвечаных Віцебску ("Віцебская ўскраіна", "Віцебск. Цырк" і іншыя), ён паставіў кропку ў канцы таго разьдзелу свае біяграфіі, што нітаваў яго зь Пецярбургам, "Миром искусства" і з горадам над Дзьвіною, які таксама застаўся "па той бок"... "На гэтым баку" была Вільня; хоць і блізкая, але невядомая ўжо новая Польшча, маладая Літва, краіна Беларусь, якое не было на мапе, але ў якой жылі ягоныя сябры Дуж-Душэўскі і Ластоўскі... Доўгія, доўгія гады. Нямеччына, Францыя, Галяндыя, Амэрыка...

Ліст "Віцебск. Лесьвіца" застаўся прэзэнтам Мсьціслава Дабужынскага Беларусі, сэнс якога і да сёньня застаўся патаемным. Твор пра Дарогу і Неба...

**Сяргей Харэўскі**

**Дабужынскі Мсьціслаў** (1875, Ноўгарад, Расея — 1957, Нью-Ёрк, ЗША). Графік, жывапісец, мастак тэатру. Вучыўся ў Пецярбурскай школе маляваньня Таварыства заахвочваньня мастацтваў (1885-87), у Мюнхене (1899-1901), у школе А.Ажбэ. Адзін зь лідэраў аб'яднаньня "Мир искусства" ў Пецярбургу. Жыў і працаваў у Вільні (1887-89, 1901-02, 1912-16, 1919-25). Дырэктар Народнай мастацкай школы ў Віцебску (1918-19). З 1925 у Коўне, выкладчык малюнку ў Ковенскай мастацкай школе (1929-39).



# Расейскі мастак пашкодзіў славуты твор Малевіча

Дзеля чаго вандалы падымаюць руку на знакамітыя творы мастацтва? Найчасьцей такімі людзьмі рухае страсьць да чорнай сэнсацыі — тым больш моцная, чым менш шанцаў праславіцца неяк інакш. А калі гэта прыходзіць у галаву самім творцам? Адзін расейскі мастак свой напад на твор Казіміра Малевіча патлумачыў як форму пэрфомансу.

Гонар экспазыцыі, якая прадстаўляе мастацтва XX ст. у гарадзкім музэі Амстэрдаму — твор Казіміра Малевіча "Белы крыж на шэрым тле". Згадаем, што заснавальнік супрэматызму ў сваіх кампазіцыях найчасьцей ужываў базавыя геамэтрычныя фігуры — трохкутнік, крыж, прастакутнік. Ён сьмела й вынаходліва апэраваў імі, каб як найпаўней раскрыць арганічныя суаднасіны формы й прасторы. У 1922 годзе ў Віцебску выйшла яго праца "Супрэматызм — непрадметны сьвет або вызваленае нішто". У тым жа годзе ён удзельнічаў у выставах у Бэрліне і Амстэрдаме. Такім чынам ў багатай на мастацкія традыцыі галяндзкай сталіцы апынуліся колькі твораў Малевіча, якія цяпер належаць гарадзкому Stedelijk Museum.

Сёлета на пачатку сакавіка 39-гадовы грамадзянін Расеі Аляксандар Брэнер спрэевай фарбай намаляваў на Малевічавым "Белым крыжы" вялікі, амаль па ўсім палатне, знак $ — сымбаль амэрыканскага даляра.

Дагэтуль ахвярамі спрэевага мастацтва звычайна былі сьцены вуліцаў, тунэляў і пераходаў, вагоны цягнікоў і мэтро. А.Брэнер стаў першым спрэевым хуліганам у музэі. Пры гэтым ён уважае сябе за творцу, прадстаўніка арт-пэрфомансу. Сваю акцыю ён патлумачыў так: "Паколькі грамадзтва становіцца ўсё больш дэструктыўным, то такім мусіць быць і мастацтва, якое яго адлюстроўвае".

Праўда, праваахоўныя органы Амстэрдаму на мастацкае самавыказваньне Брэнера маюць свой пагляд. За пашкоджаньне твора мастацтва — што клясыфікавана як тэрарыстычны акт —Брэнер быў



*На здымках: "Белы крыж" Казіміра Малевіча і знак даляра, намаляваны на ім расейскім мастаком.*

зьняволены. У турме расейскі авангардыст заявіў, што не зьбіраўся нікога тэрарызаваць, а толькі рэалізаваў свае права на самавыяўленьне. Такім чынам ён быццам хацеў выказаць свой пратэст супраць гандлю мастацкімі каштоўнасьцямі, калі грашыма імкнуцца закрыць як мастацкія, так і творчыя праблемы. Урэшце, як высьветлілася, амстэрдамскі акт Брэнэра быў ня першым. Летась у Стакгольме ён фарбаю са спрэю пашкодзіў твор кітайскай мастачкі Вэндзі Гу. Але тады гэты выпадак не набыў вялікага розгаласу, як і колішні Брэнераўскі пэрфоманс перад маскоўскім Пушкінскім музэем, калі ён разам з прыяцелямі выступаў на 20-градусным марозе голым.

Але гэтым разам А.Брэнера ацанілі. Суд у Амстэрдаме, улічваючы тое, што Брэнер сваім учынкам хацеў прыцягнуць увагу да камэрцыялізацыі мастацтва, прысудзіў яму 5 месяцаў зьняволеньня. Акрамя таго, Брэнер мусіць пакрыць кошт рэстаўрацыі твора Малевіча — прынамсі 10 тысячаў даляраў — і суму, заплачаную спэцыялістам за ацэнку палатна. Яно ацэненае на 10 мільёнаў амэрыканскіх даляраў. Рэстаўрацыя твора будзе складанай, паколькі фарба глыбока пранікла ў структуру арыгінала.

*Паводле нямецкага часопіса ART падрыхтавала*

**Алена Ціхановіч.**

# БАРАЗНА Ў ГОРАДЗЕ



*Адзін у ГОРАДЗЕ. Выстава твораў Міхала Баразны. Музэй Беларускай Акадэміі Мастацтваў, Менск, 25.02—12.03.1997*

*"Мой горад тут. Круглае, Мюнстар, Вільня, Суздаль, Амстэрдам, Рым, Гданьск, Магілёў, Вена, Тыльзыт, Віцебск... Дзе я, там і ён — мой горад. Заву я яго Менскам".*

*Міхал Баразна*

Менскае дойлідзтва часоў "art deco" 40-50-х гадоў, часта званае "сталінскім ампірам", не зважаючы на сваю "ўсесаюзнасьць", выломваецца з шэрагу іншых прыкладаў на абсягах колішняга СССР, яно не падобнае на Маскву, Харкаў, Ленінград, Кіеў ці Сталінград. Да прыкладу, у паваеннай архітэктуры Кіева, якую Карбюзье назваў "трызьнёй ашалелага кандытара", ня знойдзеш ані цэласных ансамбляў, ані спробы ўвасобіць нацыянальны стыль савецкае рэспублікі. У Менску 40-50-х няма натуральнага каменя, дахоўкі, ... і фантанаў, такіх улюбёных савецкімі архітэктарамі. Асноўныя манумэнтальныя дамінанты, грандыёзныя праекты перабудовы Менску ў 30-я гады перадвызначылі і ягонае аблічча пасьля вайны. Цэласны ансамбаль, манумэнталізм без пампэзнасьці — гэткі свой хатні, кардонны нэакласыцызм, неадрыўны ад памяці і самога мэнталітэту менчукоў.

У Менску няма пятае калёны. Ці то будынак КГБ, ці Акадэмія Мастацтваў — чатыры калёны, іншым разам іх можа быць болей, але ніколі ня пяць... Пятую калёну і шукае Міхал Баразна, ловячы ў вока аб'ектыва невераемную колькасьць менскіх, рымскіх, нямецкіх калёнаў. Бадай, толькі яму ўдаецца зьняць Менск, як Рым, а Рым, як Менск... Зьмяшаць усю Эўропу ў адну каменна-цагляную салату "Менск".

"... У гуках разладжаных Geigen я адчуў надзвычайную гармонію... Яны пасуюць сьцяне гэтага гораду. Вецер, сьмецьце пад нагамі. Якое шчасьце, якое шчасьце — вынаходніцтва Player'а. Зь дзяцінства быў не надзелены здольнасьцю аднаўляць складаныя і доўгія музычныя кампазыцыі, шчыра зайдзросьціў кампазытарам і дырыжорам. Унутры гучалі толькі невялічкія фрагмэнты арганаў, аркестру..." — апавядае пра сябе Баразна. Нарадзіўшыся ў вёсцы, аб'езьдзіўшы паўЭўропы, мастак па-ранейшаму з захапленьнем бачыць Менск як сваю сталіцу, і бачыць яго не як птушка, не як кіроўца аўто, а як чалавек, маленькімі фрагмэнтамі-карцінкамі, якія заўсёды застануцца карцінкамі нават у самай тоўстай кнізе. "... Калі ў галаве музыка, ты проста крочыш між калёнаў, не заўважаючы брудных лужынаў, запляванага электаратам аўтобуснага прыпынку. Гарады Эўропы нават у найпякнейшыя часы барока, бадай, выглядалі менавіта так. Памыі, сьмецьце, ваніты. Чалавек сьпяшаўся дахаты, да свайго клявэсыну". Занятыкі паліграфічным дызайнам, графікай, тэорыяй мастацтва і выкладаньнем, такімі спарадкаванымі і дысцыплінарнымі рэчамі, ня толькі не пярэчаць успрыманьню аўтарам менскага хаосу зь нічога. Наадварот, Баразна гатовы прыняць Менск як арганізм на пэўным этапе эвалюцыйнае лесьвіцы. "Дзіўны горад, яго разладжаны, сутаргавы рытм існаваньня, мэту якога можна вылічыць толькі не ў дыяпазоне чалавечых органаў пачуцьця, мне нагадвае кажаноў, якіх я бачыў толькі ў вёсцы".

Матыў лесьвіцы, шырокіх і ўпэўненых маршаў у ягоных фота пакрывае сваім аптымізмам сумлеў у рацы тутэйшага існаваньня. Яшчэ адна прыступка... Урэшце нябачныя муры Гораду Нябёсаў — вось што тут самае каштоўнае, бо іх ня зьнішчыць. "Тут самае каштоўнае не выраблялася з золата, для якога патрэбныя мураваныя сьцены". А можа, мы ўжо прамінулі сваю эвалюцыю, не заўважыўшы, што даўно жывем у іншым вымярэньні, дзе і маем свае гарады? І толькі штукар-фатограф нам пра гэта намякае... Шкада, што толькі ў адных сьценах Акадэміі мастацтваў.

"На жаль, у горад ізноў прыйшла вясна: няма чым дыхаць з-за пылу, які носіць па вуліцах менскі вецер. Усю зіму гэтыя вуліцы шчыльна засыпалі салёным пяском. Асабліва непрыемна катацца ў гэты час трамваем, калі ягоныя велізарныя калодкі валочацца ледзь не па зямлі, а пад час прыпынку з сутаргамі і скрогатам яны падымаюць велізарнае бруднае воблака, якое ўдыхае жалезны салён праз пярэдняя дзьверы. Машыны-палівачкі зьявяцца толькі напрыканцы траўня, калі такі добра ўжо прыпячэ. Якое шчасьце — вынаходніцтва цёмных акуляраў".

Вы ня ўпэўненыя, што Менск — гэта Рым? Усё, што Вы маглі б адчуць і тут, пабачыце сёньня і на новай выставе Міхала Баразны ў доме "Дружбы народаў". Чакае Вас там "Вечны Горад".

**Сяргей Харэўскі**







Здымкі М.Баразны

**ПАДЗЕІ ГОДУ**

750 гадоў таму скончыў сваё падарожжа па Сярэдняй Азіі і Манголіі першаадкрывальнік гэтага рэгіёну дасьледчык Дж. дэ П.Карпіні.

450 гадоў таму каралём Францыі становіцца Генрых II дынастыі дому Валёнаў. Генрых II быў заснавальнікам "Вогненнай палаты" (1547), своеасаблівага трыбуналу пры парыскім парлямэнце. Палата судзіла ерэтыкоў, галоўным чынам, гугенотаў.

450 гадоў таму расейскі цар Іван Жахлівы пабраўся шлюбам з Анастасіяй Раманаўнай Захар'інай-Кошкінай з адносна нязнатнага маскоўскага баярскага роду.

350 гадоў таму ў Менску ўзьніклі новыя цэхі: кушняроў, шапачнікаў, гарбароў. Адначасова ўзмацніліся і цэхавыя абмежаваньні.

325 гадоў таму пачалася ангельска-галяндзкая вайна, якая скончылася праз два гады Вэстмінстэрскім мірам. Гэта была апошняя з сэрыі трох войнаў паміж дзьвюма найбольш разьвітымі ў XVII ст. краінамі. Выкліканая яна была гандлёва-эканамічным і каляніяльным суперніцтвам. Вайна спрыяла паслабленьню пазыцыяў Галяндыі і пераходу гандлёва-эканамічнай і каляніяльнай гегемоніі да Англіі.

325 гадоў таму заснаваны найстарэйшы прыватны ангельскі банк — C.Khor company.

300 гадоў таму пачаў выходзіць першы штогоднік "Альманах старога Муру". Альманах выходзіць безь перапынку да сёньня. Яго выдаўцы "В.Фулшэм і К" з Слава (Англія) штогод выдаюць 1 млн. асобнікаў.

300 гадоў таму скончылася вайна за Пфальцкую спадчыну, якая цягнулася з 1688 году і скончылася Рысьвіцкім мірам. Гэта была вайна паміж Францыяй і Аўгзбурскай лігай. Пачалася з нападу войскаў Францыі, якая прэтэндавала на былую частку сваіх тэрыторыяў — на Пфальц.

275 гадоў таму ў Дрэздэне створаныя Дзяржаўныя мастацкія зборы. Дрэздэнская галерэя — адзін з найбуйнейшых у сьвеце збор жывапісу — існаваў ужо з 1560 г. Там захоўваюцца творы старых і новых эўрапейскіх майстроў (Рафаэль, Дзюрэр, Я.Вэрмэер...).

250 гадоў таму ў Флярэнцыі (Італія) утворана Нацыянальная бібліятэка, у якой налічваецца каля 5 млн. тамоў кніг.

200 гадоў таму скончылася I кааліцыйная вайна, якая доўжылася з 1792 году і скончылася Кампа-Фармійскім мірам (Італія) у 1797 г. Гэты мір скончыў пераможную для Францыі вайну супраць Аўстрыі. Яна саступала Францыі тэрыторыю Аўстрыйскіх Нідэрляндаў, прызнавала ўтварэньне Цызальпійскай рэспублікі (у якую ўключалася Ламбардыя), замест гэтага атрымоўвала Зальцбург, большую частку тэрыторыі былой Вэнэцыянскай рэспублікі, частку баварскіх земляў.




150 гадоў таму амерыканскі дасьледчык-этнограф Люіс Генры Морган у сьвяточных абставінах быў прыняты ў род Ястраб племені Сэнэка. Генры Морган — дасьледчык першабытнага грамадзтва, сьцьвярджаў ідэю прагрэсу і адзінства гістарычнага шляху чалавецтва. Першым паказаў значнасьць роду як асноўнага элемэнту першабытнага грамадзтва. Давёў пра разьвіцьцё маёмасьці ад калектыўнай формы да прыватнай.

125 гадоў таму заснаваны знакаміты Dresdner Bank — Дрэздэнскі камэрцыйны банк. Сучасная галоўная кантора знаходзіцца ў Франкфурце-на-Майне. Банк мае каля 900 філіяў у краіне; каля 40 прадстаўніцтваў па ўсім сьвеце (у тым ліку ў Менску).

100 гадоў таму нямецкі інжынэр Рудольф Дызэль сканструяваў дызэльны рухавік. Гэта быў поршневы рухавік унутранага згараньня, які запальваўся ад сьцісканьня. Працуе на дызэльным паліве, эканамічны.

100 гадоў таму заснаваны ўнівэрсытэт у Кіёта (Японія), старажытнай сталіцы дзяржавы. На сёньняшні дзень ва ўнівэрсытэце навучаюцца каля 20 тысячаў студэнтаў.

75 гадоў таму ў Нямеччыне пабудаванае адно з найбуйнейшых за ўсю гісторыю пасажырскіх суднаў "Калюмбус". Яго гаспадаром была кампанія Норддэйчар Лойд. Магутнасьць гэтага карабля была 30.000 к.с., хуткасьць складала 19,5 вузлоў, пасажырскіх месцаў 1700.

75 гадоў таму ў Італіі засноўваецца нацыянальны парк "Гранд-Парадыза", ахова якога фактычна вядзецца ўжо з 1836 году. Плошча гэтага парку 62 тыс. га.

50 гадоў таму ўтворана ЦРУ (Цэнтральная Разьведвальная Ўправа) на чале з Уільямам І.Голбі.

25 гадоў таму ў Манагуа (Нікарагуа) адбыўся моцны землятрус, ахвярамі якога сталіся каля 5000 чалавек.

**САКАВІК**

200 гадоў таму вынаходнік Луі Нікаля Ваклен адкрыў хімічны элемэнт Хром (Cr).

**КРАСАВІК**

100 гадоў таму ў Асаме (Індыя) адбыўся землятрус. На плошчы 23.000 км2 рэльеф быў зьменены да непазнавальнасьці.

75 гадоў таму ў Бразыліі ўтворана Бразыльская камуністычная партыя, генэральным сакратаром ЦК стаў С.Маліна. У той самы год была ўтворана і камуністычная партыя Чылі.

**3 красавіка**

100 гадоў таму памёр славуты нямецкі кампазытар, піяніст і дырыжор Ёган Брамс. З 60-х гадоў жыў у Вене. Разьвіваў клясычныя традыцыі венскага сымфанізму, узбагаціў іх новым рамантычным зьместам.

**4 красавіка**

125 гадоў таму памёр мастак і вынаходнік "Азбукі Морзэ" амэрыканец Самуэль Морзэ.

**7 красавіка**

225 гадоў таму ў Бэзансоне (Францыя) нарадзіўся францускі сацыял-утапіст Шарль Фур'е. Фур'е крытыкаваў буржуазны лад ("цывілізацыю") і распрацаваў плян будучага грамадзтва —"гармоніі", у якім павінны разгарнуцца ўсе чалавечыя здольнасьці. Новае грамадзтва, паводле Фур'е, пабудуецца шляхам мірнай прапаганды сацыялістычных ідэяў.

50 гадоў таму ў Дзірбарне (ЗША) памёр Генры Форд. Вядомы амэрыканскі капіталіст, пачынальнік сэрыйнага выпуску аўтамабіляў (1903), названых ягоным імем. Гаспадар аўтамабільных заводаў і сусьветнай манаполіі. Чысты прыбытак кампаніі складае каля 1 млрд. даляраў. Манаполія мае 27% вытворчасьці аўтамабіляў у краіне.

Паўліна Качаткова

# ПРА АДНУ КАБЕТУ

Апавяданьне

Удалечыні ад Радзімы шмат думаю пра адну кабету.

Гэта ўспамін пра прывід.

Народжаныя морам хвалі набягаюць на скалы, каб разьбіцца і зьнікнуць; маладыя крабы ў змроку караскаюцца на мокрыя камяні; рыбкі поўзаюць па дне. Чырвонае сонца правальваецца ў ваду, наступае цемра — самы час уявіць пахавальную працэсію: катафалк на львіных лапах з балдахінам, харугвы з гербамі і дэвізамі, чорныя штандары.

Вельмі марудна цягнецца жалобная працэсія да зацішных могілак — месца супакаеньня і апошняга прытулку. Баюся пахаваньняў, але хочацца зірнуць на трунны партрэт нябожчыцы. Партрэт, створаны пасьля сьмерці. Хочацца праз срэбны туман шасьціграннай цынкавай пласьціны сустрэцца позіркам з пані Ядвігай.

Часта жадаеш таго, чаго няма.

Дзеля такіх жаданьняў і ствараюцца трунныя партрэты.

Ня хочацца сонца, ня хочацца мора, ня хочацца крабаў зь мідыямі — паляцелі думкі на Радзіму.

Удалечыні ад дому ўяўляюцца закінутыя могілкі і пах вільготнай зямлі, срэбны туман цынкавай шасьціграннай пласьціны і позірк пані Ядвігі.

***

Яна стала гаспадыняй фальварку пасьля сьмерці брата. Мела мужа зь невядомым лёсам (усе чулі пра яго, але ніхто ня бачыў).

Пасьля заканчэньня асабістага жыцьця вярнулася дадому. Дом стаяў на гары, пад гарою — вёска. У фальварку — яна ды арандатары.

Вакол лясы.

Па ўзгорках — сосны. Абапал дарогі — клёны. Паміж клёнаў — крыж, на яго — фартушкі вешалі. Бога баяліся. Каля крыжа ляжаў камень, вычасаны, каб можна было сядзець.

Можна хадзіць на шпацыр: вакол фальварку, да чыгуначнай станцыі, паглядзець на цягнікі, у нядзелю — да касцёлу. Мела зашклёную шафу з кнігамі.

З крыніцы цякла вада-ў сажалку. Стаў быў добры, але бяз рыбы. Гаспадыня не хацела гадаваць рыбу.

На панадворку расьлі каштан, акацыя і бэз. Пад вакном яе пакою — гарэх, які даваў мала прыплоду. Пасьля моцнага марозу ў 1939 ня стала ні гарэха, ні каштана.

На што спадзяваўся той, хто будаваў



гэтую сядзібу, хто садзіў дрэвы?

Ці ведала яна, што за ёй усе сочаць? Ці здагадвалася? Кожнаму цікава, што робіцца за фіранкамі панскага дому. Хочацца зазірнуць.

Пра гаспадыню, якая стала прывідам, можна даведвацца са слоў сына арандатара:

"Кабета яна была... Толькі сама, як бы гэта сказаць, "не ўладацельная". Патрэбная была ёй дапамога вялікая. Яна казала так: карміце яе і сабаку, і больш нічога ёй непатрэбна.

Яго звалі Рэн. Ён жыў у яе пакоі. Яна сьпіць на канапе, ён унізе — на кіліме. А днём у нагах у яе кладзецца і ляжыць. Як завурчыць на каго, то пані ня любіць такога чалавека, якога ня любіць сабака.

Яна наогул не арыентавалася, што навокал робіцца. Ня ведала, што ў 1939 пачалася вайна, што тут ужо не палякі, што была савецкая ўлада, потым нямецкая акупацыя. Яна жыла мінулым. Такі перапад памяці ў старых часта бывае. Даўняе памятаюць, а што было гадзіну таму — не. Ведала свой радавод.

Яна казала: "як я здохну, то мой сабака пампрэ". Праўда. Сабака — гэта такая жывёліна, што разумнейшая ў сто разоў за чалавека. Калі яна памірала, сабака быў у хаце ў яе. І як пачне яна стагнаць, мучыцца, надта ж сабака выў. І ўсё гэта ў хаце адной. Дзе ж дасі рады, каб слухаць! Ён не даваў ёй памерці. Узялі сабаку вывялі, на склеп пасадзілі. І да таго ж сабака вые... А як яна памірала, мы думалі — звар'яцеў сабака.

Яна памерла пасьля Новага году. Мусілі яе хаваць. Паехаў бацька да касьцёлу. Пытаецца ксёндз у бацькі: "А ці праўда, што яна з сабакам жыла?" Вось так і сказаў: "з сабакам жыла". А бацька адказвае: "Не яна з сабакам жыла, а сабака жыў у яе". Ксёндз кажа:

— Калі яна з сабакам жыла, тады ня будзем хаваць.

— Дык што яна — скаціна? Павязу і закапаю яе?

— А што рабіць?

— Скажыце вы, што рабіць, бо прывязу яе ў касьцёл. Хай будзе сорамна вам!"

Буду шчырай: пры ўсім маім жаданьні стварыць трунны партрэт пані Ядвігі ён ніяк не атрымаецца поўным. Студзеньскай ноччу 1942 году ў халодным пакоі пацукі адгрызьлі ў нябожчыцы шчаку. "Ну, што ж зробіш, — сказаў арандатар, — назад не прыклеіш".

Кажуць, што яе пахавалі побач з братам.

***

У кавярні, перароблены пад італьянскую, гавару з блізкім мне чалавекам, скарджуся на лёс і слухаю парады:

— Табе проста трэба адарвацца ад усяго...

— Як ты гэта ўяўляеш?

— Паглядзі, — маю ўвагу зьвяртаюць на сьцяну. Там плякат — марскі краявід. Вельмі празрыстая зялёная вада і скалы. — Ты хутка зьедзеш і ўсё будзе добра.

— Калі кажуць "усё будзе добра", бывае кепска. Да таго ж я еду не ў Італію.

— Усё роўна, ты едзеш на Міжземнае мора, а там паўсюль аднолькава — вось так. — Мне зноў паказваюць на плякат.

— Вада надта зялёная.

— Там менавіта такая вада. Проста ты яшчэ ня ведаеш.

— А старажытныя філёзафы сьцьвярджалі, што падарожжы ня маюць ніякага сэнсу.

— Чаму?

— Таму, што ты паўсюль возіш з сабою самога сябе.

— Дык не вязі сябе, паспрабуй узяць каго-небудзь іншага!

Вось я і ўзяла. Паспрабавала ўзяць.

Генрык Сянкевіч

# КУДЫ ІДЗЕШ?

Эпілёг

Спачатку бунт гальскіх легіёнаў пад кіраўніцтвам Віндэкса не здаваўся пагрозай. Цэзар дасягнуў толькі трыццаць першага году жыцьця, і ніхто не адважваўся спадзявацца, што сьвет раптам вызваліцца ад гэтага кашмару. Многія прыгадвалі, што легіёны ня раз ужо ўсчынялі закалоты, якія, аднак, міналі, не выклікаючы зьмены ўладароў. Так пры Тыбэрыі Друзус утаймаваў бунт панонскіх легіёнаў, а Германікус — рэйнскіх. "Хто ж бы, зрэшты, — казалі людзі, — мог пасьля Нэрона ўзысьці на валадарства, калі амаль усе нашчадкі боскага Аўгуста загінулі пад час ягонага валадараньня?" Іншыя, гледзячы на калёсы, у якіх ён быў паказаны як Геркулес, міжволі ўяўлялі сабе, што ніякая сіла ня зломіць такой магутнай улады. Былі й такія, якія з тае пары, як ён зьехаў у Ахаю, сумавалі па ім, таму што Геліюс і Палітэтэс, якіх ён пакінуў кіраваць Рымам, уладарылі яшчэ больш крывава, чымся ён.

Ніхто ня быў пэўны сваіх жыцьця і маёмасьці. Права больш не бараніла. Загасла чалавечая годнасьць і цнота, распаліся сямейныя сувязі, а нікчэмныя сэрцы не насьмельваліся нават дапусьціць надзею. З Грэцыі даходзіла рэха нечуваных трыюмфаў Цэзара, пра тысячы вянкоў, якія ён здабыў, і пра тысячы супернікаў, якіх ён перамог. Сьвет здаваўся суцэльнай оргіяй, крывавай і шалёнай, а адначасова распаўсюдзілася пераканаНьне, што дасягнутая мяжа цноты і паважных рэчаў, што надышоў час танца, музыкі, распусты, крыві, і з гэтае пары жыцьцё мусіць доўжыцца так. Сам цэзар, якому бунт адкрываў шлях да новых рабункаў, ня надта хваляваўся наконт бунту і Віндэкса і часта нават радасьць сваю выказваў з гэтае прычыны. З Ахаі ён таксама не хацеў зьяжджаць, і толькі калі Геліюс паведаміў яму, што далейшае прамаруджваньне можа каштаваць яму дзяржавы, ён рушыў на Нэапаль.

Там ён зноў іграў і сьпяваў, прапускаючы міма вушэй зьвесткі пра ўсё больш пагрозьлівае разьвіцьцё падзеяў. Дарэмна Цыгелінус тлумачыў яму, што колішнія бунты легіёнаў ня мелі кіраўніка, а цяпер на чале стаіць чалавек, які паходзіць з старажытнага царскага аквітанскага роду, а пры тым ён ваяр славуты й дасьведчаны. "Тут, — адказваў Нэрон, — мяне слухаюць грэкі, толькі яны ўмеюць слухаць і толькі яны годныя маіх сьпеваў". Казаў, што першы яго абавязак — мастацтва і слава. Аднак, калі ўрэшце да яго дайшла зьвестка, што Віндэкс назваў яго кепскім артыстам, ён сарваўся і паехаў у Рым. Раны, якія нанес яму Патробіюс, загоеныя знаходжаньнем у Грэцыі, зноў адкрыліся ў ягоным сэрцы, і ён хацеў у сэната шукаць справядлівасьці за такую нечуваную крыўду.

Па дарозе, убачыўшы скульптурную групу, адлітую ў бронзе, што паказвала ваяра-гала, зрынутага рымскім легіянэрам, ён палічыў гэта за добры знак і з таго часу, калі прыгадваў узбунтаваныя легіёны і Віндэкса, то выключна дзеля таго, каб кпіць зь іх. Ягоны ўезд ў горад засьціў усё бачанае дагэтуль. Ён уехаў на той самай калясьніцы, на якой некалі Аўгуст сьвяткаваў трыюмф. Была разбураная адна з выгбаў цырку, каб адкрыць праход для шэсьця. Сэнат, арыстакраты і незьлічоныя натоўпы выйшлі яго сустракаць. Муры трэсьліся ад крыкаў: "Вітаем Аўгуста, вітаем Геркулеса, боскага, непараўнальнага, алімпійскага, піфійскага, бесьсьмяротнага!" За імі несьлі здабытыя вянкі, назвы гарадоў, дзе ён трыюмфаваў, і напісаныя на таблічках імёны артыстаў, пераможаных ім. Сам Нэрон быў у захапленьні і з хваляваньнем пытаўся ў аўгусьціянаў, чым быў трыюмф Цэзара ў параўнаньні зь ягоным трыюмфам? Думка, што хто-небудзь зь сьмяротных мог насьмеліцца падняць руку на такога артыста-паўбога, не магла яму нават у галаву прыйсьці. Ён пачуваўся насамрэч алімпійскім і таму па-за небясьпекай. Імпэт і шаленства натоўпаў распалялі ягоную ўласную апантанасьць. У дзень ягонага трыюмфу магло здацца, што ня толькі цэзар і горад, але і ўвесь сьвет зьехаў з глузду.

Пад кветкамі і стосамі вянкоў ніхто ня здолеў убачыць бездань. Аднак у той жа вечар калёны і муры бажніц пакрыліся надпісамі з закідамі цэзару ў злачынствах, з пагрозамі блізкай помсты і кпінамі зь яго як артыста. З вуснаў у вусны пераходзіў калямбур: "Дасьпяваўся, пакуль пеўнікаў (gallos) не абудзіў". Трывожныя пагалоскі пачалі хадзіць па горадзе і разрасталіся да вусьціщных памераў. Неспакой ахапіў аўгусьціянаў. Людзі, ня пэўныя ў будучыні, не адважваліся выказваць жаданьне надзеі, не адважваліся адчуваць і мысьліць.

А ён надалей жыў тэатрам і музыкай. Яго зацікавілі нядаўна вынайдзеныя музычныя інструмэнты і новы водны арган, які выпрабоўвалі на Палаціне. У зьдзяцінелай, няздольнай даць рады і дзейнічаць сьвядомасьці ён уяўляў сабе, што накрэсьленыя далёка ў будучыні пляны прадстаўленьняў і відовішчаў адхіляць ад яго небясьпеку. Бліжэйшае атачэньне бачыла, што замест клопатаў пра сродкі і войска ён клапоціцца пра выразы, якія трапна малююць жах, і пачало падаць духам. Іншыя прыдворныя меркавалі, што ён толькі глушыць сябе і іх цытатамі, а ў душы мае трывогу, і неспакой. Ягоныя ўчынкі сталі нейкімі ліхаманкавымі. Штодня тысячы розных намераў пранялі праз ягоную галаву. То ён зрываўся, каб выступіць супраць небясьпекі, загадваў пакаваць на вазы цытры і лютні, узбройваць маладых рабыняў, як амазонак, і адначасна сьцягваць легіёны з Усходу. То зноў думаў, што не вайной, а сьпевам ён скончыць бунт гальскіх легіёнаў. І ягоная душа ўсьміхалася ад гэтага відовішча, якое павінна было адбыцца пасьля скарэньня сьпевам жаўнераў. Вось легіёны са сьлязьмі на вачах аточаць яго, а ён завядзе ім эпінікіюм, пасьля якога залатая эпоха пачнецца для яго і Рыму. То зноў патрабаваў крыві; то заяўляў, што абмяжуецца ўладай над Эгіптам, прыгадваў варажбітоў, якія наваражылі яму панаваньне ў Ерусаліме, альбо расчульваўся ад думкі, што будзе зарабляць сабе на хлеб штодзённы як вандроўны сьпявак, а гарады і краіны будуць шанаваць у ім ужо ня цэзара, уладара на зямлі, а песьняра, якога не нараджала дагэтуль чалавецтва.

І так ён кідаўся, шалеў, іграў, сьпяваў, зьмяняў намеры, зьмяняў цытаты, пераўтвараў жыцьцё сваё і сьвету ў нейкі сон, недарэчны, фантастычны і разам з тым страшны, у вісклівае трызненьне з надзьмутых выказваньняў, слабых вершаў, енкаў, сьлёз і крыві, а тымчасам хмара на Захадзе расла і мацнела з кож-



**Генрык Сянкевіч** (1846 — 1916), польскі пісьменьнік, аўтар гістарычных раманаў "Крыжакі", трылёгіі "Агнём і мячом", "Патоп", "Пан Валадыеўскі". Мы друкуем фрагмэнт рамана "Куды ідзеш".

Сяржук Сокалаў

# ЗАСТАВАЦЦА САМІМ САБОЙ

Апавяданьне

Калі Вы маеце пару вольных хвілінаў і хочаце змарнаваць час, тады сядайце як заўгодна і чытайце далей. Усё, што вы прачытаеце — мана, лухта сабачая. Не лухта пачнецца толькі тады, калі вашыя дурныя глузды паверацць у прачытанае, бо напісанаму мы верым ад першай, яшчэ нават ня мокрай, пялюшкі...

Гэта быў настаяшчы кавалак дарогі. Людзі заходзілі і выходзілі. Я нудзіўся, хадзіў у тамбур смаліць, спрабаваў закласьці знаёмства з выпадковай сударожніцай. Яна сядзела насупраць. Ціхмяная аголеная студэнтка ВНУ, шчасная ўжо тым, што там вучыцца. Я хацеў давесьці дурніцы, што ёсьць іншыя шчасьці, у ліку якіх ВНУ — апошняе суцяшэньне. Асьцярожна, каб не адарваць яе ад падручніка, я працягнуў свой язык па смочках ейных грудзей, адчуў на ім лагодную шорхную пругкасьць і... прысмак іншага языка. Ага! Ты ведаеш, што ВНУ — не найбольшае шчасьце... Тады я прыдумаю нешта незвычайнае...

Незвычайнае прыдумала яна... Цягнік тузануўся, і дзяўчына зьнікла. Была? Не была? — Загадка. Мне стала тое, што атрымоўваецца пры перакладзе слова "загадка" з трасянкі на ўнармаванку — забрыдка...

Канкурэнтак у пустым вагоне не было, і я ўжо сабраўся быў узлунаць на вольную паліцу, як раптам у вагон ушчаміўся дзядок. Маленькі, кволенькі дзядок, які адразу зашыўся ў кут маёй паліцы і таксама зьнік... Яго не было відаць, але я ўсё адно ведаў, што ён тут. Я зрабіў разумную пысу і ўтаропіўся ў вакно. Праз колькі хвілінаў мне падалося, што ён застагнаў. Так некалі стагнаў мой нябожчык сусед, і я ведаў, што гэта азначае. Рука міжволі пацягнулася да пляшкі, наліла, падала, а праз момант узяла з маўклівай цемры пустую шклянку. Яшчэ праз момант тая самая цемра сказала клясычнае:

— Ты мяне бачыш?

Я маўчаў.

— Тады слухай, што скажу, толькі не пытайся, чаму менавіта табе. Вазьмі гэта як маю патрэбу выгаварыцца ці — як хочаш... Але, заўваж: мая мова гэткая ж самая, як і твая. Я нават умею размаўляць ВАШЫМІ фразамі й думаць ВАШЫМІ думкамі. Мая гісторыя тычыцца толькі цябе. Ты ня зможаш распавесьці яе іншым. Зрэшты, гэта ўжо не мая справа...

Пасьля школы я паступіў ва ўнівэрсытэт. У часы тваёй вучобы там ужо цярпелі нацыяналістаў, і ў вас нават была свая суполка. У мае ж мы ня толькі суполку... мы думаць баяліся пабеларуску, калі ты не пісьменьнік, ці нешта там такое... Гэта, вядома, гіпэрбала, але так было...

Мяне запрасілі на трэцім і прапанавалі крамолу — навучыцца думаць... Ня ведаю, як, але яны дакладна разгледзелі ўва мне таго, каго шукалі. Я быў настолькі перапалоханы, што згадзіўся б нават адвучыцца думаць наагул, ня тое што навучыцца. Потым яны парадзілі пазбыцца страху. Баяцца я мусіў толькі іх, хаця наўпрост мне гэтага не сказалі... Затое сказалі нешта іншае...

Стары ізноў застагнаў, але чарговая порцыя гарэлкі вярнула яго да рэальнасьці.

— Я мусіў ня толькі навучыцца думаць, я мусіў навучыцца казаць тое, што думаю. Карацей, мне трэба было стаць самім сабой, але самім сабой не сваім, а іхным. Яны не хацелі ні даносаў, ні справаздачаў. Яны не зьбіраліся неяк спрыяць ці перашкаджаць маёй кар'еры. Іх цікавіў толькі, як кажуць, час X, які мог калі-небудзь прыйсьці, а мог і не прыйсьці ніколі...

Стары замаўчаў і тады загаварыў я:

— Ці ён ужо быў?

— Калі ты пра час X, то — не...

— Тады пра што гаворка?

— О, гэта табе толькі здаецца, што сьвет зьмяніўся. Гэтаксама, магчыма, табе здаецца, што зьмяніўся й ты. А — нічога не зьмянілася! Я ўсё яшчэ чакаю яго і гэта — да сьмерці!

— Глупства. Нейкі дурны подпіс у дурацкай паперы, за якім нічога не стаіць.

— Нічога? Ды кожны з нашых сяброў, варта яму толькі дазнацца, што я нешта ТАМ падпісаў, зганіць мяне, як апошнюю сьвіньню. Каго цікавіць, стаіць што-небудзь за подпісам ці — не.

— Мяне цікавіць.

— Ізноў глупства... Можа, таму табе й расказваю... Ат, усё адно — глупства. Апрача — хто табе сказаў, што я шкадую..?

Я маўчаў. Сапраўды, хто мне сказаў, што ён шкадуе. Усе гэтыя гады ён быў самім сабой і быў нашым. Ён некага апрацоўваў, вёў. Некаму дапамагаў.

— Але вернемся, — загаварыў змрочны куток. У часе першага мітынгу я добра дастаў. Яны нават пальцам не варухнулі, каб дапамагчы. А навошта? Чым больш я ня іхны, тым больш іхны і тым даражэй зь мяне можна будзе ўзяць.

— Бяруць у таго, хто дае, — не стрываўся я.

— Альбо хто мусіць даць, — адбойна сказаў ён.

Цягнік ляцеў праз ноч, як ушалелы. Каб ня думаць наскокам, я вярнуўся да студэнткі. Я ўнурыўся носам у ейныя грудзі, і як немаўля, выскачыў з гэтага сьвету. Я амаль заснуў... Яна варухнулася. Даўкі пах поту шыбануў у нос.

— Ня мусіш.

— Справа ня толькі ў подпісе і наагул... пакінь дыскутаваць. Я не прыйшоў па параду. Я ведаю, што рабіць і як. Ты ж альбо слухай, альбо — я памыліўся.

На чарговы стогн мая рука адрэагавала імгненна.

Працяг на старонцы 12.



Здымак М.Баразны

ным днём. Ён пераступіў рысу, блазнаўская камэдыя, відавочна, набліжалася да канца.

Калі зьвесткі пра Гальбу і далучэньне Гішпаніі да бунту дайшлі да ягоных вушэй, ён разьюшыўся, ашалеў. Пабіў пасудзіны, перакуліў стол на вячэры і аддаў загады, якіх ані Геліюс, ані нават Цыгелінус не адважыліся выканаць. Пазабіваць галаў, што жывуць у Рыме, потым яшчэ раз падпаліць горад, выпусьціць зьвяроў з арэнарыяў, а сталіцу перанесьці ў Александрыю — гэта падавалася яму вялікім, ашаламляльным і лёгкім чынам. Але ўжо мінулі дні ягонай усемагутнасьці, і нават сябрукі па даўніх злачынствах пачалі на яго глядзець, як на шалёнага.

Сьмерць Віндэкса і нязгода збунтаваных легіёнаў, здавалася, зноў схіляюць шалі на ягоны бок. У Рыме былі абвешчаныя новыя сьвяткаваньні, новыя трыюмфы і новыя прысуды, як аднойчы ўначы зь лягеру прэтарыянаў прыбыў гончык на ўсьпененым кані зь весткай, што ў самім горадзе жаўнеры ўзьнялі сьцяг бунту і абвясьцілі Гальбу цэзарам.

Цэзар спаў у той момант, калі прыбыў гончык, а калі абудзіўся, дарэмна гукаў целаахоўнікаў, што вартавалі начамі ля дзьвярэй пакояў. У палацы было ўжо пуста. Толькі рабы ў дальніх кутках рабавалі тое, што траплялася пад руку. Калі ён зьявіўся, яны, аднак, спалохаліся, а ён самотна блукаў па доме, напаўняючы яго крыкамі трывогі і роспачы.

Урэшце, аднак, вольнаадпушчаныя Фаён, Сьпірус і Эпафрадыт прыйшлі яму на дапамогу. Яны хацелі, каб ён уцякаў, казалі, што ня трэба губляць ані хвіліны, а ён яшчэ марудзіў. А што, калі апранучца ў жалобу і выступіць з прамовай да сэнату, няўжо сэнат устояў бы перад ягонымі сьлязьмі і папрокамі? Калі б ён ужыў усё майстэрства красамоўства, усю сілу выразнасьці і акторскай здольнасьці, ці здолеў бы хто-небудзь на сьвеце супрацівіцца яму? Няўжо яму не далі б прынамсі прэфэктуру ў Эгіпце?

А яны, прызвычаеныя да ліслівасьці, не насьмельваліся яшчэ рэзка запярэчыць, папярэджвалі толькі, што, перш чым ён дойдзе да Форуму, народ разьдзярэ яго на шматкі, і прыгразілі, што калі ён зараз жа ня сядзе на каня, яны таксама пакінуць яго.

Фаён прапанаваў яму схавацца ў сваім маёнтку, за Намэнтанскай брамай. Праз хвіліну яны селі на коней і, затуліўшы галовы плашчамі, паімчаліся на ўскраіну гораду. Ноч бялкла. На вуліцах, аднак, ужо панаваў рух, які папярэджваў пра набліжэньне надзвычайнага моманту. Жаўнеры то паасобку, то малымі аддзеламі рассыпаліся па горадзе. Зусім недалёка ад лягеру конь цэзара раптам адскочыў у бок, убачыўшы труп. Плашч ссунуўся з галавы коньніка, і жаўнер, які ў той момант ішоў каля яго, пазнаў уладара, аднак разгубіўся і па-вайсковаму павітаў яго. Праяжджаючы каля лягеру прэтарыянаў, яны пачулі аглушальныя крыкі ў гонар Гальбы. Нэрон зразумеў урэшце, што набліжаецца гадзіна сьмерці. Яго ахапіў страх і згрызоты сумленьня. Ён казаў, што бачыць перад сабой цемру ў выглядзе чорнай хмары, з гэтай хмары выпінаюцца да яго твары, у якіх ён пазнае маці, жонку і брата. Ад страху ў яго стукалі зубы, але ягоная камэдыянцкая душа знаходзіла нейкае нібыта захапленьне жудасным момантам. Быць усемагутным уладаром зямлі і згубіць усё гэта здавалася яму вяршалінай трагедыі. І верны сябе, ён іграў у ёй сваю галоўную ролю да канца. Яго апантала ліхаманка цытат і навязьлівае жаданьне, каб прысутныя запомнілі іх для нашчадкаў. То ён казаў, што хоча памерці, і гукаў Сьпікула, які забіваў спрытней за ўсіх глядыятараў. То дэклямаваў: "Маці, жонка, бацька заклікаюць мяне на сьмерць!" Аднак іскры надзеі абуджаліся ў ім час ад часу, дарэмныя і дзіцячыя. Ён ведаў, што ідзе на сьмерць, і, тым ня менш, ня верыў у яе.

Яны засталі Намэнтанскую браму расчыненай. Едучы далей, яны мінулі Астрыянум, дзе прапаведаваў і хрысьціў Пётра. На золку яны былі ў маёнтку Фаёна.

Там вольнаадпушчанікі не хавалі ад яго, што ўжо пара паміраць, тады ён загадаў капаць сабе магілу і лёг на зямлю, каб яны маглі зьняць дакладныя памеры. Аднак, убачыўшы выкінутую зямлю, ён сьціснуўся ад страху. Ягоны тлусты твар спалатнеў, а на чале, нібы кроплі ранішняй расы, праступілі кроплі поту. Голасам дрыготкім і ў той жа час акторскім ён паведаміў, што хвіліна яшчэ не надышла, потым зноў пачаў гаварыць цытатамі. У канцы прасіў, каб яго спалілі. "Які актор памірае!" — паўтараў ён зь нейкім захапленьнем.

Тымчасам прыбыў гончык ад Фаёна з паведамленьнем, што сэнат ужо выдаў прысуд, што злодзей — забойца маці павінен быць пакараны сьмерцю паводле даўняга звычаю.

— Што ж гэта за звычай? — спытаў зьбялелымі вуснамі Нэрон.

— Шыю табе заціснуць у шчамлёткі і захвастаюць насьмерць, а цела выкінуць у Тыбар! — рэзка адказаў Эпафрадыт.

Тады ён расхінуў на грудзях плашч.

— Дык значыць пара! — сказаў, зірнуўшы ў неба.

І яшчэ раз паўтарыў:

— Які актор памірае!

У гэты момант пачуўся тупат коней. Гэта цэнтурыён на чале жаўнераў імчаўся па галаву Ахенабарба.

— Сьпяшайся! — гукнулі вольнаадпушчанікі.

Нэрон прыклаў нож да шыі, але калоўся баязьлівай рукой, і было відаць, што ён ніколі не насьмеліцца паглыбіць вастрыё. Тады нечакана Эпафрадыт падштурхнуў ягоную руку, і нож улез ажно па тронкі, а вочы палезьлі на лоб, страшныя, вялізныя, уражаныя.

— Я нясу табе жыцьцё! — закрычаў з парогу цэнтурыён.

— Надта позна, — хрыпатым голасам адказаў Нэрон.

Потым дадаў:

— Вось яна — вернасьць!

У вокамгненьне сьмерць пачала разьлівацца ў ягонай галаве. Кроў з тоўстага карку лінулася чорным струмянём на садовыя кветкі. Ногі ягоныя пачалі рыць зямлю — і ён сканаў.

Верная Актэ раніцай ахінула яго ў каштоўныя тканіны і спаліла на засыпаным духмянасьцямі вогнішчы.

***

Вось так мінуў Нэрон, як мінае віхор, бура, вайна альбо пошасьць, а храм Пётры дагэтуль пануе з ватыканскіх пагоркаў над горадам і сьветам.

А каля колішняй Капуйскай брамы сёньня ўздымаецца маленькая каплічка з амаль зацёртым надпісам: "Quo vadis, Domine?"*

*З польскай пераклаў*

**Валеры Буйвал**

**Куды ідзеш, Госпадзе (лацінск.)*

Сяржук Сокалаў

# ЗАСТАВАЦЦА САМІМ САБОЙ

Працяг са старонкі 11.

— Ды не налівай ты! — і чарка засталася на стале. Я слухаў.

— Мой дзед, нябожчык, пісаў даносы. Я люблю і люблю дзеда, бо гэта мой дзед. У вайну ён выдраў зь нямецкіх лапаў некалькіх сіротаў — дзяцей ворагаў народу. У пяцідзясятых ворагі вярнуліся, па амністыі; клікнулі дзеда летнім вечарам у пушчу; дзед не вярнуўся... Нават сьледу не знайшлі. Як даведаўся, не скажу, але забівалі яго не дзеля помсты, а ў імя партыі... Хочаш сказаць — мана? Не мана, даражэнькі. Гэта толькі ў кіно ўсе прасьветленымі вяртаюцца... Дый што гэта — сьвятло?.. Зіма... Ноч... Немаўля з запаленьнем лёгкіх і дарослы, які празь лес у жахлівую завіруху нясе гэтае немаўля ў мястэчка... Па калені ў сьнезе ён напэўна ж шкадуе тых часоў, калі адным радком ананімнага ліста можна было выправіць у Сібір ці на Курапаты ўсіх гэтых сраных брыгадзіраў і парторгаў, якія не далі каня, каб давезьці малога. А ўсе гэтыя бязьвінныя суседзі-аднавяскоўцы... Сукі! Набрыдзь! У 30-я іх рэзалі, як вепрукоў перад Калядамі, а яны маўчалі.

— Ня ўсе.

— Тыя хоць памерлі годна... Мы цяпер нешта мармычам пра гістарычную памяць, пра генафонд... Ды няма яе, гэтай памяці. Жывуць ня тыя, хто згубілі яе. Жывуць тыя, каму прыгадаць няма чаго, бо іхныя продкі нідзе не былі, нічога ня чулі й ня бачылі. Тыя ж, хто былі й чулі — СВАІХ нашчадкаў не пакінулі... Дзед быў ня лепшы ад бязьвінных, але пасьпеў данесьці мяне да лякарні, і што мне з таго, што ён быў даношчыкам? А можа, гэта і ёсьць мая гістарычная памяць, мой, калі не нацыянальны, дык радавы генафонд? А ты кажаш — подпіс у паперы бязь дзеяньня — лухта...

Раптоўна мне стала зімна. Я адшукаў вачыма тую, што ведала хлопцаў ня толькі па імёнах. Пах поту — гэта ўсё ж лепей, чым халадок паміж лапатак... А можа, гэта мая гістарычная памяць? Калі так — пляваць на вар'ята-спавядальніка... Трахну ВНУшніцу. Выйду на першай станцыі і ўсё... А не даганю, казаў той, дык хоць сагрэюся. Вартая фразачка...

— Пакінь студэнтку ў спакоі, — пачулася ўжо збрыдлае крахтаньне з вугла, якое яшчэ паўгадзіны таму я прызнаваў за стогны і наліваў.

— Ды пайшоў ты... Дзед! Баба! Скула табе на язык!

— Што? Зламаў палічкі? Ты ўсё расклаў, а я прыйшоў і зламаў? Цяпер мяне чакае час Х, а цябе — што, з тваімі патрушчанымі глуздамі? Але гэта яшчэ ня ўсё. Усё пачнецца тады, як я сыду на сваёй станцыі. Вольнай хвілінкай, калі, вядома, гэткая цяпер надарыцца, разваж, што гэта — троп цяпер рэальнасьць — сысьці на станцыі.

Ён сапраўды зламаў палічкі. Але нашыя глузды — не кухонныя шафы. Тут зламаныя палічкі почасту недараўнальна лепш, чым адна з хібай. Там — хібную не мяняюць, калі посуд ня падае. Я похапкам, каб было за што зачапіцца, пачаў разграбаць сьмецьце, шукаючы той славутай пэрліны ў кучы гною... Нашае выхаваньне не дазваляе нам забіць ворага. Мы ня супраць, калі гэта зробіць нехта іншы. Але нашае выхаваньне патрабуе даведацца, хто ён. Я мушу бачыць твар суразмоўцы. Убачанае табой убачаць усе... Я не хачу стаяць перад кардонам міліцэйскіх шчытоў і ведаць, што побач — гэтыя, якія будзе біцца да апошняга, пакуль яму не абвесьцяць ягоны час. Трэба незаўважна намацаць гузік улучальніка й запаліць сьвятло. Убачанае табой убачаць усе...

— А ўбачыўшы, пачнуць шукаць, хто яшчэ, — адгукнуўся кут. І тады ўся іншая праца пойдзе сабаку ў сраку. Я думаў пра гэта, калі хацеў раскрыцца, і таму не раскрыўся. Я не магу зламаць нашую супольную справу.

— У нас супольнай справы няма.

— Я быў і застаюся самім сабой. Я не магу пакрыўдзіцца на твае словы і сысьці, нават калі гэтага запатрабуе ўвесь рух. Мяне можна байкатаваць, але нельга ігнараваць. Не цябе вучыць, што такое дзейнасьць паасобку і няўзгодненасьць. Мая нават самахоцьная сьмерць будзе ўспрынятая, як сьмерць за ідэю. Той, хто чакаў часу Х, стане героем, а ты нічога не давядзеш, як не давядзе ніхто, бо ніякага подпісу на самой справе не было. Мы ЎСЕ РАЗАМ пасьвечаныя на геройства, і нашыя імёны будуць побач і ў памяці, і ў забыцьці.

— Тады лепш — апошняе.

— Не ад нас залежыць.

— Тады плюнь на час Х.

— І перастань быць тым, кім ты ёсьць. Здрадзь самому сабе. Пер态твары здраду сабе ў звычку. Гэта ты хочаш сказаць?.. І справа ня толькі ў тым, што лягчэй ня здраджваць ніколі, чым толькі аднойчы. Ты хацеў улучыць сьвятло і прынесьці цемру. Навошта? Абвесьці ўголас, якім цягніком ты ехаў, альбо папросту скажы: я ехаў; ці яшчэ прасьцей: паміж такой і такой гадзінай я чуў, і — чакай ахвяры. Яны ведаюць і не даруюць. Я толькі магу спадзявацца, што гэтая размова застанецца ня іхнай. Толькі спадзявацца.

Пры гэтых словах ён устаў... Гучна адчыніліся дзьверы купэ. Глуха пстрыкнуў улучальнік, і ён наўмысна азірнуўся перад тым, як зьнікнуць у цемры калідору...

У гэтым месцы я мусіў прачнуцца і недаўменна запытацца, ці гэта быў сон. Потым, незалежна ад адказу, пачаць глыбакадумна разважаць над прыдуманай сытуацыяй і пашыцца ў любамудры. Другі варыянт — прымусіць любамудрыць чытача. Я (варыянт, не прадугледжаны клясычным падыходам) не раблю ні таго, ні другога... Я таксама хачу заставацца самім сабой.

*Сакавік, 1997. Прага*

# *Юры Гумянюк*

* * *

Глядзі: таполі ў модных акулярах
матляюць лапамі на фіялеце далягляду,
бы зноў даводзяць,
што я ня быў
ахоўнікам гліняных кулямётаў,
а проста поглядам драбіў
падвойную прастору.

**ПОКЛІЧ ТАМТАМАЎ**

Ты быццам побач...
А вакол экзатычныя мурыны
чакаюць, пакуль мы ня скончым,
зьдзяйсьняючы
найважнейшы ў жыцьці акт.
Дрыжаньне каленаў
у сьпірытуальным чаканьні
смажыць супольнае мяса,
якое клякоча ў распараных целах.
Шаманскія сьпевы уносяць
у чырвоную зеўру экстазу.
І толькі тады
вяртаецца моўчкі сьвядомасьць
ды разуменьне,
што нас яднаюць
гукі тамтамаў.

**ЧАКАНЬНЕ ЖАРСЬЦІ**

Народжаныя на бразыльскім сьметніку,
дзеці маюць каляровую скуру
і гадуюцца ў замкнёнай прасторы
безнадзейнасьці,
цярпліва чакаючы на адзінае
ў сваім засраным жыцьці
шчасьце — КАРНАВАЛ.

Яны не зважаюць на
адрознае адценьне
распаленых прагай зьліцьця
спружыністых торсаў сваіх сяброў,
бо ўпэўненыя змалку ў тым,
што пад час карнавалу
Ягамосьць Экстаз
змуляе маральныя бар'еры.

**МЯРЦЬВЯК**

Сплывае атамнай марэляй
у інтэнсыўным фіялеце,
каб сумаваць у іншасьвеце
пад сьпевы юных мінэстрэляў.

Труп, асалодай набрынялы,
апошняй тайны захавальнік,
нібы адключаны паяльнік,
нэўтралізуе водар калы.

Вось парафінавая маска
накрыла тварык пасінелы,
і абястлушчанае цела
ўсім ціха шэпча: "Калі ласка".



Алесь Аркуш

# ВЫЙСЬЦІ З-ПАД

Чаму масты паміж літаратурнымі пакаленьнямі Беларусі такія хісткія і нетрывалыя? Чаму беларускія літаратуразнаўцы не стварылі міту зь ці ня самага цікавага й драматычнага пэрыяду айчыннага прыгожага пісьменства — 20-ых гадоў ХХ ст.? Пэрыяд гэты ня менш прывабны і плённы за "срэбны век" расейскай літаратуры. І хоць ён ніяк не ўкладаецца ў эстэтычныя клішэ літаратуры вялікай суседкі, пад разлапістымі шатамі якой знаходзіцца наша літаратура, яго туды і ўкладалі, і ўкладаюць.

Гэткае падпарадкаваньне бязьлітасна пляжыць герархічнасьць і самакаштоўнасьць беларушчыны. Калі наша экзальтаваная дама-эстэтка, выхаваная выключна на творах Мандэльштама і Пастэрнака, або Ясеніна і Рубцова (у Расеі ёсьць два выхаваньні), пачынае разважаць, а яшчэ горш пісаць у ракурсе расейскага літаратурнага міту дасьледніцкую працу, дык абавязкова, няхай паміж радкоў, атрымаецца, што беларуская літаратура — другарадная, нецікавая, неглыбокая, правінцыйная. І вы ня знойдзіце ніякіх аргумэнтаў, каб аспрэчыць гэтыя "дасьледніцкія" высновы. Жылка ў яе — гэта "наш" Гумілёў, а Хадыка — Ясенін... І сум закрадаецца ў душу, і непаўнавартасьць — у розум.

Але ці ёсьць рацыя ў гэткіх параўнаньнях? Ці магчыма стварыць беларускі літаратурны міт, пазіраючы праз падвальнае ваконца расейскага літаратурнага міту? Безумоўна, не. Літаратуры — не спартовыя каманды, а "эстэтычныя прадукты" нацыянальных культураў не характарызуюцца катэгорыямі сусьветнай якасьці. Таму Ігнат Абдзіраловіч мае большую каштоўнасьць для айчыннай культуры, чым — як бы для кагосьці ні гучала гэта па-блюзьнерску — Леў Талстой. Але паспрабуйце адарвана ад кантэксту нацыянальных культураў параўнаць гэтыя дзьве постаці, і Абдзіраловіч ператварэцца ў "казюрку" на тле сусьветнай культуры. І вам можа стаць сорамна, што вы беларус.

Калі апантаным прыхільнікам сусьветных (глябальных) параўнаньняў надарыцца правесьці параўнаўчы працэс у шырокім, міжнародным маштабе, дык урэшце абавязкова атрымаецца, што прывілеі на ўвагу й далейшае існаваньне набудуць усяго некалькі нацыянальных культураў — пераважна вялікіх і эканамічна магутных краінаў.

Што мусіць уяўляць новы міт беларускай літаратуры? У падмурку старога былі Багушэвіч, Купала, Колас. Стары быў адраджэнска-прапагандысцкім мітам зародку. Не прысутнасьць — а надзея на прысутнасьць, ня форма — а нарыхтоўка формы, не эстэтыка — а гуманізм і апэляваньне да "нацыянальных каштоўнасьцяў", не асоба — а ўнёсак у культуру. Найбольш прыдатнай глебай для стварэньня новага міту выглядае літаратура 20-х гадоў. Новы міт мусіць стаць прывабным, цікавым, эмацыйным, канвертабэльным для іншых нацыянальных культурніцкіх абсягаў. Чаму б ня зьняць мастацкі фільм, напрыклад, пра лёс Жылкі? Чаму б не напісаць прыгодніцкую аповесьць пра падзеі, якія разгорталіся вакол верша Дудара "Пасеклі

# БЭСТСЭЛЕРЫ БЕЛАРУСІ

## 4 КВАРТАЛ 1996 ГОДУ

*Паводле зьвестак выдавецтваў і найбуйнейшых менскіх кнігарняў. Улічваліся толькі кнігі беларускіх выдавецтваў і колькасьць прададзеных асобнікаў.*

### Літаратура факту:

**Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі.** Т.3. — Менск: БелЭн, 1996. 10.000 ас.
**Беларуская энцыкляпэдыя.** Т.3. — Менск: БелЭн, 1996. 10.000 ас.
**Менская вясна — 1996:** Кроніка, дакумэнты, сьведчаньні. — Podkowa Leśna: Koło Podkowy — Менск: Наша Ніва, 1996. 2.500 ас.
**Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалёгія.** — Менск: Тэхналёгія, 1995. 2.500 ас.
**З гісторыі ўніяцтва ў Беларусі** (да 400-годзьдзя Брэсцкай уніі). — Менск: НКФ "Экапэрспэктыва", 1996. 1.000 ас.

### Мастацкая літаратура:

**Янка Купала. Поўны збор твораў.** Т.2: Вершы, пераклады 1908-10 гадоў. — Менск: Мастацкая літаратура, 1996. 6.000 ас.
**Платон Галавач. Спалох на загонах.** — Менск: Мастацкая літаратура, 1996. 5.700 ас.
**Славамір Адамовіч. Каханьне пад акупацыяй.** — Менск, 1996. 500 ас.

# МЕСЦА ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА БЭСТСЭЛЕРА

Прагназаваць кніжны рынак Беларусі робіцца больш складана — статыстыка па асобных кнігах у дзяржаўных кнігарнях практычна адсутнічае, а ва ўмовах абмежаваньня свабоды слова аднаўляецца такая зьява, як самвыдавецтва. Таксама ствараецца паралельная сыстэма кнігараспаўсюду. І цяпер, каб даведацца пра продаж беларускіх кніг, мала атрымліваць інфармацыю з кнігарняў, але трэба мець зьвесткі й ад выдавецтваў.

Кніжнаму рынку Беларусі ўласьцівы пэўны кансэрватызм, што дазваляе прагназаваць бэстсэлеры паводле некаторых пазыцыяў. Бэстсэлерамі, натуральна, мусілі стаць энцыкляпэдыі. Тым больш, што чарговыя тамы "Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі" й "Беларускай энцыкляпэдыі" працягваюць маштабныя праекты. Іншая рэч — самі гэтыя праекты падпадаюць пад мутацыі. Найбольш заўважныя вонкавыя зьмены адбыліся з трэцім томам "Энцыкляпэдыі гісторыі" — з вокладкі зьнікла Пагоня, пакінуўшы на месцы герба пустую пляму; наклад тома скараціўся ў параўнаньні з папярэднім ад 20.000 да 10.000 асобнікаў. Але нягледзячы на выгнаньне некаторых артыкулаў паводле ідэалягічных матываў, трэці том у аснове сваёй быў сфармаваны ў залатыя часы беларускага лібэралізму. Вось гэтыя чыньнікі — сэрыйнасьць, скарачэньне накладу, напамін пра былыя свабоды — паспрыялі таму, што трэці том "Энцыкляпэдыі гісторыі" амаль раскуплены. "Беларуская энцыкляпэдыя" ўтрымлівае шмат унівэрсальнай інфармацыі, і таму магчымасьці ідэалягічнага дыктату там звужаныя.

Таксама да кансэрватызму беларускага кніжнага рынку можна аднесьці тое, што дастаткова стабільна купляюць клясыку. Прыклад гэтаму — другі том Поўнага збору твораў Янкі Купалы. Ва ўсе навучальныя праграмы ўключана аповесьць Платона Галавача "Спалох на загонах" — твор свайго часу.

Выразная тэндэнцыя гадоў незалежнасьці — рост ролі недзяржаўных выдавецтваў. Першыя прыватныя выдавецтвы зьявіліся ў Беларусі ў 1989 годзе, а ўжо ў 1995 годзе яны выпускалі каля 70% літаратуры (паводле накладу й найменьняў). У Расеі ж у 1995 годзе прыватныя й дзяржаўныя выдавецтвы дасягнулі толькі парытэту. Найбольшая колькасьць кніжак у Беларусі была выдадзеная ў 1993 годзе, калі ва Ўкраіне і ў Расеі працягваўся спад. Гэты выбух 1993 году быў забясьпечаны менавіта прыватнымі выдавецтвамі.

Вось і цяпер у сьпісе бэстсэлераў кнігі прыватных выдавецтваў. Адносна выпуску кнігі "Менская вясна — 1996" дзейнічаў прынцып in print — спачатку выйшла 2.000 асобнікаў, попыт прымусіў дадрукаваць яшчэ 500. Зусім немалым попытам для паэтычнае кніжкі карысталася "Каханьне пад акупацыяй" Славаміра Адамовіча — 500 асобнікаў. Цікавасьць да гэтых кніжак падагравалася палітычнаю сытуацыяй. "Менская вясна" супадала з настроямі вуліцы, а імя паэта Славаміра Адамовіча стала знакамітым з-за судовага працэсу над ім. Гэтыя кніжкі сталі люстрам часу. Дакладней, сам час стварыў іх.

Незалежныя выдавецтвы маглі прапанаваць варыянты вырашэньня праблемы з падручнікамі. У рамках праграмы "Адкрытае грамадзтва" гнанага цяпер Фонду Сораса выйшла больш за дваццаць першаклясных кніг, якія могуць выкарыстоўвацца ва ўнівэрсытэцкай сыстэме адукацыі. Менавіта на пачатак навучальнага году прыйшоўся асаблівы посьпех "Сучаснай культурнай антрапалёгіі" Майкла Говарда. Вастрыня моманту — у Беларусі такой дысцыпліны, як культурная антрапалёгія, не існавала. Паводле расейскай і савецкай традыцыі аўтаномны статус атрымаў такі прыкладны напрамак культурнай антрапалёгіі, як этнаграфія. Расейска-француская традыцыя асобна вылучае культуралёгію. Але культурная антрапалёгія інтэгруе вывучэньне сацыяльных, сымбалічных і матэрыяльных аспэктаў жыцьця грамадзтваў, якія ўтвараюць адзіны сусьветны арганізм і знаходзяцца ў няспынным разьвіцьці. У 1996 годзе ўпершыню курс культурнай антрапалёгіі быў уведзены ў Беларусі й чытаўся ў БДУ.

Посьпех зборніка навуковых артыкулаў "З гісторыі ўніяцтва ў Беларусі", відавочна, можна зьвязваць з паступовым пашырэньнем грэка-каталіцтва ў сучаснай Беларусі. Зьяўляюцца новыя грэка-каталіцкія парафіі, выходзіць новая літаратура пра унію, у грамадзтве стала прысутнічае цікавасьць да праблематыкі. Кніжку выпусьціла выдавецтва "Экапэрспэктыва", якое шмат працуе ў галіне навучальнай літаратуры.

І вось тут, напрыканцы сакавіка 1997 году, пачынаецца наступ на выдавецкія свабоды. Усе недзяржаўныя выдавецтвы й друкарні прымушаюць перарэгістроўваць ліцэнзіі. Найбольшага посьпеху гэты наступ можа дасягнуць у галіне навучальнай літаратуры, зрабіўшы справу яе выпуску цалкам дзяржаўнай манаполіяй. Але пры сёньняшнім пашырэньні множнай тэхнікі ды кампутарных тэхналёгіяў мэта татальнага дзяржаўнага падпарадкаваньня выдавецкай справы ўяўляе зь сябе цалкам нерэальны праект. Нават за савецкімі часамі існавала самвыдавецтва, якое рабіла ўплыў на інтэлектуальны настрой грамадзкаактыўных групаў. Цяперашняя ініцыятыва ідэолягаў рэжыму прывядзе да падвышэньня статусу кнігі. У нейкім абмежаваным аб'ёме адбудзецца вяртаньне да архаічнай сынкрэтычнай мадэлі функцыянаваньня кнігі ў грамадзтве. Гэтая мадэль не заўжды прагматычная, бо праз падвышэньне кошту слова, асабліва вольнага слова, кніга можа адысьці ад справы вырашэньня нейкіх канкрэтных праблемаў. Затое гучаньне гэтага вольнага слова робіцца больш уплывовым на грамадзтва. І яшчэ невядома, хто ў кароткачасовай пэрспэктыве выйграе ад новай ролі кнігі. Тут трэба зважаць на тое, хто рэальна купляе й чытае кнігі ў Беларусі.

Можа, для Вас не сакрэт, што ў Менску працуюць прадстаўнікі расейскіх кнігагандлёвых кампаніяў. Эшэлёны кніжак масавай літаратуры выпраўляюцца ў Расею. Гэта значыць — каб не абмежавальны наступ, Беларусь магла б стаць рэгіянальным цэнтрам кнігадрукаваньня. Людзі, якія занятыя вытворчасьцю й продажам гэтых экспартных кніг, лічаць за посьпех у Беларусі, калі прадаецца дзьве з паловаю тысячы асобнікаў. Але гэта адбываецца з кнігамі, якія адмыслова разьлічаныя на масавасьць. Тут варта згадаць, якімі накладамі прадаюцца беларускія кнігі. Энцыкляпэдыі разыходзяцца дваццацітысячнымі накладамі, а навуковыя кнігі распаўсюджваюцца накладамі да пяці тысячаў. Вось дзе рэальны пакупнік кнігі ў Беларусі — ён ня будзе купляць ідэалягічнага сьмецьця, ён аддае перавагу беларускай кнізе. Рэальны пакупнік кнігі ў Беларусі жыве ў рэальнай беларускай культурнай прасторы, адметнасьці якой адносна кніжнага рынку, апроч згаданага ўжо кансэрватызму, наступныя:

— адкрытасьць: у Беларусі патрабуюцца кнігі на розных мовах, ня толькі па-беларуску й па-расейску. Цалкам не забясьпечаны рынак польскай і ўкраінскай кнігі, існуе попыт на ангельскую, нямецкую, францускую кнігу. Такая полімоўнасьць — спрадвечная рыса беларускай прафэсійнай культуры;

— слабыя камэрцыйныя шанцы ідэалягізаванай літаратуры. Вядома, прапагандысцкія брашуры можна выдаваць, але толькі за кошт датацыяў зь дзяржаўнага бюджэту;

— павелічэньне ролі беларускамоўнай кнігі, што можна праілюстраваць посьпехам энцыкляпэдычных выданьняў і сэрыі "Адкрытае грамадзтва".

Ці магчыма зьмяніць гэтыя парамэтры? Пэўныя мутацыі цяпер будуць адбывацца. Але асноўны попыт на кнігу фармуецца жывымі патрэбамі беларускага грамадзтва. Таму месца для беларускіх бэстсэлераў усё адно застанецца.

**Алег Дзярновіч**

# АРХЕАЛЁГІЯ І ПАЛІТЫКА



*Алексеев Л. Археология и краеведение Беларуси XVI в. — 30-е годы XX в. / Под ред. Б.Рыбакова. — Менск: "Беларуская навука", 1996. — 206 с. ISBN 985-08-0007-0*

Беларускі гістарыяграфічны кнігапіс папоў-ніўся каштоўным здабыткам — манаграфіяй вядомага маскоўскага археоляга Леаніда Аляксеева пра беларускую ар-хеалёгію і краязнаўства аж да Другой сусьветнай вайны. Аўтар непарыўна зьвязаны зь Беларусяй з 1948 году, калі пачаў працаваць у Гарадзенскім гісторыка-археалягічным музэі. Л.Аляксееў вядомы перш за ўсё як дасьледчык археалёгіі і гісторыі Полацкай зямлі, а ў апошнія гады шмат намаганьняў прыклаў да высьвятленьня гісторыі самой беларускай археалёгіі. Гэтая манаграфія падводзіць вынікі дасьледаваньня.

У аўтара былі папярэднікі ў беларускай гістарыяграфіі. Перш за ўсё назавем нястомнага краязнаўца Генадзя Каханоўскага. Яго кнігу "Археалёгія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI-XIX ст." прыгадвае і Л.Аляксееў, які адзначае важнасьць першай падобнай манаграфіі. Чаго Л.Аляксееў ня змог улічыць у сваёй працы, дык гэта кнігі В.Вяргей "Археалягічная навука ў Беларускай ССР 1919-1941 г." Хоць яна і выйшла на чатыры гады раней, але манаграфія Л.Аляксеева была заплянаваная да друку яшчэ на 1991 год...

Праца Л.Аляксеева мае наступныя адметнасьці. Як дасьледаваньне ідэалягічнага супрацьстаяньня ў Беларусі яна зойме пачэснае месца побач з кнігай А.Цьвікевіча "Западно-руссизм". У вузка навуковым сэнсе, менавіта як гістарыяграфічная праца, "Археология и краеведение..." таксама стаіць на высокім ўзроўні і па багацьці матэрыялу (у тым ліку архіўнага, з пэрыёдыкі) пераўзышла ранейшыя падобныя працы. Тут адчуваецца цьвёрдая "археалягічная" рука аўтара, які ўмее "дакапацца" да фактаў і на іх падставе правесьці рэканструкцыю гістарыяграфічных падзеяў. У пэўным сэнсе дадзенае дасьледаваньне — своеасаблівыя раскопкі, толькі не ў зямлі, а ў навуковай літаратуры і архівах.

Пры падзеле матэрыялу Л.Аляксееў выбраў храналягічны прынцып, але прадбачліва пазьбег падзелу на шырокія пэрыяды, што магло прывесьці да непатрэбнай "гістматаўшчыны": фэадальны пэрыяд, парэформавы, пэрыяд імпэрыялізму і г.д. Абраны аўтарам "крок" — прыблізна 20-гадовыя адрэзкі часу — дазволіў удала разьбіць матэрыял, каб потым сынтэзаваць яго. У канцы кнігі аўтар прапанаваў вылучаць чатыры этапы ў разьвіцьці цікавасьці да "рэальных рэшткаў мінулага": народны (недзе да XVI ст.), магнацкі (XV-XVIII ст.), дылетанцкі (XVI — пачатак XIX ст.) і навуковы (з 30-40 гадоў XIX ст.).

Вылучэньне першых двух можна лічыць данінай марксіцкаму падыходу; гэта рэмінісцэнцыя "трох этапаў вызваленчага руху". Вызначэньне дылетанцкага пэрыяду беларускай археалёгіі выклікае пэўныя сумневы. Тут паўстае праблема першапраходцаў у навуцы, якія зь сёньняшніх вяршыняў ведаў сапраўды здаюцца дылетантамі-аматарамі. Хто быў першым археолягам у Беларусі? Л.Аляксееў пазьбягае прамога адказу на гэтае пытаньне. Дылетанцкі пэрыяд ён пачынае з гісторыка XVI ст. М.Стрыйкоўскага. Аднак той быў зусім не дылетантам! Славуты храніст паклаў пачатак беларускай навуковай гістарыяграфіі, і да археалягічнага матэрыялу ў яго быў цалкам навуковы падыход — як да гістарычнай крыніцы. Стрыйкоўскі спэцыяльна хадзіў па ўзараных палетках — шукаў матэрыяльныя сьляды старажытных бітваў і знаходзіў іх. У сучаснай археалёгіі такі мэтад называецца паверхневымі зборамі.

Але ж археалёгію няможна ўявіць без раскопак. Хто ў Беларусі іх упершыню правёў? Аўтар здолеў адшукаць адказ на гэтае пытаньне. Гэта быў прадстаўнік магнацкага роду Бжастоўскіх (Л.Аляксееў не дае яго імя), які капаў могільнік у Мосары, а знаходкамі дзяліўся зь іншым аматарам айчыннай старасьвеччыны — каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім.

Л.Аляксееў імкнецца вызначыць і першага беларускага антраполяга. За такога аўтар уважае расейца К.Ікава, які праводзіў антрапамэтрычныя дасьледаваньні беларусаў у 1886 г. Як вынікае з тэксту, Ікаў наведваў Беларусь толькі кароткачасова пад час экспэдыцый, так што за беларускага навукоўца яго лічыць цяжка. На ролю першага беларускага антраполяга хутчэй можа прэтэндаваць наш зямляк С.Кутарга, прафэсар Пецярбурскага ўнівэрсытэту, першы прапагандыст ідэяў Ч.Дарвіна і, між іншым, папулярызатар навукі на сваёй роднай Мсьціслаўшчыне. Кутарга зрабіў першае апісаньне старажытных чалавечых чарапоў, знойдзеных у Беларусі. Праца была надрукаваная ў Пецярбургу ў 1842 г.

Каб скончыць з праблемай першынства, зьвярну ўвагу на сьцьверджаньне аўтара пра тое, што першай вышэйшай навучальнай установай у Беларусі было Віцебскае аддзяленьне Маскоўскага археалягічнага інстытуту (1911 г.), якое гучыць даволі рызыкоўна.

Тут паўстае праблема адбору фактаў для адлюстраваньня ў гістарыяграфічнай працы. Гэта справа складаная, бо да вывучэньня старажытнасьцяў далучылася шмат людзей. Л.Аляксееў дасканала ведае расейскі матэрыял, сваіх землякоў. У кнізе знайшлося месца нават для нейкага нярэхцкага (дзе гэта?) памешчыка А.К.Башняка, які, вандруючы па Беларусі ў 1815 г., напісаў, што тут курганы адрозьніваюцца велічынёй. Добра, што дзякуючы Л.Аляксееву ў памяці нашчадкаў захаваюцца імёны сьціплых дасьледчыкаў нашай мінуўшчыны. Адно каб крыху больш інфармацыі пра ўласна беларускіх навукоўцаў.

Аўтар толькі згадвае, да прыкладу, імя археоляга Яна Завішы, нашчадка старажытнага шляхецкага роду, які раскопваў гарадзішчы, курганы, каменныя магілы, стаянкі каменнага веку і стварыў уласны музэй (у Варшаве). Трыма сказамі адзначана дзейнасьць аднаго з найбуйнейшых беларускіх археолягаў В.Шукевіча. Нічога не сказана пра Плятэраў, Сапегаў, Радзівілаў... Каталікі, "палякі"... Аўтару бліжэйшы расейскі матэрыял, і толькі дзякуючы яго намаганьням для гісторыі беларускай навукі не прапалі каштоўныя зьвесткі пра шмат якіх расейскіх дасьледчыкаў.

Кніга Л.Аляксеева — гэта ня толькі вузка гістарыяграфічная праца, але і палымяны публіцыстычны нарыс пра грамадзкія ўмовы, у якіх разьвівалася беларуская навука. Высновы аўтара ў пэўнай ступені парадаксальныя: задушэньне кожнага з нацыянальна-вызваленчых уздымаў у Беларусі і выклікала ўсплёск цікавасьці да мінулага Паўночна-Заходняга краю і ажыўляла археалёгію. Так было пасьля паўстаньня 1830-31 г., пасьля паўстаньня 1863-64 г. і ў канцы XIX ст., калі, паводле словаў аўтара, палітыка русіфікацыі дасягнула апагею. У сівой даўніне імкнуліся знайсьці апірышча і мясцовыя патрыёты, і "старэйшыя браты".

Аўтар не цураецца словаў "гвалтоўная русіфікацыя" і бескампрамісна суворы да сваіх суайчыньнікаў за гвалт. Зь вялікім болем піша ён пра разгром беларускай археалёгіі ў 1930-я гады, яшчэ больш крыўдны з-за таго, што ў той пэрыяд расейская навука пра старажытнасьці працягвала свой уздым. "Іх шляхі разышліся" — верная, але недастатковая ацэнка гэтага факту. Ці не было гэта наступным этапам той палітыкі, у дачыненьні да якой ў XIX — пачатку XX ст. Л.Аляксееў ужывае тэрмін "русіфікацыя", а ў пэрыяд СССР імкнецца гэтага тэрміну пазьбягаць? Усё ж аўтар стаіць наводдаль палітыкі, прынамсі, не выступае з палітычнай трыбуны. Прыгадваецца "ўтварэньне Беларускай рэспублікі". Народнай? Савецкай? Аўтар на гэта не зьвяртае ўвагі.

Нарэшце, кніга Л.Аляксеева — выдатны ўзор прыгожага навуковага пісьменства. Яна напісаная дасканалай расейскай мовай — жывой, сакавітай. Дасканаласьць мовы прывядзе, безумоўна, да таго, што гэтая навуковая манаграфія будзе чытацца самай шырокай грамадой (наколькі гэта дазволіць наклад з 540 асобнікаў).

**Валеры Пазьнякоў**

## Бясплатныя прыватныя абвесткі



Гомельская "Талака" дзякуе сп. Ляву Чабану (ЗША) за падтрымку дзейнасьці суполкі. Запрашаем да супрацоўніцтва

Хрыстос Уваскрос! Віншую ўсіх, хто любіць "НН"! Госпадзе, ахіні нашую даўнюю, але не спарахнелую, падрапаную "цыганам", але па-ранейшаму цнатлівую Вялікалітву! Стахор Сушчынскі, Горадня



Маладая нацыяналістка шукае працу (2 замежныя мовы, кампутар, правы кіроўцы, музычная адукацыя). Тэл.: 31-40-80. Юля

Праца дома, укладваньне каталёгаў, 6$ у дзень. Капэрта з з/а + купон б/а. 220073, Менск, а/с 26

Паслугі ксэракапіяваньня, выгадна, апэратыўна. Тэл.: 253-92-26

Куплю п/э ўпаковачныя пакеты. Тэл.: 253-92-26

Набуду беларуска (расейска)-чэскі слоўнік, размоўнік ці падручнік. Тэл.: (0222) 21-30-35. Аляксей

Парфума, Францыя (30 мл) (Kenzo, Trezor, Venezia, Coco і інш.) прадаю (па 1 пл.). Тэл.: 273-39-38 (з 18 да 22)

Іянізатар прадаю. Ачышчае і аздараўляе паветра. Неабходны ў кожным доме і аўтамабілі. Тэл.: 273-39-38

Танна прадаю кампутар б/в для работы з тэкстамі. IBM-сумяшчальны, 5.25, ч/б манітор. 263-24-03

Прыхільнікі "Іванушак"! Калі ласка, напішыце мне. Буду вельмі радая і ўдзячная. 220141, Менск, вул. Нікіфарава, 8-64. Наста

Куплю падручнік польскай мовы. Тэл.: 43-71-85 пасьля 20.00

Прадаю фільтар "BIP" для душа (ад скураных захвораваньняў) для любой тэхнікі, адчувальнай да бруднай вады. Тэл.: 273-39-38 з 18.00

Кнігі на баўгарскай і польскай мовах куплю. Тэл.: 221-24-81

Сальфэджыё, тэорыя музыкі, фартэпіяна: індывідуальныя заняткі. Тэл.: 221-24-81

Баўгарская, польская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл.: 221-24-81

Мяняю "Па сьлядах аднаго міту" Ермаловіча (1991) на "Адкуль наш род" Арлова. Тэл.: 5-78-95. Вілейка

Прапаную недарагія паслугі рэдактара, карэктара, перакладчыка беларускай, расейскай моваў з друкаваньнем на машынцы. Вячаслаў Мілкоўскі. 220024, Менск, вул. Асаналіева, д. 13/1, кв. 72

Шукаю спонсара для выданьня незалежнага навукова-папулярнага бюлетэня па астраноміі (выдаю з 1992) на дзьвюхмоўі. Вячаслаў Мілкаўскі. 220024, Менск, вул. Асаналіева, д. 13/1, кв. 72

Выкананьне кантрольных прац па польскай, беларускай і расейскай мовах. Тэл. у Віцебску: 33-49-21

Увага! Маю кнігі "Менская Вясна-96", Натальля Арсеньнева "Яшчэ адна вясна", "Віцебскі сшытак" і інш. Тэл.: 490888. Менск-85 а/с 5

**Увага!** 3 красавіка ў кінаканцэртнай залі "Аўрора" адбудзецца першы адборачны канцэрт новага цыклю "Рок-каранацыя-97". Папярэдні адбор удзельнікаў будзе адбывацца на аснове праслухоўваньня касэтаў. Пераможцы прымуць удзел у канцэртах з удзелам вядомых беларускіх гуртоў, якія плянуецца праводзіць 1-2 разы ў месяц. Калектывы, якія ня пройдуць адборачнага туру, не пазбаўляюцца права на ўдзел у наступных адборачных турах. Пераможцы прымуць удзел у фэсьце "Рок па вакацыях-97". Пачаўся адбор удзельнікаў на фэст беларускай маладзёжнай музыкі "Басовішча", які штогод ладзіць Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў Польшчы. Фэст адбудзецца ў ліпені.

Газэта "Наша Ніва" прыме ўдзел у зборы касэтаў і адборы ўдзельнікаў на фэсты "Рок па вакацыях-97" і "Басовішча-97". Ахвотныя могуць дасылаць свае касэты на адрас: 220085, а/с 5, Супрановіч Віталь. Не забудзьце падаць свой адрас!




Шаноўныя чытачы! Дасылайце свае адказы пасьля апошняга пытаньня й будзьце ўважлівыя....



## ДАВЕДКІ

***Калі ласка, падайце абэцэду беларускай лацінкі, як друкаваны, так і рукапісны шрыфт.***

***І яшчэ некалькі пытаньняў. Імёны ТАМАШ і ТУМАШ розныя, ці гэта вынік недакладнага правапісу?***

***Імя АНТОН і яго формы: АНЦІК, АНТУК, АНТОСЬ(ЛЬ), АНТУХ. Ці можа быць адна з формаў афіцыйным імем? Калі сына запісаць у дакумэнтах АНТОСЬ ці АНЦІК, наколькі гэта будзе адпавядаць нашай мове?***

***Чаму ўжываецца разам са зваротам СПАДАР і зварот ПАН? Можа, трэба было ўжываць адзін які-небудзь? Ці ня выцісьне апошні першага?*** **Л.Шпак,** Менск

Імя *Тамаш/Тумаш* паходзіць ад грэцкага *Thōmas (θωμαζ)*, якое ў сваю чаргу ўзыходзіць да арабск. *tūmā*, а тое ў сваю чаргу да арамэйскага *te'ōma* 'блізьнюк'. Абодва фанэтычныя варыянты раўнапраўныя і вынікаюць з дыялектных асаблівасьцяў мовы (параўн. *Баркалаб — Баркулаб*).

Паводле закону, бацькі надаюць дзіцяці імя паводле свайго жаданьня, і ніхто ня мае права ім запярэчыць. УСЯКАЯ форма можа быць афіцыйным імем. Іншая рэч, што трэба дбаць і пра адпаведнасьць формы імя нацыянальным традыцыям, і пра спалучальнасьць з прозьвішчам. Афіцыйная форма імя ў беларускай мове (адрозна ад расейскай іменаслоўнай традыцыі) не абавязкова павінна супадаць з кананічнай царкоўнай ці касьцёльнай; г.зв. "поўнае" імя — не зусім беларуская катэгорыя. Так, беларускія нацыянальныя формы кананічных імёнаў *Алесь, Антось, Міхась* — цалкам "дарослыя", паважлівыя і маюць права быць пашпартнымі, афіцыйнымі. Што да формы *Антук* — з аднаго боку, ёсьць *Паўлюк, Вінцук, Янук* — зноў жа як нармальныя, "дарослыя" формы. З другога боку, у літаратурна-гістарычнай традыцыі беларусаў як асноўныя замацаваліся формы *Антон* і *Антось*. Хай мяркуюць бацькі.

Словы *спадар, спадарыня* — спрадвечнабеларускія, ужываныя ў старабеларускай мове і ў дыялектах. Слова *спадар* у значэньні 'гаспадар, галава сям'і' фіксуе слоўнік Івана Насовіча; Ян Станкевіч вылучае значэньні 'Бог, Госпад', падаючы прыклады з Кітабаў (татарскіх беларускамоўных сьвятых кніг XVI-XVIII ст.) і 'господин' (тут ужо прыклады з уласна старабеларускіх сярэднявечных тэкстаў: "Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зернетка, дай ложачку дзіцятку варыўца сырога..." —Баркулабаўскі летапіс). Яшчэ вытворныя — *спадарства, спадарыч, спадарычна, спадарскі*.

Слова *пан*, паводле аўтарытэтнага этымоляга Макса Фасмэра, паходзіць ад праславянскага **gъpanъ* са значэньнем 'вартаўнік', параўн. старажытнаіндыйскае *gōpās* 'пастух, вартаўнік'. Таго самага паходжаньня слова *жупан*. Іншыя этымолягі ўзводзяць словы *пан, пані* да старажытнага кораня **pot-* 'пан, гаспадар, "сам"'; параўнай літоўскія словы *pats, pati*, што значаць і 'сам, сама', і 'гаспадар, гаспадыня'. Доўгі этымалягічны экскурс — каб паказаць, што слова агульнаіндаэўрапейскае і нам не чужое. Іншая рэч, што яно афарбаванае сацыяльна й гістарычна ды моцна асацыюецца з палякамі. За камуністычным часам, калі быў дазволены толькі "таварыш", афіцыйная мова ўжывала "пана" ў дачыненьні да капіталістычных замежнікаў, і ягоная "чужасьць" не замінала.

Імклівае ж адраджэньне слова "спадар", якое ў межах Беларусі адбылося літаральна за некалькі галоў, сьведчыць, што існавала патрэба ў чыста сваім, ні з кім з суседзяў ня дзеленым звароце. Словы *спадар, спадарыня, спадарства* ўпершыню трапілі нават у "афіцыйныя" лексыкаграфічныя даведнікі — у акадэмічныя расейска-беларускія трохтомнікі 1993-95 г. і ў Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы 1996 г. выданьня. Цяпер прынцыпова ўжываюць зварот *пан* дзеячы Таварыства беларускае шляхты, што пацьвярджае яго пэўную сацыяльна-станавую афарбаванасьць. У вуснах жа антыбеларуса зварот *спадары* — сынонім слова *ворагі*, і я думаю, што гэта — пацьверджаньне моцы і зарука добрай будучыні слова *спадар*.

Дарэчы, украінцы маюць падобную праблему: у іх канкуруюць звароты *пан і добродій*. Але, пэўна, залішняя эмацыйная насычанасьць другога, чыста ўкраінскага, зрэшты, звароту, не дае яму выцiснуць *пана*. **Б.**

### LITARY BIEŁARUSKAJ LACINSKAJ ABECEDY I ADPAVIEDNYJA JIM U KIRYLIČNYM ŠRYFCIE

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Aa | *Aa* | а | Gg | *Gg* | ґ | Nn | *Nn* | н | Tt | *Tt* | т |
| Bb | *Bb* | б | Hh | *Hh* | г | Ńń | *Ńń* | нь | Uu | *Uu* | у |
| Cc | *Cc* | ц | Ii | *Ii* | і | Oo | *Oo* | о | Ŭŭ | *Ŭŭ* | ў |
| Ćć | *Ćć* | ць | Jj | *Jj* | й | Pp | *Pp* | п | Vv | *Vv* | в |
| Čč | *Čč* | ч | Kk | *Kk* | к | Rr | *Rr* | р | Yy | *Yy* | ы |
| Dd | *Dd* | д | Ll | *Ll* | ль | Ss | *Ss* | с | Zz | *Zz* | з |
| Ee | *Ee* | э | Łł | *Łł* | л | Śś | *Śś* | сь | Źź | *Źź* | зь |
| Ff | *Ff* | ф | Mm | *Mm* | м | Šš | *Šš* | ш | Žž | *Žž* | ж |

Я ja   Е je   Ё jo   Ю ju
(варыянты: **ja**na, **ja**, siam**ja**; **je**m, **ja**k ma**je**śsia; **jo**n, **jo**ść; zna**ju**, ma**ju**)
Я ia   Е ie   Ё io   Ю iu
(варыянты: **ja nia** ma**ju** p**ia**ra; **nie**, b**ie**ły; raka N**io**man; n**iu**ch, s**iu**dy)
Дж dž   Дзь dź


## Базавыя шапікі "НН" у Менску

*(працуюць без перапынку на абед і ў выходныя дні)*

| раён па "Белдруку" | № шапіка | адрас |
|---|---|---|
| Ленінскі | №11 | пр. Ф.Скарыны, 10 (каля Паштамту) |
| | №110 | вул. Пуліхава, 3 (каля гастраному) |
| Цэнтральны | №1 | пр. Ф.Скарыны, 38 (крама "Хлеб", мэтро "Пл. Перамогі") |
| | №109 | вул. Заслаўская, 9 (каля гастраному "Заслаўе") |
| Кастрычніцкі | №41 | вул. Маскоўская, 20 (каля ДБ, мэтро "Ін-т культуры") |
| | №303 | АС "Дружная" |
| Маскоўскі | №255 | пр. газэты "Правда", 14а |
| | №289 | пр. Любімава, 26-1 |
| Фрунзенскі | №14 | вул. Арлоўская — Фінская запраўка |
| | крама №21 | станцыя мэтро "Пушкінская" |
| Савецкі | №133 | вул. В.Харужай, 6 (каля прыпынку "Камар.рынак") |
| | №225 | вул. Кальцова, 48 |
| Першамайскі | №162 | пр. Ф.Скарыны, 89 |
| | №164 | пр. Скарыны — мэтро "Парк Чалюскінцаў" |
| Заводзкі | №200 | пр. Партызанскі, 36 |
| | №254 | вул. Сурганава, 17 |
| Партызанскі | №214 | пр. Ракасоўскага, 119 (насупраць кіно "Салют") |
| | крама №2 | пр. Ф.Скарыны, 44 (каля крамы "Оптыка") |

*Увага! У кнігарні "Сьветач" (пр-т Машэрава, 11) можна набыць "Нашу Ніву" па самых нізкіх у Менску коштах. У дзень выхаду газэты (панядзелак) у краме "Сьветач" "Нашу Ніву" можна набыць з 13.00.*





**"Наша Ніва"**
**незалежная газэта**
НАША НІВА
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

заснавальнік Павал Жук
рэдактар Сяргей Дубавец
выдавец БГФ "Наша Ніва"
адказны сакратар Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі Андрэй Лапцёнак, Віктар Корзун
дызайн і вёрстка Лявон Раманчык
набор Тацяна Чуйвід
стыль і карэктура Юрась Бушлякоў пры ўдзеле Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі Зьміцер Бартосік (тэл. 56-94-36)



**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ**
**220123 Менск, а/с 71**
**Тэл./факс 239-78-49**
**E-mail: edit@niva.minsk.by**



**Падпісны індэкс 63125**





Наклад 5100. Нумар падпісаны ў друк 19[55], 23/3/1997. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 1616. Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.